# УСПАМІНЫ

ВАСІЛЬ РАГУЛЯ



---

НЬЮ ЁРК

1957

## *АД ВЫДАЎЦЫ.*

*16-га чэрвеня 1955 г. пасьля доўгай і цяжкай хваробы памёр у Нью Ёрку Васіль Рагуля — былы беларускі пасол і сэнатар польскага парляманту ў 1920-1930 гадох.*

*Ужо на эміграцыі, у часе прабываньня ў Бэльгіі, ён напісаў успаміны, якія гэтым аддаю ў рукі беларускага грамадзтва.*

*Палажэньню беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі ў межах польскае дзяржавы ў пэрыяд 1920-1939 гадоў, ягонаму змаганьню за эканамічныя, культурныя і нацыянальна-дзяржаўныя правы, ў нашым друку няшмат дагэтуль было прысьвечана ўвагі, калі ня лічыць некалькі газэтных, не заўсёды аб'ектыўных артыкулаў.*

*Адсутнасьць праўдзівага насьвятленьня фактычнага стану рэчаў у беларуска-польскіх суадносінах за гэты пэрыяд дае магчымасьць яшчэ і сяньня некаторым польскім эміграцыйным колам прэтэндаваць на Заходнюю Беларусь, прадстаўляючы яе перад заходнім сьветам, як польскую тэрыторыю, а беларускае насельніцтва яе, як ляяльных грамадзянаў польскае дзяржавы ў пэрыяд між дзьвюма апошнімі войнамі.*

*З другога боку, цяпер, калі ўвесь беларускі народ з Заходняю Беларусьсю ўключна паку-*

*туе пад гнётам бальшавіцкага каляніялізму, які сяньня, як і ў 1925 г., прыкрываюцыся маскаю апякуна нацыянальна-вызвольных рухаў каляніяльных, паўкаляніяльных і эканамічна адсталых народаў, далей прасоўвае свае мацкі ўва ўсіх напрамках, — асабліва знаэньня набірае трагічны канец „Грамады" і яе лідараў.*

*Насьвятляючы ўсе гэтыя падзеі і людзей з пэрыяду акупацыі Заходняй Беларусі Польшчаю, даючы шмат фактычнага матар'ялу, успаміны дапамогуць нашаму народу і ягоным дзеячом правідлова ацаніць мінуўшчыну, каб зрабіць з яе патрэбныя высноўкі на будучыню.*

*У дадатку да ўспамінаў зьмешчаны некалькі выбраных прамоваў пасла В. Рагулі з соймавае трыбуны, а таксама сьпіс усіх ягоных прамоваў у Сойме за пэрыяд першага склікацьня польскага парляманту (1922-1927 г. г.). Матар'ял гэты я ўзяў з урадавых пратаколаў соймавых паседжаньняў, якія перахоўваюцца ў Публічнай Бібліятэцы ў Нью Ёрку.*

*Згоднасьць гэтых прамоваў з успамінамі, напісанымі 30 год пасьля, пацьвярджае праўдзівасьць успамінаў у насьвятленьні іх аўтарам падзеяў, людзей і самога сябе.*

*Няхай гэтая кніжка будзе ўшанаваньнем памяці аднаго з лідараў беларускага нацыянальнага руху ў Польшчы, лідара з волі народу, бо два разы выбранага гэтым народам: першы раз на становішча пасла, другі раз на становішча сэнатара.*

*М. Рагуля*
*Лістапад, 1957 г.*
*Нью Ёрк.*

## *ПРАДМОВА.*

16-га лістапада сёлета мінае 31 год з дня, калі група беларускіх паслоў і сэнатараў пераступіла парог польскага Сойму, як паўнапраўныя сябры польскага парляманту і прадстаўнікі беларускага народу ў уставадаўчых палатах Польскай Рэспублікі. Шмат вады ўцякло з таго часу, многа ўдзельнікаў актыўнай палітычнай працы зыйшло ў магілу: адны насільна, другія натуральна. Сярод жывых засталося іх вельмі мала.

Шмат хто з беларусаў другога пакаленьня, асабліва з савецкай часткі Беларусі, мала абзнаёмлены з гэным пэрыядам жыцьця беларусаў пад Польшчай. Уступаючы іх настойлівым просьбам, пасьля даўгіх ваганьняў, я наважыў пасьвяціць вольны цяпер у мяне час на тое, каб аб'ектыўна і дабрасумленна асьвятліць перад сучасным пакаленьнем працу Беларускага Пасольскага Клюбу і тагачасных палітычных дзеячоў, а таксама і настроі нашага народу. Я добра разумею, што знойдуцца пакрыўджаныя і незадаволеныя. Што-ж зрабіць? Ім магу сказаць: што пасеялі, тое і пажнеце. Я катэгарычна заяўляю, што буду імкнуцца ўнікаць прадузятасьці, буду далёкі ад варожасьці, сымпатыі ці антыпатыі, як да палітычных плыняў сярод беларусаў, так і да паадзіночных асобаў тае пары, не выключаючы і самога сябе.

Я буду шчасьлівы, калі напісанае мною ўсьцеражэ нашых сучасных і будучых палітычных і грамадзкіх дзеячоў ад паўтарэньня памылак іх бацькоў.

19. VI. 1953., Лювэн, Бэльгія

*МАЯ БІЯГРАФІЯ*

Нарадзіўся я 16-га ліпеня 1879 г. ў вёсцы Ачукевічы, Любчанскай воласьці, Наваградзкага павету. Па сканчэньні пачатковай школы, я ўступіў у Маладэчанскую Настаўніцкую Сэмінарыю, якую скончыў у 1898 г.. Да 1903 г. быў настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы Налібокі. У 1903 г. уступіў у Віленскі Настаўніцкі Інстытут, які і закончыў у 1906 г.. У гэтым самым годзе я быў арыштаваны за распаўсюджваньне „Выборгского воззвания". Дзеля бяздоваднасьці мае віны справа была зьліквідавана і я атрымаў пасаду настаўніка вышэйшае пачатковае школы ў Смаргонях, а ў 1908 г. быў пераведзены на такую самую пасаду ў 3-цюю Менскую Вышэйшую Пачатковую Школу. Будучы настаўнікам, я гарнуўся да грамадзкае працы. Падчас летніх вакацыяў я зарганізаваў у родным мястэчку бясплатную падрыхтоўку хлапцоў для паступленьня ў гарадзкія вучылішчы і ў настаўніцкую сэмінарыю. Апрача гэтага, з удзелам настаўнікаў і настаўніц я арганізоўваў аматарскія пастаноўкі спэктакляў. За два гады мы паставілі „Рэвізор" Гогаля і „Дзядзю Ваню" Чэхава. У пастаноўцы спэктакляў даваў нам вялікую дапамогу земскі начальнік, казачы штабс-ротмістр Ілавайскі, шчыры дэмакрат. На спэктаклях ягоная жонка арганізоўвала на свой кошт багаты буфэт. Як на тыя часы, білеты каштавалі дорага: ад 5 рублёў — крэсла першага раду, да 50 капеек за стаячыя месцы ззаду. Буфэт, карты і білеты давалі разам да 1000 рублёў за спэктакль. Даход з двух спэктакляў

быў каля 2000 рублёў. Па прапанове таго-ж Ілавайскага, на гэтыя грошы мы вучылі ў менскай гімназіі двух сялянскіх хлапцоў: Логіна і Каравайчыка. З дапамогай менскай настаўніцкай арганізацыі мне і ўдалося працягнуць гэтых хлапцоў праз гімназію.

У 1914 г. я быў змабілізаваны ў армію, дзе, як вайсковы ўрадавец, праслужыў да чэрвеня 1918 г., калі быў звольнены бальшавікамі. У восень 1918 г., я пераехаў у Менск і працаваў у якасьці настаўніка чыгуначнай 4-х клясовай школы. Вясною 1920 г., пасьля акупацыі Менску палякамі, нашую школу польскі інспэктар зачыніў, а настаўнікі былі пушчаны на „зялёную траву”. Каб перачакаць вайсковую завіруху, я наважыў пераехаць на гаспадарку ў родную вёску. Маючы карову, каня, плуг і барану (калёс ня меў), я шчыра ўзяўся за гаспадарку. Цяжка было гаспадарыць бяз грошай. Зноў прыйшлі бальшавікі і мяне, як прыналежнага да „комсостава”, мабілізавалі і загналі ў Смаленск. Так я прабыў у чырвонай арміі да ратыфікацыі польска-савецкае ўмовы. 24-га красавіка 1921 г. я ўцёк з чырвонае арміі дамоў. Удома я застаў толькі дзяцей. Жонка трагічна згінула — апалілася і памерла. Зноў пачалося цяжкае жыцьцё. Працы шмат, а грошай няма адкуль узяць. На боты грошай ня было, дый лапці не заўсёды былі цэлыя.

У восень 1922 г. я быў выбраны беларускім паслом польскага Сойму, а пасьля, у 1928 г. — сэнатарам. Калі Сэнат быў распушчаны я мусіў адбыць судовую кару — 2 гады цяжкае турмы. Адбыўшы яе я ізноў вярнуўся на гаспадарку, ды адначасна быў старшынёю рэвізыйнае рады касы Стэфчыка, бяз ніякае ўзнагароды.

У 1939 г., калі прыйшлі бальшавікі, я пачаў працаваць настаўнікам у савецкай дзесяцігод-

цы. 20-га чэрвеня 1941 г. бальшавікі арыштавалі мяне разам з другімі беларусамі і павезьлі на ўсход. 2 дні пазьней пачалася вайна з немцамі і мне ўдалося за Менскам уцячы ды вярнуцца пешкі дамоў. Тут беларускі актыў выбраў мяне старшынёю беларускага валаснога камітэту. Любча была першая мясьціна ў наваградчыне, дзе быў вывешаны бел-чырвона-белы сьцяг, які бесперапынна вісеў да самага нашага адыходу на захад. Пасьля наваградзкі "Gebitskommissar" назначыў мяне, без мае згоды, бургомістрам Дзятлаўскага раёну. Там я быў да часу, калі нямецкі фронт пачаў каціцца на захад. 3-га ліпеня 1944 г. давялося ўцякаць на захад, дзе і туляюся да сяньняшняга дня.

*19.II. 1954 г.*
*Лювэн, Бэльгія.*

*I.*

## ПАЛАЖЭНЬНЕ Ў НАШЫМ КРАІ АД 1920 ДА ВЫБАРАЎ 1922 г.

Палажэньне як сялянства, так і інтэлігенцыі можна схарактэрызаваць адным словам: застрашанасьць. Гэта быў вынік ваеннага тэрору. Адных — інтэлігенцыю застрашвалі вязьніцай і высылкай у СССР, другіх — сялянства — розгай. Кожнаму селяніну неадчэпна зьвінела ў вушох "dwadzieścia pięć". Народ, як чарапаха перад небясьпекаю, уцягнуўся ў сваю шкарлупіну і чуйна прыслухоўваўся да ўсходу. Аб "Wolni z wolnymi, równi z równymi", або "Za waszą wolność i naszą" (словы адозвы Пілсудзкага да беларускага народу падчас вайны) гаварылі з ірокіяй і сарказмам.

Частка Ўраду БНР пераехала спачатку ў Вільню, адтуль у Коўню, а потым у Чэскую Прагу, дзе і прабывала да канца другой сусьветнай вайны. Другая частка, на чале з А. Луцкевічам, зрабіла ўгоду з палякамі, ды пад іх крыльцам арганізавала ў Лодзі Найвышэйшую Вайсковаю Раду. Яна праіснавала да канца польска-савецкай вайны. Пасьля сканчэньня вайны Рада сталася непатрэбнай палякам, якія яе і зьліквідавалі. Луцкевіч і Тарашкевіч ехалі з Лодзі ў Вільню як кандыдаты ў беларускія міністры, а прыехалі туды як рэфэрэнты. Так старшыня БНР апусьціўся да стано-

вішча маленькага польскага ўрадаўца, здаўшы незалежніцкія пазыцыі на ласку сп. Пілсудзкага і ягонага акружэньня.

Я жыў у самай сялянскай гушчы і ня меў ніякага кантакту з віленскімі дзеячамі. Уся мая палітычная праца зводзілася да палітычных гутарак дзеля ўзьняцьця нацыянальнай сьведамасьці навакольнага сялянства. Вароачаючыся з працы ў полі ці з сенажаці, я заўсёды чуў пытаньні: „Васіль Цімафеевіч, што гэта будзе? Няўжо ня будзе гэтаму канца?” „Пачакайце, грамадзяне, як бы ня было, а прыйдзе час і вы скажаце сваё слова. Распусьцяць Сойм, будуць новыя выбары (праца Ўставадаўчага Сойму набліжалася ўжо да канца). Мы тады і павінны будзем пастарацца правесьці ў Сойм як найбольш сваіх кандыдатаў, якія і скажуць сваё важкае слова ды будуць нашымі абаронцамі, да каторых мы будзем зьвяртацца з усякімі заявамі, просьбамі і скаргамі”.

Нашая інтэлігенцыя была нешматлікай. Невялікая групка, што была ў Вільні арганізавала Беларускі Нацыянальны Камітэт з А. Луцкевічам на чале. Аб існаваньні гэтага камітэту на правінцыі ніхто нічога ня ведаў і ня чуў. Сябры камітэту жылі замкнутаю групаю ў Вільні і не навязвалі ніякіх кантактаў з вясковаю інтэлігенцыяй. Усе баяліся паказаць сваё запраўднае аблічча, стараючыся насіць маску ляяльнага грамадзяніна. Я асабіста нічым не адрозьніваўся ад іншых. Інтэлігенцыя была няпрыкметнаю, як няпрыкметны капелькі тлушчу, пяць грамаў якога былі кінуты ў вялікі кацёл стравы. Вялізарны процант яе застаўся на ўсходзе і не таму, што яны сымпатызавалі бальшавіком, а толькі таму, што ве-

даючы палякаў з гісторыі нашага народу, яны пабаяліся ехаць на Бацькаўшчыну. Інтэлігенцыя, што жыла пад польскаю ўладаю, як я ўжо сказаў, была застрашана магчымасьцю быць выкінутаю сілком на ўсход. Праваслаўная частка нашага народу, не выключаючы і вясковай інтэлігенцыі, была настроена, я сказаў-бы, не прабальшавіцка, а прарасейска, сярод яе пераважала русафільства. Сярод-жа каталіцкай часткі большасьць была настроена палянафільска, за выняткам некаторых месцаў, як: Жодзішкі, з ксяндзом Гадлеўскім, Мядзьведзічы, з ксяндзом Татарыновічам, ды яшчэ некалькі іншых месцаў. Сярод каталіцкага сьвятарства была група беларускіх ксяндзоў патрыётаў: Адам Станкевіч, Абрантовіч, Рэшаць, Стэповіч, Шутовіч, Гадлеўскі, рэктар каталіцкай духоўнай сэмінарыі ў Наваградку, прозьвішча якога я, нажаль, забыўся.

Праваслаўнае сьвятарства было разглядана палякамі як актыўны русафільскі элемэнт. Яно было пад падозраньнем і наглядам паліцыі. Сьведамых беларусаў-незалежнікаў сярод гэтага сьвятарства было вельмі мала, процант блізкі да нуля. Амаль усе сьветары былі расейцы і па духу і па паходжаньню.

## ВЫБАРЧЫ ЗАКОН.

Каб зразумець прабег і вынікі выбараў у Заходняй Беларусі (так буду называць беларускія землі ў межах Польшчы), трэба затрымаць увагу на структуры выбарчага закону, выпрацаванага пад кіраўніцтвам кс. Лютаслаўскага і зацьверджанага Ўставадаўчым Соймам. У аснове гэтага закону была думка: дапусьціць у палаты па магчымасьці найменшую

колькасьць прадстаўнікоў ад нацыянальных меньшасьцяў — беларусаў, украінцаў, немцаў, жыдоў, ліцьвіноў і расейцаў. Таму акругі з пераважаючым няпольскім жыхарствам маглі паслаць меньш сяброў палатаў, чымся акругі з карэнным польскім жыхарствам. Была ўведзена г. зв. дзяржаўная ліста ((Lista Państwowa). Агульная колькасьць сяброў Сойму была 444, а Сэнату — 111. З гэтай колькасьці выбіралася непасрэдна жыхарствам 360 сяброў Сойму, а 84 прыпадала на дзяржаўную лісту. Падобны быў падзел і сэнатарскіх мандатаў. Нажаль ня памятаю сяньня колькі мандатаў прыпадала на дзяржаўную лісту. Выдзеленыя для дзяржаўнай лісты мандаты, як пасольскія так і сэнатарскія, дзяліліся вышэйным выбарчым камісарам у Варшаве між партыямі, прапарцыянальна да агульнай колькасьці галасоў, паданых за тую ці іншую лісту на тэрыторыі ўсяе рэспублікі. Пры гэтым, правам атрыманьня мандатаў з гэтага сваеасаблівага дзяржаўнага рэзэрву карысталіся партыі, што атрымалі мандаты ня меньш, як у 5-цёх розных акругах, хаця-б толькі па адным мандаце на акругу. Гэтым адсоўваліся ад дзяльбы слабейшыя партыі, ды ўзмацняліся мацнейшыя. Гэтая выбарчая хітрыка была накіравана галоўным чынам супроць нацыянальных меньшасьцяў, з якіх ні адна, не вылучаючы і ўкраінцаў (Галіччына выбары байкатавала), не змагла прыняць удзелу ў дзяльбе таму, што ні Валынь з Падляшшам і ні адна меньшасьць не маглі правесьці дэпутатаў у 5 акругах. Вось гэта і сталася прычынай аб'яднаньня ўсіх нацыянальных меньшасьцяў у адной лісьце. Яны атрымалі з гэтага рэзэрву 12 мандатаў, якія і падзялілі між сабою.

Каб ліста была правамоцнай, трэба было, каб яе падпісалі ня меньш за 50 выбаршчыкаў. Першы, што падпісаўся, лічыўся ўпаўнаважаным лісты пры яе разглядзе акруговым выбарчым камісарам, які іх і нумараваў паводля парадку пастпуленьня. Лісту нацыянальных меньшасьцяў у Наваградзкай акрузе падпісала мая вёска, і яна атрымала Нр. 16.

## II.

## ВЫБАРЫ Ў СОЙМ І СЭНАТ.

У перадвыбарчы час можна было склікаць мітынгі нават і пад голым небам. Дастаткова было, каб хто небудзь за 24 гадзіны перад мітынгам паведаміў на паліцыйны пост аб скліканьні сходу, ды дзе і калі ён адбудзецца. Кіраўнік мітынгу адказваў за ягоны парадак і меў права даць голас кожнаму грамадзяніну, які хацеў гаварыць. Прадстаўнік паліцыі запісваў зьмест гутаркі прамоўцаў, не мяшаючыся ў спрэчкі. Свабода слова была шырокая. Ня можна было гаварыць супроць польскай дзяржаўнасьці. У падобных выпадках умешвалася пракуратура і цягнула агітатара да адказнасьці. У Наваградку, адзін з прамоўцаў — Курчэйка, гаворачы за лісту Нацыянальных Меньшасьцяў, скончыў сваю прамову клічам: „Далоў Польшчу!", за што і быў пакліканы да адказнасьці паводля славутай 129 стацьці расейскага Крымінальнага Кадэксу, прынятага тады ў Польшчы. Аднак чалавек, які ведаў абраз думак і настрояў масы, мог спрытна і безпакарана працягнуць кантрабанду недазволенага.

Усіх партыяў, што выступалі на выбарах, было больш за 30. На нашай тэрыторыі канкуравалі: Нр. 1 — Народная Дэмакратыя, Нр. 2 — Польская Партыя Сацыялістаў, Нр. 3 — Польская Партыя "Wyzwolenie", Нр. 5. — Камуністы, Нр. 16 — Нацыянальныя Меньшась-

ці і Нр. 22 — Дзяржаўнае Абеднаньне на Крэсах (Państwowe Zjednoczenie na Kresach). Галоўнымі канкурэнтамі ў Наваградчыне былі Нр. 3 і Нр. 16, а ў Піншчыне — Нр. 2. і Нр. 16.

### ПАЧАТАК ВЫБАРЧАЕ КАМПАНІІ.

Памятаю дажджысты вечар канца жнівеня, ці пачатку верасьня, 1922 году. Прыехаўшы з поля я вячэраў. Кроплі дажджу цабанілі па шыбах. Я пачуў ледзь чутны стук у вакно. Выйшаўшы на ганак я сутыктуўся ў поцемках са сваім аднавяскоўцам Тамашом Уласэвічам, які, увайшоўшы за мною ў кухню, палахліва, паўшэптам, сказаў:

— Цімафеевіч, відаць прыйдуць расейцы. —

— Чаму? —

— Сяньня на рынку гаварыў прамоўца! —

— Што-ж ён казаў? —

— Казаў, што беларусам цяжка жыць, што ў нас дрэнныя парадкі, няма школаў, што настаўніцамі працуюць ксяндзоўскія кухаркі і шмат чаго іншага. —

Я яму растлумачыў, што гэта пачалася выбарчая кампанія. Як выявілася, гаварыў кандыдат у паслы ад партыі "Wyzwolenie" — Шакун. Пасьля гэтага нейкі Кінчук — украінец, па асабістых запросінах сабраў сход у валасьці і агітаваў галасаваць за лісту Нр. 22. Мы ўсе былі запалоханыя, і ніхто не адважыўся забраць голас. Я таксама пабойваўся, каб тут ня была пастаўлена на нас пастка. Усе маўчалі і паглядалі ў мой бок. Урэшце, перамогшы нутраны страх, я ў вельмі асьцярожны спосаб выказаў думку, што цяпер мы ня зможам сказаць, за каго мы будзем галасаваць, таму што ня ведаем ані партыяў, ані паасобных выдат-

ных асобаў, за якіх нас просяць галасаваць. На гэтым сход і скончыўся. Ля выхаду Кінчук падыйшоў да мяне і сказаў: „Пане Рагуля, вы будзеце выбраны на пасла".

Мінула некалькі дзён. Усюды ціха, ніякае агітацыі. Нарэшце, у адзін верасьнёвы дзень, калі я ссыпаў у пограб бульбу, прыехаў да мяне настаўнік з нашага мястэчка — Л. Буйвал і запрапанаваў мне ехаць у суседняе мястэчка Нягневічы, на канфэрэнцыю чатырох валасьцяў: Шчарсоўскай, Нягневіцкай, Любчанскай і Гарадэчанскай. На канфэрэнцыі мелася вырашыцца пытаньне выбару дэлегата на беларускі зьезд у Баранавічах. Я шчыра адмаўляўся, матывуючы адсутнасьцю часу. Тады Буйвал сказаў: „Ніхто ня можа паехаць, апрача цябе. Ты ня маеш маральнага права адмовіцца". Сусед П. Кайдак, таксама настаўнік, настойліва прасіў ехаць і абяцаў, што ён з сястрою і братам памогуць капаць бульбу. Я згадзіўся. Грошы на падарожжа ў Нягневічы, а пасьля ў Баранавічы і назад, даў мне старшыня каапэратывы ў Любчы, настаўнік Гірыс.

Канфэрэнцыя ў Нягневічах адбылася ў памешканьні А. Орсы, пры дзейным удзеле студэнта Амельяновіча, які пасьля стаўся рэдактарам беларускай выбарчай газэты „Будучыня", ці „Бацькаўшчына", добра я ня памятаю. У будучыні, калі пракуратура прыцягнула яго да судовай адказнасьці за артыкулы ў газэце, ён эміграваў у Чэхію. Убачыўшы гэтага Амельяновіча ў польскай студэнцкай шапцы, я паставіўся да яго з недаверам падазраючы ў ім паляка. Прапанову ехаць у Баранавічы ў якасьці дэлегата, я адхіліў; я сказаў тое што думаў: „Я — русафіл, і можа на гэта не надаюся. Вам, магчыма, патрэбны палянафіл?"

Мне адказалі: „На гэта нам такога і трэба, як вы". Пасьля гэтага я згадзіўся ехаць на Баранавіцкі зьезд. У той час я сапраўды стаяў на пункце гледжаньня фэдэрацыі з Расеяй, адхіляючы ідэю незалежнасьці, як падсунутую, паводля майго тагачаснага перакананьня, палякамі.

У жаўнерскай шапцы і шынялі, у скураных лапцёх я і зьявіўся на зьезд. Некаторыя гавораць і сяньня, што гэта была дэмагагічная дэкарацыя. Я сам саромеўся гэтага абутку і, выступаючы на мітынгах, стоячы на сялянскім возе, я хаваў лапці ў гарохавіньні. Я мушу сьцьвердзіць, што гэта ня быў маскарад, а скрайная неабходнасьць, таму што мая зямля нічога яшчэ не давала, бо ляжала дзірваном.

Зьезд адчыніўся ў пажарным дэпо ў Баранавічах. Зьехаліся дэлегаты ад усіх пяці паветаў акругі: Наваградзкага, Слонімскага, Стаўпецкага, Нясьвіскага і Баранавіцкага. Усіх дэлегатаў было каля 40: настаўнікі, фэльчары і простыя сяляне. Адразу выявіліся дзьве плыні: за Блёк Нацыянальных Меньшасьцяў і другая, за „Дзяржаўнае Аб'еднаньне на Крэсах". Першую рэпрэзэнтаваў сябра Віленскага Цэнтральнага Камітэту — М. Кахановіч, а другую — ведамы „гэнэрал" Булак-Балаховіч, „доктар", што ня скончыў Вайсковай Мэдыцынскай Акадэміі — Паўлюкевіч і нейкі інжынер, ні паляк, ні беларус, ён, аднак, выдатна гутарыў пабеларуску.

Спрэчкі прынялі адразу самую бурлівую форму. Прыхільнікі Блёку выказваліся вельмі асьцярожна. Іх праціўнікі-ж пачалі з высокіх нотаў. Каб даць дыскусіі спакайнейшы ход, я запрапанаваў, каб з кожнай групы вы-

казаліся трох за Блёк, і трох за „Дзяржаўнае Аб'еднаньне на Крэсах". Запісаліся гаварыць ад Блёку Кахановіч і настаўнік Навагрудзкай Беларускай Гімназіі — Цеханоўскі. Трэцяга ня было. Пасьля некаторага хістаньня запісаўся і я. З процілеглага боку запісаліся: Булак-Балаховіч, Паўлюкевіч і інжынер. Першыя гаварылі мы за Блёк у парадку запісу. Калі я скончыў, на месцах нашых праціўнікаў падняўся страшэнны гоман. Пачуліся крыкі: „Бальшавікі! Пастраляць іх!" Булак-Балаховіч і Паўлюкевіч павыцягвалі з кішэняў рэвальвэры. На зьезьдзе ўзьнікла паніка. Усе, як статак авечак, кінуліся ў выхад. Толькі на двары нам удалося дагаварыцца сабрацца на заўтра каб скласьці лісту кандыдатаў у дэпутаты. Стараньнямі А. Назарэўскага было знойдзена адпаведнае памешканьне, дзе і быў складзены праект лісты нашых кандыдатаў: у Сэнат — М. Кахановіч, і доктар Кізевіч; у Сойм — Ф. Ярэміч, М. Кахановіч, Ю. Сабалеўскі, настаўнік Шнаркевіч і адзін малады інжынер з Міра ( прозьвішча ня памятаю). Сваю кандыдатуру я станоўка адхіляў баючыся, што пры сваім гарачым тэмпэраманце я ўзброю супроць сябе мясцовых палякаў, асабліва асаднікаў, якія маглі-б пры нагодзе мяне застрэліць. Пасьля доўгага ўгаворваньня я ўмоўна згадзіўся, просячы адкласьці гэтае пытаньне да абмеркаваньня ў навагрудзкім камітэце. На гэта прысутныя згадзіліся.

Назаўтра мы сабраліся ў кабінэце старшыні навагрудзкага камітэту — адваката Друцкага-Падбярэскага. Прысутны быў таксама і М. Кахановіч. Я прасіў ня ставіць мае кандыдатуры, матывуючы тым, што я ня маю дастатковае эрудыцыі для будучай працы. Гутаркі

цягнуліся ўсю доўгую верасьнёвую ноч. Мой апошні аргумант быў: „Пашкадуйце маіх дзяцей і ня стаўце мае кандыдатуры. Мяне могуць забіць". Усім нам было ведама, што ўкраінец, кандыдат у паслы — Твэрдохліб, быў забіты ў сваёй хаце стрэлам праз вакно. Урэшце, пахадзіўшы па кабінэце, я сказаў: „Добра, я згаджаюся. Толькі стаўлю другім кандыдатам акругі ўмову: я прыхільнік ангельскай сыстэмы, дзе кандыдаты ў дэпутаты аб'яжджаюць сваю акругу і выступаюць перад выбаршчыкамі з праграмнымі прамовамі. Я люблю цягнуць, але ня люблю падпіраць" — разумеючы пад гэтым сваё трэцяе месца. Выясьненьне Кахановіча, што фактычна я займу другое месца, бо Ф. Ярэміч возьме, магчыма, першае месца ў Піншчыне, я прыняў да ведама. Я баяўся ўпрагацца ў адзін воз з няведамымі мне людзьмі, што незнаёмыя мне асабіста Кахановіч і Ярэміч, якіх я ніколі і нідзе не сустракаў, могуць мяне скампраметаваць перад выбаршчыкамі неадпаведнай тактыкай у Сойме і маральнымі паводзінамі вонкі.

Мая кандыдатура прыйшлася не да смаку віленчуком, асабліва-ж А. Луцкевічу (ён лічыў мяне заядлым маскалём). Толькі безнадзейнае трэцяе месца, паводля іх меркаваньняў, іх супакойвала. Зьняць маю кандыдатуру яны не маглі таму, што ліста кандыдатаў складалася ў Наваградку, а подпісы далі выбаршчыкі мае вёскі.

## ФІНАНСАВАНЬНЕ ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ.

Самым цяжкім пытаньнем для разьвязаньня, што паўстала перад віленскім камітэтам, было пытаньне фінансаў. Наш выбаршчык ня мог

даць нічога. Краіна была зьнішчана, а сялянства значна зьбяднеўшы. У некаторых раёнах, дзе яшчэ нядаўна прайходзіў фронт, людзі даслоўна паміралі з голаду. Чалавек, што паміраў, прасіў: „дайце мне кавалачак хлеба і я буду жыць". Сваіх капіталістаў і багатых абшарнікаў ня было. Сродкі, аднак, трэба было знайсьці. Тут нам і памагла ліста дзяржаўная (Państwowa), якая як я ўжо сказаў, выклікала стварэньне Блёку Нацыянальных Меньшасьцяў. Беларусы і ўкраінцы давалі свае галасы, а немцы і жыды, апрача галасоў, давалі на выбары і грошы. За якую цану атрымалі гэта беларусы, аб гэтам ведае Ф. Ярэміч і другія сябры віленскага камітэту. Гэта тайна на якую цяпер мог-бы кінуць сьвятло Р. Астроўскі, каторы, праўдападобна, блізка стаяў до камітэту. Думаю, што гэная цана была ня меньш двух месцаў: адно немцам і адно жыдом. Сам камітэт не палічыў за патрэбнае даць справаздачу. Акруговыя камітэты атрымалі вельмі мала, а кандыдаты, для выездаў на агітацыю, яшчэ меньш. На падарожжы і харчаваньне ў час агітацыі, я асабіста атрымаў ад Кахановіча 4000 польскіх марак. Каб усе зразумелі, якая была запраўдная вартасьць гэтых 4000, раскажу наступны выпадак: я прыйшоў у Мір, маючы ў кішэні 1000 марак. Была восеньская раніца. Я зайшоў у шынок, выпіў чарку гарэлкі, зьеў селядца і выпіў шклянку гарбаты. За ўсю гэтую „пачостку" я заплаціў 1000 марак. Мяне выбавіў з цяжкаватага становішча мірскі жыдоўскі камітэт, які на просьбу беларусаў, даў мне на дарогу 4000 польскіх марак. Вось з якімі сродкамі давялося мне пешкі бегаць на Наваградчыне.

## ПЕРАДВЫБАРЧАЯ АГІТАЦЫЯ.

Вярнуўшыся з Наваградка, у базарны дзень, я ўладзіў першы перадвыбарчы сход на плошчы ў родным мястэчку — Любчы. Мне давялося пярэчыць студэнту-паляку, нейкаму Забелла. Тут я і зразумеў, што не сьвятыя гаршкі лепяць: натоўп выступіў на маім баку. Першая перамога ўзьняла мяне на духу. Нашая боязьнь, што сялянства будзе супроць блёку з жыдамі, выявіліся беспадстаўнаю. Сяляне глядзелі цьвяроза на гэты саюз, як на скрайную неабходнасьць. На закід аднаго паляка, што беларусы ідуць з жыдамі, адзін беларускі селянін на рынку ў Стоўбцах адказаў: „Паночку, што-ж рабіць? Калі нападзе на мяне кароста, дык каб пазбавіцца яе, мажуся дзёгцем і лезу ў печ".

Я зразумеў што для схіленьня нашага выбаршчыка на свой бок, патрэбна вялікая частка дэмагогіі, памятаючы адначасова, што пад нагамі могуць апынуцца камяньні ў выглядзе польскай дзяржаўнасьці. Гэтыя каменьні трэба абходзіць спрытна, каб не парушыць закону і даць поўнае задаваленьне ўтоеным жаданьням выбаршчыка-беларуса. Доказам таго, што мне гэта ўдавалася няхай будуць словы пракурора, які, абвінавачваючы мяне ў 1928 г., сказаў: „Высокі Суд! Маем перад сабою эквілібрыста і жанглёра слова, які ў легальныя формы ўкладаў нелегальныя думкі". Польская Партыя „Wyzwolenie", за плячыма якой стаяў агэнт дэфэнзывы Ваевудзкі, карысталася бальшавіцкімі лёзунгамі, чаго мы, беларусы, не маглі сабе дазволіць з палітычных меркаваньняў. Вызваленцы гаварылі, што беларускія правадыры запрадаліся жыдоўскім і нямецкім фабрыкантам, купцом і банкірам,

што беларускіх ксяндзоў няма, што яны, вызваленцы, вядуць клясавае змаганьне супроць жыдоўскай і нямецкай буржуазіі, супроць абшарнікаў і кулакоў. Усё на адзін і той самы лад.

Нам заставалася іграць галоўным чынам на дзьвюх струнах: нацыянальнай і эканамічнай. Першая была ў той час слабая, другая — моцная. Мы націскалі на адсутнасьць беларускіх школаў і на польскае вайсковае асадніцтва. Гэты другі выбарчы конік быў вельмі карысны. Ён вырашыў пытаньне галасаваньня сялянскай масы на нашую карысьць. Пярэчачы вызваленцам я гаварыў, што яны, аддаўшы ў Ўставадаўчым Сойме свае галасы на карысьць асадніцтва, аграбілі наш народ, а цяпер, прыйшоўшы па нашыя галасы, праліваюць кракадзілавы сьлёзы (выясьняючы выбаршчыкам, што значыць „кракадзілавы сьлёзы"). Я гаварыў: „Нашую зямельку аддалі асаднікам, а гэта-ж нашая зямля, беларуская. Нашыя продкі апрацавалі яе для гаспадаркі, на ёй іх хвасталі розгамі; яна прасякнута потам, сьлязьмі і кроўю нашых дзядоў і прадзедаў. Вазьмеце жменю гэтай зямлі", казаў я, „моцна сьцісьніце і з яе пацячэ беларуская кроў і сьлёзы; галасуйце за сваю лісту, Нр. 16. Калі выбераце вызваленцаў, дык вы іх ня ўгледзіце да новых выбараў. Выбраўшы сваіх людзей (я выясьняў хто стаіць на лісьце Нр. 16), вы будзеце мець магчымасьць бачыць іх удома, сярод вас і, калі яны зрадзяць сваім цяперашнім абяцаньням, будзеце мець магчымасьць хоць плюнуць ім у вочы!" Усюды я атрымоўваў перамогу над сваімі праціўнікамі — вызваленцамі (Нр. 3), эндэкамі (Нр. 2) і пілсудчыкамі (Нр. 22).

У такім напрамку вялася агітацыя, хоць і з некаторымі зьменамі ў залежнасьці ад характару тых, што зьбіраліся, ды ў залежнасьці ад агульнага настрою.

Набліжалася сьвята Пакроваў (14 кастр.). Я атрымаў запіску з Нягневіч, здаецца ад А. Орсы, з просьбаю прыехаць да іх таму, што меліся прыбыць з Варшавы паслы ад лісты Нр. 3. Пабойваючыся спаткацца са спрактыкаванымі ў парляманцкай барацьбе праціўнікамі, падумаўшы, вырашыў аднак паехаць. Там я сустрэў кандыдатаў у паслы ад „Wyzwolenia", Гэльмана і Шакуна, маларазьвітых і слабых агітатараў. Яны закончылі сваё выступленьне, пры магільным маўчаньні прысутных, клічам: „Няхай жыве маршалак Пілсудзкі!" Усе глядзелі на мяне. Пасьля кароткай спрэчкі, яны далі мне слова. Я забраў голас і без вялікіх цяжкасьцяў атрымаў над праціўнікамі поўную перамогу. Пасьля Нягневіч, я ўладзіў мітынгі ў мястэчках Карэлічы, Мір, Ярэмічы, Турэц, Наваградак і другіх. Усюды я хадзіў пехатою, вымінаючы вялікія дарогі.

Характэрны быў сход у Міры. Калі я толькі закончыў прамову, прыйшлі да мяне Гэльман і Шакун, просячы слова. Натоўп падняў крык: „Вон! Далоў!" Я зьняў сваю шапку, ды махнуўшы ёю крыкнуў: „Ціха!" Калі гоман супакоіўся, я сказаў: „Ня бойцеся! Дайце гаварыць. Цяпер слухайце ўсіх і майце свой розум. Гэта час агітацыі, час палітычных лекцыяў. Гавораць: сем разоў адмерай, а раз адрэж; а я вам кажу: семдзесят сем разоў адмерай, а раз адрэж!" Калі мае праціўнікі закончылі клічам за Польшчу і Пілсудзкага, народ маўчаў, а толькі некалькі панкоў крыкнулі: „Niech

żuje!". Пасьля майго заключнага слова наступіў узрыў бурлівых воплескаў і гучнае „ура!"

З такім самым посьпехам прайходзілі мае мітынгі і ў другіх месцах. Толькі ў Ярэмічах я сустрэў маўклівую апазыцыю. Са стаўляных пытаньняў і з таго, што я ведаў раньней, я выснаваў, што там нуртавала моцная камуністычная плынь.

Так ішла мая агітацыя. Мае сябры па лісьце або палахліва бязьдзеялі, як у Слонімскай і Баранавіцкай акругах, або паціху агітавалі цераз знаёмых, як у Стаўпецкай акрузе, або агітавалі без адпаведнай энэргіі і запалу, як у Нясьвіскай. Праўда, кандыдат Шнаркевіч правёў некалькі мітынгаў. У другіх акругах Віленшчыны агітацыя вялася слаба, апрача Дзісьненшчыны, дзе значную энэргію выказалі кс. Адам Станкевіч і Мятла. У Піншчыне нашая агітацыя была роўна нулю. Там мы атрымалі толькі адзін мандат, і то жыдоўскімі галасамі. Ярэміч у акрузе нават і не паказаўся, а Кахановіч заглянуў толькі раз у Навааградзкую акругу. Рэшта кандыдатаў у сэнатары і паслы ня ўладзілі ніводнага перадвыбарчага мітынгу. Думаю, што гэта было ў выніку страху перад магчымымі пазьнейшымі рэпрэсіямі. Беларуская ніва, пры наяўнасьці добрай глебы і добрага зерня, дала, па мойму, незадавальняючы ўмалот — 11 паслоў і 3 сэнатараў, з якіх адзін прайшоў па дзяржаўнай лісьце. Прычыны — адсутнасьць дастатковай колькасьці сейбітаў, нявера віленскага камітэту ў посьпех, адсутнасьць энэргічнай агітацыі, з боку некаторых кандыдатаў, канкурэнцыя амбіцыяў, а, магчыма, і матар'яльны разьлік некаторых асобаў.

У выніку, толькі ў Навагрудзкай акрузе мы атрымалі з 6 — чатыры пасольскія мандаты і

адзін сэнатарскі. Другі сэнатарскі мандат здабылі ў Віленшчыне. Ніводная з рэшты акругаў не дала больш як па 2 мандаты. Пры інтэнсыўнай агітацыі мы мелі-б ня меньш 24 дэпутацкіх мандатаў. Напрыклад, у Наваградзкай акрузе мы, я сказаў-бы, дзякуючы нашай палітычнай неахайнасьці, аддалі 2 мандаты лісьце Нр. 3. Каб ня быць галаслоўным, паклічуся на наступныя дадзеныя: ў Наваградзкую акругу ўвайходзіла 5 паветаў: Наваградзкі, Слонімскі, Нясьвіскі, Баранавіцкі і Стаўпецкі. Падалі галасоў за лісту Нр. 16: ў Наваградзкім павеце — 24000 (лічу ў цэлых тысячах) з 29000 выбаршчыкаў, у Нясьвіскім — 8000, у Стаўпецкім — каля 4000, у Слонімскім і Баранавіцкім паветах — па 3000. Ня маю пад рукою дадзеных адносна агульнай колькасьці выбаршчыкаў у кожным з гэтых паветаў. Лічу, што Нясьвіскі павет ня ўступаў Наваградзкаму. Іншыя, магчыма, як радзей заселеныя, мелі крыху меньш. Найменьш галасоў далі тыя паветы, дзе была слабая агітацыя, як у Слонімскім і Баранавіцкім. Гэтыя паветы, уключна з Нясьвіскім, з пераважаючым праваслаўным насельніцтвам, маглі даць мала меньш галасоў чым Наваградзкі. Мы лёгка атрымалі-б на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі ня меньш 24 пасольскіх мандатаў. Здабылі-ж толькі 11. Такая акруга як Лідзкая, у якой быў вялікі % жыдоў (а жыды галасавалі дружна), разам з г. Лідаю, мястэчкамі Васілішкі, Валожын, Шчучын і інш. дала толькі 2 мандаты. Апрача таго беларусы прайшлі і па польскіх лістах: Балін, Галавач, Шакун і Шапель па лісьце Нр. 3, і Дуброўнік па лісьце Пяста.

Пінская акруга была цалком аддадзена польскім партыям. Украінцы прызналі яе бе-

ларускай і не агітавалі, а беларусы ня ткнулі туды і носа. З поўнай свабоды бесканкурэнцыйнай агітацыі скарыстала П.П.С. і забрала ўсе 6 мандатаў. Патрабавалася невялічкай натугі з нашага боку каб павярнуць выбаршчыка да лісты Нр. 16. Настроенае радыкальна і русафільска насельніцтва аддало-б свае галасы за Блёк. Бяз нашай агітацыі яно паверыла, што галасуючы за Блёк, яно галасуе за нямецкіх і жыдоўскіх буржуяў.

Дзе-ж прычына нашага ў сапраўднасьці выбарчага паражэньня? У народзе? Не! У кіраўніцтве выбарамі? Так! Сябры Цэнтральнага Выбарчага Камітэту ў Вільні ня былі самы ўпэўнены ў посьпех прадпрыемства, былі апанаваны польскім тэрорам і пагоняю за мандатамі. Гэта, па мойму, і было прычынаю слабой актыўнасьці адных, ды амаль поўнай адсутнасьці яе ў другіх. Кахановіч і Аўсянік увесь час аддавалі на малітвы Бахусу; Ярэміч быў заняты дыпляматычнымі перагаворамі з немцамі і жыдамі ў Варшаве. Ён заняў тры пэўныя нашыя месцы: першае ў Піншчыне, першае ў Наваградчыне і 7-ае на дзяржаўнай лісьце. Кахановіч — другое ў Наваградчыне і 16-ае на дзяржаўнай лісьце. Ярэміч прыняў мандат у Піншчыне, а наш мандат па Наваградчыне перапаў жыду Стучынскаму, а па дзяржаўнай лісьце — немцу ці жыду, што стаяў на 8-мым месцы. Такім чынам, апрача пінскіх мандатаў, мы страцілі 2 мандаты дзяржаўнай лісты — 7-мы па Ярэмічу і 16-ты па Кахановічу, і адзін мандат па Ярэмічу ў Наваградзкай акрузе. Думаю, што гэта быў часткова вынік бесталковай пагоні Ярэміча і Кахановіча за мандатамі, а, магчыма, кампэнсацыяю немцам і жыдом за фінансаваньне. Гэта веда-

ма Ярэмічу і, думаю, другім сябрам Цэнтральнага Камітэту. Дайшло да таго, што за першае месца па Лідчыне спрачаліся Рак-Міхайлоўскі і Аўсянік. Яго заняў, аднак, Рак-Міхайлоўскі. Як справа выглядала ў другіх акругах — мне ня ведама.

## ХАРАКТАРЫСТЫКА ПАСЛОЎ І СЭНАТАРАЎ.

З якім-жа палітычным багажом мы ўвайшлі ў польскі Сойм? Усе беларускія паслы і сэнатары былі беларусамі ня толькі па назове, але і па перакананьнях. Толькі адны вырасьлі пад уплывам пальскай культуры, на Міцкевічу і Славацкім (Тарашкевіч), другія — пад уплывам расейскай, на Пушкіне і Тургеневе (Рагуля, Назарэўскі і Багдановіч), трэція на незалежніцкай ніве (кс. А. Станкевіч). Рэшта былі блізкія да аднаго з гэтых напрамкаў. Наагул усе пасьля сталі на цьвёрды незалежніцкі грунт. З тэндэнцыямі пракамуністычнымі, адчынена іх вызнаючымі, не ўвайшло ніводнага. Толькі пасьля Каліноўскага зьявіўся Валошын з камуністычным душком, але і ён да камуністаў не далучыўся.

Коратка іх можна схарактарызаваць гэтак:

1. *Тарашкевіч* — беларускі патрыёт, чалавек разумны, што не паддаваўся ўплывам палянафілаў. Ён, аднак, лічыў, што ўгодаю можна дабіцца ад палякаў некаторых канцэсіяў на карысьць беларускага народу. Ён меў сярод палякаў шмат сымпатыкаў.

2. *Рак-Міхайлоўскі, Мятла і кс. А. Станкевіч* — беларускія патрыёты з вялікаю мераю скрайняга нацыяналізму. Мятла і кс. Адам Станкевіч — самыя сумленныя людзі з сялян-

скай псыхалёгіяй. Кс. А. Станкевіч сымпатызаваў Летуве.

3. *Якавюк і Баран* — беларусы. Яны доўга ў Сойме ня былі. Польскі суд засудзіў іх за шпіёнства на карысьць Летувы на 4 г. цяжкай вязьніцы. Пасьля адбыцьця кары, Баран выехаў у СССР, дзе і загінуў ягоны сьлед. Якавюку пашчасьціла эміграваць у Летуву, дзе ён жыў да 2-гай Сусьветнай Вайны.

4. *Валошын* — беларус з камуністычным нахілам, сьмелы і адчайны.

5. *Ю. Сабалеўскі* — беларускі незалежнік. Да часу атрыманьня мандату некалькі разоў сядзеў у вязьніцы за палітыку і быў вызвалены толькі на пастанову Сойму. Гэта чалавек асьцярожны, падазраваючы і, я сказаў-бы, палахлівы. Яму ўсё здавалася, ды і цяпер здаецца, што ўсюды за ім ганяюцца агэнты польскай дэфэнзывы і савецкага МВД.

Сэнатары: 1. *В. Багдановіч* — шчыры беларус, расейскай культуры, чалавек сялянскай сумленнасьці, слабы палітык, энэргічны абаронца праваслаўнай царквы. Ён цешыўся сымпатыяй усіх віленчукоў, бяз розьніцы іхняе нацыянальнасьці. У сваім асяродзьдзі мы яго называлі сьвятым чалавекам. Вывезены бальшавікамі на ўсход.

2. *А. Назарэўскі* — чалавек прабеглы, беларус расейскай культуры, не рызыкаваў востра выступаць супроць палякаў, але стараўся ладзіць з польскім элемэнтам як у Сэнаце, так і ў акрузе. Ён умела мог выкарыстоўваць слабасьці польскіх урадаўцаў. Сэнатару Багдановічу, для выступленьня з трыбуны, патрэбны былі канкрэтныя дадзеныя адносна недаплачаных урадам сумаў з асыгнаваньняў на пра-

васлаўную царкву. Назарэўскі запрапанаваў Клюбу выдаць да ягонае дыспазыцыі 500 злотых для атрыманьня дакладных і падрабязных дадзеных аб расходаваньні асыгнаванае сумы. Ён іх і атрымаў ад дырэктара веравызнаньняў, Патоцкага. Ён, карыстаючыся знаёмствам з савецкім агэнтам у Данцыгу, нейкім Курляндзкім, перакінуў у Саветы Кахановіча. Знаёмства з немцамі дало яму пасьля магчымасьць перакінуць у Нямеччыну пасла Сабалеўскага. Шмат дарагіх, з мастацкага боку, рэчаў ён атрымаў для баранавіцкай царквы з разбуранага ў Варшаве праваслаўнага сабору.

3. *Уласаў* — стары, разгультаены, нічога не рабіў ні ў Клюбе, ні вонкі. Паўжартам, паўсур'ёзна, ён казаў: „Усё будзе добра, толькі нічога ня трэба рабіць". Усе ягоныя пляны праводзіў у жыцьцё сакратар Клюбу Більдзюкевіч.

Паслы: *Кахановіч і Аўсянік* — зацятыя паклоньнікі Бахуса, ды да таго Аўсянік — непапраўны гультай. На маю прапанову выступіць з Соймавай трыбуны, ён мне адказаў: „усёроўна я другі раз ня буду выбраны ў Сойм".

*Рагуля* — да выбару ў Сойм быў русафілам, фэдэралістам з Расеяю, але не камуністычнай, дэмагог, зацяты прыхільнік дробнай сялянскай уласнасьці. Ён любіў у кампаніі выпіць, але не цярпеў тых, што зьяўляліся падвыпіўшы ў Сойм. Ён лічыў, што на беларускую справу можна браць грошы адкуль удасца, але не даваць за гэта ніякіх абяцаньняў. Пасьля вылучэньня Грамады, арганізаваў з Ярэмічам Сялянскі Саюз з газэтаю „Сялянская Ніва". Гэта вораг усякай партыйнай грызьні і лаянкі. Аб рэшце скажуць вось гэтыя запіскі.

## III.

## ПРАЦА Ў СОЙМЕ І СЭНАЦЕ.

### ПАРТЫЙНЫ СКЛАД СОЙМУ І СЭНАТУ.

Пачну з скрайнай правай партыі: а) Народная Дэмакратыя — эндэкі, цьвет розуму польскага народу, б) Хрысьціянская Дэмакратыя (Хадэкі), в) Пяст — сялянская партыя Вітаса, г) Сялянская Партыя (Домбскага), д) Народная Работніцкая Партыя (Попеля), е) Вызваленьне — радыкальная сялянская партыя (Тугута), ж) Нацыянальныя Меньшасьці — беларусы, украінцы, немцы і жыды, з) Польская Партыя Сацыялістаў і к) камуністы — іх было толькі двух.

### ПРЫСЯГА, ВЫБАРЫ ПРЭЗЫДЫЮМУ І ПРЭЗЫДЭНТА.

Першым актам была прысяга „Pracować na dobro Rzeczypospolitej jako całości” пасьля выбары старшыні. Выбраны быў М. Ратай, кандыдат Пяста. Выбары праводзіліся на супольным паседжаньні Сойму і Сэнату — „Zgromadzeniem Narodowym”.

Перад выбарамі прэзыдэнта ў нашым клюбе выявіліся былі два погляды: устрымацца ад выбараў, падаючы белыя картачкі, і ўзяць у іх удзел галасуючы за найбольш адпаведнага для нас кандыдата. Першыя (Рагуля) гаварылі, што мы прыйшлі ў Сойм не для творчай

працы і павінны заняць становішча безадказнай апазыцыі. Другія (Тарашкевіч) пярэчылі, што ня можна рваць з месца галёпам, што наш выбаршчык, які памятае прыказку „ласкавае цялятка дзьве маткі сьсе, а гордае — ніводнае”, нас за гэта не пахваліць, што трэба спрабаваць вырваць што небудзь ад палякаў. Меньшасьць згадзілася падпарадкавацца большасьці, што і было прынята тайным галасаваньнем. Пастаноўлена прыняць удзел у выбарах.

Кандыдатамі на становішча прэзыдэнта былі: высунуты Н. Д. граф Замойскі (пазнаньскі ваявода), Вайцехоўскі — ад Пяста, інж. Нарутовіч—ад Вызваленьня, Дашынскі—ад П.П.С., ад Нацыянальных Меньшасьцяў — былы прафэсар пецярбурскага ўнівэрсытэту, Бодуэн дэ Куртэнэ (дэманстрацыйная кандыдатура з мэтаю падліку нашых парляманцкіх сілаў). Пасьля трох галасаваньняў засталіся два кандыдаты: Вайцехоўскі і Нарутовіч. У апошнім галасаваньні большасьць атрымаў Нарутовіч, які зараз-жа прыняў выбар і склаў прысягу на вернасьць канстытуцыі.

Пакуль ішло галасаваньне, натоўп эндэкаў, запрудзіў усю Вейскую вуліцу, дзе быў будынак Сойму, і сумежны з ёю Пляц Трох Крыжоў, блякуючы ў такі спосаб Сойм. Усюды былі чутны крыкі: „Няхай жыве Замойскі! Далоў Нарутовіча!” Народ не разыйходзіўся. Паслы і сэнатары прабавалі выйсьці, аднак пры выхадзе натоўп іх затрымаў і пачаў біць. Пасол ППС Пятроўскі і адзін жыдоўскі сэнатар з рыжаю барадою вярнуліся ў Сойм з тварамі залітымі крывёю. Нам усім, па аднаму або па двух давялося выходзіць бочным выхадам. каб навакольнымі вуліцамі трапіць на Ўяздоўскую Алею. Я выйшаў разам з Мятлою.

Ўяздоўская Алея, Пляц Трох Крыжоў і Новы Сьвет кішэлі. Людзі толькі і гаварылі аб выбарах прэзыдэнта. Мы затрымаліся каля адной вітрыны, дзе стаялі дзьве на выгляд інтэлігентныя дамы. Адна гаворыць другой: „Pani słyszała, już obrano na prezydenta żyda" (Нарутовіч — чыстакроўны паляк) „To nie powinno być,żeby w Polsce był prezydentem żyd". Пасля колькі дзён навонкі ўсё супакоілася, аднак у нутры эндэкаў бушавала бура нянавісьці да нававыбранага прэзыдэнта.

Хутка пасьля выбараў, прэзыдэнт зьведваў галерэю „Sztuk Pięknych." Тут падыйшоў да яго фанатык эндэк (прозьвішча ягонае забыўся), і рэвальвэрным стрэлам зблізка, сьмяротна зраніў прэзыдэнта. Забойцу засудзілі на сьмерць і павесілі. Характэрна паставіліся да гэтага эндэкі. Дамавіну з трупам забойцы саматугам зацягнулі на могільнік, а магілу ўпрыгожылі краскамі.

Давялося выбіраць новага прэзыдэнта. Супольнымі сіламі правых і цэнтру, бальшынёю быў выбраны кандыдат Пяста — Вайцехоўскі. Беларускі Клюб галасаваў супраць кандыдатуры Вайцехоўскага.

## ПОЛЬСКАЯ ПАЛІТЫКА У ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ ДА ПЕРАВАРОТУ 1926 г.

Польскую палітыку адносна беларусаў можна схарактэрызаваць словамі: дэнацыяналізацыя і палянізацыя. Надзею на поўную і хуткую ўдачу палянізацыі адчынена выказаў у Ўстаўадаўчым Сойме прэм'ер Скульскі. Ён сказаў што за 50 год ніякіх беларусаў у Польшчы ня будзе, што ўсіх беларусаў у Польшчы можна

будзе пасадзіць на адной канапцы. Усе мерапрыемствы наступных польскіх урадаў на нашай прасторы кіраваліся на дасягненьне гэтай мэты, бяз розьніцы, якая там партыя ні стаяла на чале ўраду. Апрача палітычнага, пасьля стаў стасавацца і ціск эканамічны, які, у некаторых выпадках, прымаў вострыя формы. Быў выпрацаваны і зацьверджаны Ўставадаўчым Соймам закон аб вайсковым і цывільным асадніцтве (каляністах) на „Kresach Wschodnich".

Закон прадугладжваў канфіскацыю ўсіх незагаспадарованых земляў, падцягаючы пад гэтую катэгорыю землі, уласьнікі якіх не вярнуліся з уцякацтва ў Расею. Найбольшую страту спрычыніў ён праваслаўным абшарнікам, як графу Хрэбтовічу-Буценёў у Шчорсах. У яго забралі ўсю ягоную аграмадную лятыфундрыю з дрэнаванымі сенажацямі і палямі з добра ўгноенай і прыкладна апрацаванай жызнай глебай. Яму пакінулі адзін хвальварак Мураванку і лясы. З пункту гледжаньня права, канфіскацыя адбывалася часамі ў недапушчальны спосаб. У Наваградчыне, у Карэліцкай воласьці, нейкага Лазарэвіча, што вярнуўся з уцякацтва, выкінулі вон з ягонага собскага дому, а ўсе забудовы на ягоным хутары з інвэнтаром былі сканфіскаваны на карысьць нейкага афіцэра легіяніста. Падобныя выпадкі былі і ў Віленшчыне. Чым-жа ня гісторыя Траекурава з повесьці Пушкіна „Дубровский"? Ніякія скаргі Лазарэвіча ня былі ўзяты пад увагу. Шматлікія беларусы, хутаране, з гаспадаркаю сярэдняй велічыні, былі ў такі спосаб аграблены, як быццам і на праўнай аснове. Закон аб асадніцтве прадугледжваў перадачу 30% адчужанай зямлі ў рукі мясцовага насельніцтва. Аднак трэба было ў дзень са сьвечкаю

шукаць шчасьліўца праваслаўнага беларуса, што атрымаў-бы кавалачак зямлі няхай і горшай якасьці.

Адначасова праводзілася ўзмацненьне польскага элемэнту экспартам яго з цэнтральнай Польшчы на нашую тэрыторыю ў характары вайсковых і цывільных асаднікаў, дарогаю выплаты беззваротных пазыкаў з дзяржаўнай касы на закуп зямлі адчужанай у абшарнікаў, у бальшыні выпадкаў не-палякаў. Беларусы маглі купляць зямлю ў абшарнікаў толькі за наяўны разлік; ім зачынены былі дарогі да дзяржаўнай падтрымкі. Абшарнікі ахвоча прадавалі сялянам зямлю на тэрміновую сплату, або пад ваксалі. Сяляне акуратна пагашвалі ваксалі залатымі рублямі і амэрыканскімі далярамі, да 225 дал. за гэктар. На куплю ішло ўсё: апошні япрук, малако, яйцо. Некаторыя абшарнікі, як Кашыц у Ярэміцкай воласьці, сьведама адмовіліся прадаваць зямлю асаднікам, прадаючы яе сялянам.

Спачатку можна было купляць зямлю бяз ніякага дазволу адміністрацыйнай улады. У 30-тых гадох было ўведзена вымаганьне дазволу ваяводы на права куплі. Ваяводы выдавалі дазвол на аснове характарыстыкі просьбіта, выдадзенай мясцовым паліцыйным пастарункам. Такім чынам у запраўднасьці дазвол выдаваў начальнік пастарунку. Нават на куплю пляцу на некалькі сотняў квадратовых мэтраў вымагалі дазволу. Пры новым абмеркаваньні зямельнага пытаньня ў Сойме, Сойм большасьцю ўсіх польскіх галасоў супроць Нацыянальных Меньшасьцяў, адхіліў папраўку украінцаў і беларусаў аб тым, каб землі праваслаўных цэркваў і манастыроў перадаваліся толькі мясцовым праваслаўным.

Канстытуцыя гарантавала свабоду веравызнаньняў. У жыцьці-ж на праваслаўных святароў глядзелі з падозраньнем, а часам і з нянавісьцю. Праваслаўны сьвятар быў пад сталым наглядам каманданта паліцыйнага пастарунку. Рэдкія выпадкі адчыненага выступленьня сьветароў пры выбарах у Сойм выклікалі перасьледаваньні. Так было са сьветаром у м. Уселюб што зарызыкаваў адчынена заклікаць парахвіянаў галасаваць за лісту Нр. 16.

Было пастаўлена пытаньне аб рэвіндыкацыі былых вуніяцкіх парахвіяў. Гэта мела на мэце адабраць ад праваслаўных амаль усе цэрквы, бо калісьці амаль ня было праваслаўных парахвіяў. Гэтую акцыю падняў віленскі каталіцкі япіскап Ялбжыкоўскі.

Супроць гэтага адчынена выступіў львоўскі вуніяцкі мітрапаліт граф Шэптыцкі. Адбылося некалькі судовых працэсаў у Вышэйшым Судзе ў Варшаве, якія выйгралі праваслаўныя. Гэтая акцыя дужа ўсхвалявала беларускае і ўкраінскае парляманцкія прадстаўніцтвы ў Сойме, як і насельніцтва на месцах. Відавочна баючыся паважных беспарадкаў, улады прынялі адпаведныя захады і акцыя была перарвана.

Ялбжыкоўскі і сьвецкія ўлады не пакідалі ў супакоі і беларускіх ксяндзоў. За „антыдзяржаўную дзейнасьць" суд прысудзіў кс. Гадлеўскага на год турмы, які ён адсядзеў у Макатоўскай вязьніцы ў Варшаве. У м. Друі быў манастыр ксяндзоў Марыянаў, беларусаў. Там яны мелі сваю друкарню ў якой друкавалі рэлігійныя кніжкі ў беларускай мове. Ялбжыкоўскі разагнаў і іх. Ксяндзоў беларусаў ён пазбавіў парахвіяў і выслаў іх у якасьці вікарыяў да ксяндзоў, выпрабаваных эндэкаў, пад іх

пільны нагляд. Кс. Абрантовіча Ватыкан, бязумоўна на дамаганьне польскага ўраду, выслаў у Харбін, высьвячаючы яго ў сан архімандрыта. У разуменьні палякаў, словы паляк і каталік былі сынонімамі. Для іх было дзіка, каб каталіцкі сьвятар ня лічыў сябе палякам.

Беспацешны абраз прадстаўляла і народная асьвета. Канстытуцыя гарантавала кожнай нацыянальнасьці права навучаньня ў роднай мове. У жыцьцё гэта ня было праведзена. Настаўніцкая сэмінарыя ў Барунах была зачынена. Усе пачатковыя школы ў вёсках і мястэчках былі зачынены. Засталіся 4 гімназіі — Віленская, Наваградзкая, Радашкавіцкая і Клецкая, з якіх дзьве апошнія былі хутка зачынены. Пакідаючы гімназіі без дзяржаўнай грашовай дапамогі, улады лічылі, што, дзеля адсутнасьці сродкаў і неабходнага прыгатаванага кантынгэнту паступаючых, гімназіі зачыняцца самы. Але кандыдаты падрыхтоўваліся патаемна ўдома беспрацоўнымі беларускімі настаўнікамі. Зьбіраліся мізэрныя сродкі ў выглядзе аплаты за навуку. Настаўніцкі пэрсанал жыў недаядаючы, аднак працы ня кідаў. Ахвярнасьць ягоная была вельмі высокая. Кожны павінен зразумець, што вучыць пры недахопе навуковых дапаможнікаў, ды яшчэ з пустым жыватом — аграмадная ахвярнасьць з боку настаўніка. Вечная памяць памёршым і загубленым у савецкіх засьценках, слава і гонар тым што жывуць.

Адміністрацыя назаляла грашовымі штрафамі. Штрафавалі за някованага каня, за сабаку, што сарваўся з ланцуга, за адсутнасьць званка пры дузе, ці дошчачкі пры возе з прозьвішчам гаспадара. Адным словам, штрафавалі, каб толькі назаляць насельніцтву. Войтам

павінен быў быць паляк. Калі-ж на месцы ня было адпаведнага паляка, як у нас у Любчы, дык назначалі мясцовага беларуса, але такога, які быў, як гаворыцца „ ні ў горадзе Багдан, ні ў сяле Сяліван". Валасную раду камплектавалі з палякаў, у бальшыні асаднікамі і іх жонкамі. Толькі солтысы былі беларусы. Праваслаўнага беларуса баяліся браць нават на стоража ў школу, а бралі паляка адкуль небудзь з боку. Усё ішло па лініі ўзмацненьня польскага элемэнту, толькі не якасна, а колькасна. Якасна гэта быў элемэнт самага подлага гатунку. Адначасна ўрадавыя агэнты стараліся палянізаваць беларусаў шляхам гутаркі з імі ў дзяржаўных установах толькі папольску. Усё было накіравана ў вызначаным Скульскім напрамку.

## БЕЛАРУСКІ ПАСОЛЬСКІ КЛЮБ У СОЙМЕ.

Намалёванае вышэй палажэньне прарочыла ўпорыстую, цяжкую і, па мойму, безнадзейную барацьбу. Гэтаму пэсымізму быў супрацьстаўлены не аптымізм, а я сказаў-бы, некаторая надзея на тое, што палякі будуць дальнабачнымі палітыкамі і ў інтарэсах сваёй няўзмоцненай дзяржаўнасьці пойдуць на некаторыя ўступкі ў карысьць хоць-бы славянскіх меньшасьцяў: ня можна-ж быць у канфлікце з усімі навакол. Пад знакам гэтай надзеі і пайшла праца Пасольскага Клюбу.

Трэба было выбраць старшыню Клюбу і накрэсьліць плян соймавай працы Клюбу. Нам трэба было выпрацаваць праграмны мінімум і тактыку ягонага ажыцьцяўленьня. Старшынёю адзінадушна быў выбраны пасол Тарашкевіч.

Што тычылася праграмнага мінімуму, дык было пастаноўлена высунуць патрабаваньне беларускага школьніцтва: арганізацыі беларускіх пачатковых школаў, настаўніцкіх сэмінарыяў, 4 гімназіяў у вышэй успомненых мною месцах і беларускага факультэту пры Віленскім Унівэрсытэце. Вось меньш-больш сьціплыя патрабаваньні ў галіне асьветы. Мы дамагаліся адчужаньня царкоўных, касьцельных, манастырскіх, дзяржаўных і прыватнаўласьніцкіх земляў з надзелам гэтаю зямлёю бяз выкупу бяднейшых сялян.Дамагаліся таксама асыгнаваньня сродкаў на асноўны капітал Беларускага Банку для выдаваньня пазыкаў патрабуючым беларусам, назначэньня беларусаў адміністратарамі, улучна да ваяводаў у беларускіх ваяводзтвах — Віленскім, Навагрудзкім, Беластоцкім і Палескім, прыдзелу бясплатнага ляснога матар'ялу і беспаваротных грашовых пазыкаў на адбудову зруйнаваных вайною гаспадаркаў. Пытаньне аб аўтаноміі Заходняй Беларусі было высунута толькі пасьля некаторага часу.

Вось з такімі дамаганьнямі і выступіў з соймавай трыбуны старшыня Клюбу Б. Тарашкевіч. Дамагчыся зьдзейсьненьня гэтых патрабаваньняў, хаця-б толькі часткова, Клюб вырашыў шляхам удзелу ў працах Сойму і, значыць, шляхам прызнаньня польскай дзяржаўнасьці на нашай тэрыторыі. Адсюль і выплываў удзел у выбарах прэзыдэнта і галасаваньне даверу ўраду гэн. Сікорскага. З мэтаю захаваньня ідэалягічнага адзінства Клюбу, больш радыкальна настроеная частка паслоў згадзілася на такую тактыку (супроць праграмных патрабаваньняў ніхто не выступаў). Трэба было даказаць нашаму спакойнаму насельніцтву,

што нават мінімальных і справядлівых нашых дамаганьняў палякі не задаволяць. Трэба было, каб нашыя палітычныя ворагі не маглі пераканаць нашых выбаршчыкаў у тым, што яны нічога не атрымаюць таму, што выбралі дзікіх, няпрымірымых і незгаворлівых паслоў. Вось чаму Клюб вырашыў пайсьці на безнадзейную і, сказаў-бы, угадовую палітыку. Інакш яе назваць ня можна. Спакойная дзелавая прамова Тарашкевіча была сустрэта эндэкамі няпрыхільна. Чуліся паасобныя выкрыкі: „Niech pan jedzie do Mińska! Czego pan przyjechał tu". Цэнтр і левыя паставіліся ўстрымана спакойна. Саля была напалову пустая. Вось чаму Тарашкевіч распачаў сваю прамову словамі: „Wysoka, ale pusta izbo!".

Пачалася праца Сойму. У паасобных галінах заканадаўства былі створаны камісіі. У кожную з іх увайшоў адзін беларус. Я запісаўся ў зямельную камісію. Бяручы ўдзел у ейных працах, я хутка пераканаўся, што нам няма чаго чакаць ад польскага Сойму. Камісія моцна стаяла на пункце падтрымкі польскага элемэнту на „Крэсах" — вайсковых асаднікаў, ды ўзмацненьня гэтага элемэнту цывільнымі асаднікамі шляхам субсыдаваньня іх Дзяржаўным Банкам. Усе, нават дробныя папраўкі з беларускага і ўкраінскага боку камісія ўпарта адхіляла. На мае доказы, што ў нас пануе зямельны голад што ў нас няма свабоднай зямлі, што ў нас цана за зямлю дайшла да неймавернай лічбы — 225 даляраў за гэктар, я чуў адказ: „Калега, дазвольце вам ня верыць. Такой цаны нідзе няма ў Польшчы. На Крэсах хопіць зямлі і для вас і для нас". Ня лепш было і ў другіх камісіях. Голас беларуса і ўкраінца быў голасам гукаючага ў пустыні.

Падобна выглядала справа і ў адносінах польскага ўраду да беларускіх патрабаваньняў. Да перавароту 1926 г. зьмяняліся адзін за другім урады гэн. Сікорскага, Грабскага і Вітаса. Сікорскі гутарыў з Тарашкевічам лагодна, спакойна выслухоўваў усе нашыя вышэйуспомненыя дамаганьні і карміў Тарашкевіча абяцаньнямі, што ўсё з часам будзе зроблена. Час ішоў, і ня было нават знаку, што ўрад меў хоць найменьшую ахвоту заняцца нашым пытаньнем. Урад Сікорскага, нічога нам ня даўшы, упаў. Наступныя ўрады Грабскага і Вітаса таксама нічога нам ня прынесьлі. Праўда, мы і не чакалі нічога добрага. Грабскі і Вітас у сваіх экспазэ туманна выказаліся, што з братнімі славянскімі меньшасьцямі паладзяць, а як? Аб гэтым яны не сказалі нічога. Беларускі Клюб і не чакаў ад іх нічога пазытыўнага і таму пры ўдзяленьні вотум даверу галасаваў супроць.

Хоць ня хоць, давялося перагледзець нашую тактыку як у Сойме так і ў Сэнаце. У Сойме Клюб перайшоў да больш вострай апазыцыі шляхам выступленьняў з соймавай трыбуны і складаньня інтэрпэляцыяў з прычынаў усякага роду правапарушэньняў органаў адміністрацыі на месцах. Апрача таго была прынята пастанова Клюбу заклікаць беларусаў да стварэньня палітычнай арганізацыі. Заклік праводзіць цераз беларускую прэсу і шляхам публічных сходаў, пад выглядам дэпутацкіх справаздачаў. Праўда, некаторыя паслы, а асабліва сэнатары не праводзілі гэтых сходаў. Клюбам быў апрабаваны праект аўтаноміі Заходняй Беларусі. Праект быў выпрацаваны Тарашкевічам, прааналізаваны ведамым у той час віленскім адвакатам Тадэўшам Врублеў-

скім і ім апрабаваны. Унесьці яго на разгляд у Сойм не давялося. Прычына наступная. Тарашкевіч трымаў яго ў сябе. Час мінаў і так дацягнулася да падзелу Клюбу на Сялянска-Работніцкую Грамаду і Беларускі Нацыянальны Клюб. Грамада моўчкі адмовілася ад аўтаноміі і стала на становішча аб'яднаньня ўсяе Беларусі ў БССР. Нацыянальны Клюб складаўся з Сялянскага Саюзу, Хрысьціянскай Дэмакратыі з кс. Ад. Станкевічам і В. Багдановічам, і беспартыйных. Грамада і Клюб трымаліся ў Сойме больш меньш аднае тактыкі: вострая апазыцыя, інтэрпэлацыі ў Сойме, арганізацыя беларускага жыхарства і ўзняцьце яго супроць польскай улады.

Інтэрпэляцыі складаліся з паказаньняў на няправільныя паступкі адміністрацыі ў адносінах да беларускага жыхарства, на скаргі сялян з патрабаваньнем прыцягнуць вінаватых да судовай адказнасьці. Нажаль многія, што скардзіліся, выяўлялі сябе зьменлівымі і маладушнымі. На допытах выкліканых нашымі інтэрпэляцыямі, яны запярэчвалі факты паданыя імі самымі ў іхных скаргах. Такім чынам яны ставілі паслоў у вельмі няпрыемнае становішча палітычных ілгуноў. Падам канкрэтны доказ. Сяляне вёскі Гарадзея доўгай тэлеграмай выклікалі мяне з Варшавы скардзячыся, што ўланы, якія ў іх раскватараваліся, забіраюць у іх авёс і б'юць мужчынаў і жанчынаў. Я прыехаў туды. Знаючы псыхіку селяніна, што ён трымаецца таго, што падпісаў, я апытаў пакрыўджаных. Яны пры ўласнаручным подпісе сьведчылі, што ўланы грабілі авёс, што не дазвалялі вечарам выходзіць з хатаў з мэтаю, каб было выгадней шнарыць па сялянскіх клецях, білі людзей, і адна жанчына з прычы-

ны біцьця перадчасна радзіла. Узброіўшыся сьведчаньнямі сялян я склаў інтэрпэляцыю дамагаючыся пацягнуць вінаватых да праўнай адказнасьці. Пасьля некаторага часу я атрымаў ад Міністра Спраў Вайсковых адказ, у якім было сказана, што ў інтэрпэляцыі ўсё няпраўда, што сяляне выракліся ўсіх пададзеных мною фактаў. Што-ж сталася? Вось што. На другі дзень пасьля таго як я склаў інтэрпэляцыю, камандзір палка склікаў афіцэраў і сяржантаў, вылаяў іх і запатрабаваў, каб за ўсякую цану палагодзіць справу мірным шляхам з усімі пакрыўджанымі. Яны яе і палагодзілі. Мае сьведкі адмовіліся ад усіх сваіх абвінавачваньняў. Я застаўся ў дурнях.

Апрача скаргаў, былі і просьбы асабістага парадку. Так, напрыклад, адзін выбаршчык Нясьвіскага павету прасіў даць яму грошы на адчыненьне рэстарану, другі прасіў купіць яму каня, а трэці, з Піншчыны, купіць для ягонага сына (сам ён быў без абядзьвёх рук) кавадла і другія кавальскія прылады. Выбаршчыкі немцы, праз свае арганізацыі, падтрымоўвалі свой пасольскі клюб, аплачваючы сакратара клюбу, машыністку і паштовыя расходы. Словам, наш выбаршчык ня мог яшчэ зразумець, што для палітычнай барацьбы патрэбны сродкі, а не глядзець на пэнсію пасла як на нейкую крыніцу, адкуль і ён мог-бы чэрпаць на сваю асабістую карысьць. Вельмі часта пачалі адведваць клюб людзі якія прыехаўшы ў Варшаву, прасілі на паваротны білет. Нарэшце дайшло да таго, што аднаму з гэткіх просьбітаў, да таго вельмі падазроннаму асабню, я сказаў, што клюб ня ёсьць беларускім міністэрствам фінансаў і на падобныя расходы ня мае ніякіх сродкаў.

## ПОЛЬСКІЯ ПАРТЫІ І БЕЛАРУСКІ ПАСОЛЬСКІ КЛЮБ.

Польскія партыі правыя і цэнтар глядзелі на беларусаў няпрыхільна, як на ўтоеных бальшавікоў. Левыя — „Вызваленьне" і ППС, захоўваючы вонкава прыязныя суадносіны ня ішлі на ніякія ўступкі на нашую карысьць. Будучы радыкальнымі ў пытаньнях датычных інтарэсаў палякаў, яны былі рэакцыйна-кансэрватыўныя ў адносінах да нашай нацыянальнасьці і ейных патрэбаў. Кахановіч гаварыў, што лепш мець дачыненьня з эндэкамі, чым з „Вызваленьнем" і ППС. Эндэкі — людзі культурныя і калі што абяцаюць дык сваё абяцаньне датрымаюць. Гэтыя-ж другія могуць паабяцаць горы, а нічым не паступяцца. Гэтакі пагляд Кахановіча. Валошын казаў: „Ня вер ты ў гонар іграка, ня вер ты дружбе паляка". Я гаварыў: „ёсьць расейская прыказка — паскрабі расейца — знойдзеш татарына, я-ж кажу: паскрабі ППС і нават польскага камуніста — знайдзеш эндэка". Іншыя нашыя паслы і сэнатары падзялялі больш-меньш падобныя погляды.

Была і сярод палякаў у Вільні невялічкая група з некалькі чалавек, так званых „краёўцаў" — прыхільнікаў беларусаў. Яны насілі Пагоню і называлі сябе грамадзянамі Вялікага Княства Літоўскага. Да іх належаў ведамы адвакат Тадэўш Врублеўскі, Абрамовіч і адвакат Міцкевіч. Яны выдавалі нават газэту „Przegląd Wileński". Але гэтая група інтэлігентаў ня была ўплывовай у віленскіх польскіх колах.

Нават польскія сялянскія радыкалы маркі „Вызваленьня", сваёю тактыкаю адносна бе-

ларусаў давялі да таго, што беларусам, якія былі ў іх партыі, зрабілася душна. У іх пачало браць верх перакананьне што яны папалі ў варожы іхняму народу лягер. Папалі-ж яны туды дзякуючы Ваевудзкаму, які ад пачатку выбарчае кампаніі ўзначаліў польскую партыю „Вызваленьне" на Віленшчыне. Цераз ягоныя рукі праходзілі ўсе асыгнаваньні на выбары для „Вызваленьня". Будучы чалавекам спрытным, які добра ар'ентаваўся ў настроях мясцовага насельніцтва, (Ваевудзкі — небагаты абшарнік Сьвянцянскага павету), ён адразу зразумеў, што патрэбны пасьлы беларусы, і то з радыкальнымі поглядамі, але з польскаю маркаю. Будучы пад крыльцам дэфэнзывы, ягоныя агітатары кідалі ў народ бальшавіцкія клічы, надзвычай затрудняючы беларускую агітацыю. Значная частка беларусаў, сымпатыкаў усходу, аддала свае галасы за кандыдатаў „Вызваленьня". У Сойм увайшлі беларусы - вызваленцы: Шакун, Балін, Галавач, і Шапель. Ваевудзкі і прыгарнуў іх пад сваю высокую руку, уважна сочачы за іх настроямі. Ня мінула і два месяцы, як гэтыя беларусы ўбачылі, што яны папалі ня туды, дзе ім належалася быць. Бяручы ўдзел у фракцыйных паседжаньнях, яны лёгка зразумелі, што Ваевудзкі стаіць у абароне чыста польскіх інтарэсаў, а інтарэсы беларусаў для яго, калі не варожыя, дык былі чужыя. Першы прабудзіўся Балін, чалавек разумны і з вострым языком. Вось ён і вырашыў перайсьці ў Беларускі Клюб. Ён падаў заяву аб прыняцьці яго ў лік сяброў Клюбу, ды нават заняў у клюбнай шафе для сябе месца. Рэшта гатова была пайсьці за ягоным прыкладам. Гэта ўстрывожыла не на жарты пасла Ваевудзкага. Ён пастанавіў

за ўсякую цану не дапусьціць да ўзмацненьня беларускага парляманцкага прадстаўніцтва. Ён, магчыма з багаславенства Міністэрства Нутраных Справаў, арганізуе новую радыкальную польскую партыю, пад назовам: „Niezależna Partja Chłopska”. У яе, апрача Ваевудзкага, увайшоў др. Федаркевіч (паляк) і чатыры вышэйўспомненыя беларусы. У сваёй газэце Ваевудзкі выстаўляў у карыкатурны спосаб ксяндзоў і паліцыю. Паводля зьместу гэта быў камуністычны падгалосак.

## ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ СОЙМАВАЙ БАРАЦЬБЫ.

Завостраная апазыцыя ў Сойме, шматлікія інтэрпэляцыі і вострыя выступленьні паслоў на мітынгах-справаздачах мелі свае насьледкі. Па-першае, яны змушалі ўрад і адміністрацыю пераглядзець свае адносіны да беларусаў, па-другое, улівалі ў беларусаў бадзёрасьць, сьмеласьць і жаданьне арганізавацца для супольнага з пасламі змаганьня за свае правы. Народ выйшаў з пасыўнасьці, адмовіўся ад пагляду: „не, нябось так ня будзе, нябось прыйдуць, нябось зробяць, нябось дадуць.” Гэтую пасыўнасьць ён замяніў на „выйдзем шчыльнымі радамі”. Ён пераканаўся, што вызваленьня можна дабіцца толькі сваёю ўласнаю рукою. Гэткая адбылася зьмена ў народнай псыхіцы. І ўрад, і Сойм бачылі, што неабходны некаторыя ўступкі славянскім меньшасьцям, але адначасова і баяліся, каб гэтыя ўступкі не зашкодзілі „польскай рацыі стану” на ўсходніх „Крэсах”. Думалі, думалі і выдумалі польскія курсы для беларусаў-настаўнікаў у г. Кракаве, а пасьля „Ustawę językową”.

Як я ўспомніў вышэй, сярод сялянскай масы была невялікая колькасьць настаўнікаў. Гэта былі дрожджы, што выклікалі палітычны фэрмэнт. Вось палякам і стрэліла ў галаву думка нэўтралізаваць іх шляхам выцягненьня іх з народнай гушчы і выкарыстаньня, як дзяржаўна-творчага элемэнту, але на тэрыторыі з чыста польскім жыхарствам, або на заходніх „Крэсах" (Памор'е і Пазнаншчына). Для гэткіх настаўнікаў і былі зарганізаваны на дзяржаўны кошт курсы паляністыкі ў Кракаве. Да курсантаў уважна прыглядалася начальства вынюхваючы, хто якою пахне палітыкай. Пасьля заканчэньня курсаў адзінкам з іх, найбольш спрытным і пранырыстым, удалося ўладзіцца настаўнікамі ў польскіх школах Заходняй Беларусі. Іншыя былі расьцярушаны па школах Кангрэсоўкі і заходніх „Крэсаў".

Гэткае мерапрыемства не аслабіла антыпольскіх настрояў на Беларусі. Раз разбуджаны народ не хацеў заснуць. Апазыцыйныя настроі ўзмацоўваліся. Патрэбны былі новыя ўступкі на карысьць беларусаў. Вось тут і выступіў лідар „Вызваленьня" Тугут са спробаю заспакаеньня славянскіх меньшасьцяў. Была створана камісія пад ягоным старшынствам для выпрацаваньня закону аб ужываньні ў школьніцтве і грамадзкім жыцьці беларускай і ўкраінскай моваў. Выпрацаваны комісіяй праект закону паступіў у Сойм і быў прыняты большасьцю польскіх партыяў супроць галасоў нацыянальных меньшасьцяў. Яны дамагаліся правядзеньня ў жыцьцё параграфу канстытуцыі аб культурнай аўтаноміі для нацыянальных меньшасьцяў. Палякі ўважалі, што параграфы аб нацыянальных меньшасьцях бы-

лі накінуты Польшчы Вэрсальскім Трактатам, дык яны пастараліся як мага хутчэй забыцца аб гэтых параграфах. Антанта-ж ня лічыла патрэбным прыгадваць аб гэтым, таму што палякі маглі палічыць гэта як умяшаньне ў іх нутраныя справы.

Калі сама ўстава ў сапраўднасьці нам нічога не давала (была рэдагавана паезуіцку), дык ужо „Przepisy wykonawcze" (урадавыя распараджэньні аб спосабах яе ажыцьцяўленьня) канчаткова зводзілі яе на нішто. Устава давала нам права гаварыць ува ўрадавых і самаўрадавых установах, ды нават пісаць просьбы і заявы пабеларуску. Урадаўцы адмаўляліся выслухоўваць просьбітаў, выясьняючы гэта неразуменьнем нашай мовы. Закон даваў нам права адчыняць дзяржаўныя пачатковыя школы з навучаньнем у роднай мове. „Przepisy" вымагалі, што такую школу можна адчыніць толькі там, дзе знойдзецца ня меньш за 40 чалавек якія жадаюць вучыць сваіх дзяцей у беларускай мове. Пры гэтым кожны хто жадаў павінен быў падаць у школьны інспэктарат заяву з уласнаручным подпісам, зацьверджаным натарыюсам, або ў скрайным выпадку войтам гміны. На войта, калі ён быў беларус, рабіўся павятовым старастам націск, каб не зацьвярджаць. Шматлікія войты проста адмаўляліся зацьвердзіць. Ня гледзячы на такія перашкоды, вельмі многа беларусаў падалі дэклярацыі на беларускія школы. Хоць ня хоць давялося адчыняць школы. Што-ж гэта былі за беларускія школы? Беларускага было ўсяго толькі, што шыльда была напісана пабеларуску. Навучаньне адбывалася ў польскай мове. Беларуская-ж мова талеравалася толькі на лекцыях гімнастыкі і рысункаў. З бегам часу бы-

лі зьняты і шыльды, як у школе вёскі Асташына. Рэшта школаў былі ўтраквістычныя, дзвюхмоўныя — польска-беларускія, хоць беларускім духам там і ня пахла. Усё вялося папольску. Мне не давялося пачуць нават ніводнай беларускай песьні: гучэлі ўсё польскія. Прыватныя беларускія школы зачыняліся паліцыйнымі загадамі і накладаньнем грашовых штрафаў на бацькоў. Нахабства дайшло да таго, што наваградзкі школьны інспэктар загразіў мне, нятыкальнаму паслу, што не падлягаў ніякім паліцыйным спагнаньням, грашовым штрафам за непасыланьне маіх дзяцей у польскую школу. На ягоную пагрозу я адказаў: „Спрабуйце!” Спрабаваць, аднак, не адважыўся.

Вось якія посьпехі дала нашая праца ў польскім Сойме. Трэба прызнацца, што яны былі непацяшаючыя. Вонкі Сойму, на фронце ідэалягічным былі дасягнуты некаторыя пазытыўныя вынікі: народ пасьмялеў, прабудзілася актыўнасьць змаганьня за сваё нацыянальнае „Я”, народ адчуў сябе нацыяй, зьявіліся сьведамасьць арганізаванай барацьбы шляхам тварэньня палітычных партыяў і культурна-прасьветных установаў: Інстытут Гаспадаркі і Культуры ў Вільні, Таварыства Беларускай Школы і да таго падобныя.

### ГРАШОВЫЯ СРОДКІ КЛЮБУ.

Напалеон казаў, што каб весьці вайну патрэбны тры рэчы: грошы, грошы і грошы. Палітычная барацьба, каб яе весьці пасьпяхова, патрабуе грошай, грошай і яшчэ раз грошай. Яны неабходны для выданьня газэтаў, лістовак, на аплату супрацоўнікаў газэтаў, на ства-

рэньне хаця-б павятовых партыйных цэнтраў, на аплату кіраўнікоў гэтых цэнтраў, на арганізацыю прэсавых прадстаўніцтваў спачатку хаця-б толькі ў Бэрліне і Парыжы. Апрача таго патрэбны былі сродкі на падтрымоўваньне культурна-прасьветных установаў, як гімназіі і некалькі прыватных пачатковых школаў. Патрэбны былі сродкі і не малыя.

У заходніх краінах з арганізаваным палітычным жыцьцём, партыйныя касы папаўняліся самаападаткаваньнем сяброў і ахвярамі прыватных асобаў — сымпатыкаў тае ці іншае партыі. На ўсходзе, у Расеі, касы С.Д. і С.Р. папаўняліся, апрача ахвяраў багатых людзей, шляхам так званых экспрапрыяцыяў—абрабаваньняў. Так, у свой час былі аграблены мытныя карэткі ў Пецярбурзе на Фантанцы, у Тыфлісе (Сталінам), і Маскоўскае Таварыства Ўзаемнага Крэдыту. Гэта дало падпольным арганізацыям агулам 1.500.000 залатых рублёў. Мы, беларусы, ня мелі ў сваім распараджэньні ніводнага з гэтых сродкаў. А грошы патрэбны былі на аплату працаўнікоў Клюбу, на канцылярыйныя і паштова-тэлеграфічныя расходы. Востра стаяла пытаньне з матар'яльным палажэньнем Віленскай і Навагрудзкай гімназіяў. Пры адсутнасьці дапамогі з вонку, яны, бязумоўна, зачыніліся-б. Трэба было ратаваць палажэньне. Пасольскі Клюб адзінадушна пастанавіў затрымоўваць на грамадзкія патрэбы 30% з дыетаў, што выплачваліся паслом. Гэта давала 300 злотых з кожнага пасла і сэнатара ў месяц, а ў агульнай суме — 4500 зл., што паводля тагачаснага курсу складала 900 даляраў. З іх выдаваліся некаторыя сумы на гімназіі. Якія, ня памятаю. Ува ўсякім выпадку крытычнасьць мінула. Гімназіі ледзь жылі. Сябры

Клюбу ламалі сабе галовы ў пошуках другіх крыніцаў.

Паслом заставалася 700 зл. у месяц. Гэтага павінна было хапіць на ўтрыманьне сям'і, на гатэлі і харчы ў Варшаве ды на расходы ў часе выездаў па акрузе (памешканьне, харчы і хаця-б мінімальная дапамога выдатнейшым працаўніком на правінцыі). Аб падтрымцы з боку выбаршчыкаў пакуль што ня можна было і думаць.

## НУТРАНЫ СТАН КЛЮБУ.

Палітыка Тарашкевіча гутарак з палякамі не давала ніякіх надзеяў на перамену на лепшае ў беларуска-польскіх суадносінах. Ягоныя канфэрэнцыі з маршалкам Сойму Ратаем закончваліся нічым, хоць Тарашкевіч і меў сярод палякаў старых знаёмых па Петраградзе і Вільні, як Бітнэр, Касьцялкоўскі, Ваевудзкі і інш.

Палякі стараліся ня тушыць, а раздзьмухваць польска-беларускую варажнечу шляхам прасьледаваньня нават беларускіх паслоў. Так, дзякуючы інтрыгам польскай адміністрацыі, Найвышшы Суд у Варшаве скасаваў мандат пасла Каліноўскага па Беластоцкай акрузе. Гэта было зроблена на аснове, што Каліноўскі, як сын расейскага ўрадаўца, быццам ня меў польскага грамадзянства. Ягоны бацька перад першай Сусьветнай вайной быў вяскавым фэльчарам у родным Ваўкавыскім павеце і там-жа Каліноўскі атрымаў у спадчыне пасьля сьмерці бацькі невялікую сялянскую гаспадарку, што давала яму права аўтаматычна як аўтахтону, мець польскае грамадзянства.

Супроць паслоў Гродзеншчыны, Барана і Якавюка, стараньнямі дэфэнзывы была змантавана судовая афэра аб шпіёнсьцьве на карысьць Летувы. Іх абодвых прысудзілі на 4 гады цяжкай турмы. Толькі Якавюк, які да апэляцыйнага суду быў на волі, здолеў уцячы цераз Данцыг у Летуву. Баран адсядзеў 4 гады і за згодаю савецкага Палпрэдства ды з ягонаю візаю выехаў у СССР. Каліноўскі з жонкаю, у такі самы спосаб, выехалі ў БССР, у Менск. Аб далейшым іх лёсе нічога ня ведама. На месца Каліноўскага ў Сойм увайшоў Валошын. Гэта былы паштальён, чалавек малавыраблены з камуністычным ухілам, сьмелы і рашучы. Ён напэўна мог быць „экспрапрыятарам" мытных карэтак і банкаў.

Да часу прыходу Валошына, Клюб быў незадаволены тактыкаю ўгоды. Гэта адбілася рэхам на месцах. У Вільні з рук у рукі пачала хадзіць бязьвінная карыкатура на Тарашкевіча: Конь імчыць на ўсход, а Тарашкевіч на кані, з мячом і тварам на захад, трымаецца за хвост каня. Ар'ентацыя на ўсход сярод беларусаў, асабліва праваслаўных, узмацнялася. Каталіцкая частка, якою кіравалі беларускія ксяндзы, моцна трымалася ар'ентацыі на самых сябе. Былі, зразумела, і з ар'ентацыяй на Польшчу. Я асабіста быў таксама прыхільнікам усходу. Я лічыў, што Польшча, з прычыны свайго стратэгічнага і гэаграфічнага палажэньня ня пойдзе на нейкую фэдэрацыю з аб'еднанаю Беларусьсю. Летува, Латвія і Эстонія былі па-мойму сэзоннымі дзяржавамі. Апораю Беларусі яны не маглі быць у ніякім выпадку. Адсюль лягічна вынікала ар'ентацыя на ўсходняга суседа. Здавалася, што там будуецца „Беларускі дом". Пакуль бальшавікі былі

слабыя беларусы чуліся, гаспадарамі на сваёй тэрыторыі. З часам, пачуўшыся ў сілах, бальшавікі анулявалі ўсе свае ўступкі. Беларуская інтэлігенцыя была зліквідавана, а беларусаў пачалі стрыгчы пад маскоўскі грэбень.

Тарашкевіч, расчараваны ў сваіх сымпатыях да палякаў, пастанавіў пакінуць становішча старшыні Клюбу, хоць ніхто яго і ня змушаў да гэтага. Клюб выбраў старшынёю Рагулю. Тое самае адбылося і ў Украінскім Клюбе, дзе Васынчука замяніў пасол Хруцкый.

Было вырашана заняць становішча безаглядна апазыцыі ў Сойме, завастраючы выступленьні, ды на месцах, заклікаючы народ да арганізаванай барацьбы. Вось дзе корань будучага падзелу Клюбу на Нацыянальны Клюб і Сялянска-Работніцкую Грамаду. Яшчэ перад пераменай старшыні, Рагуля запрапанаваў стварыць сялянскую радыкальную партыю. У аснову праграмы было запрапанавана паставіць бясплатнае адчужаньне на базе нацыяналізацыі, усіх родаў зямлі і бясплатны надзел ёю безьзямельных і малазямельных сялян на аснове хутарнай сыстэмы. Была выпрацавана і адпаведная партыйная праграма. Умяшаньне Менску і Масквы пераблытала ўсе карты.

Трэба сказаць, што ўсе беларускія паслы і сэнатары, за выняткам сэнатара Ўласава і пасла Аўсяніка, зайходзілі ў савецкае пасольства ў Варшаве. Адны прасілі пераслаць каму небудзь грошы за пасярэдніцтвам Зьнешгандлю, або прыняць у Саветы якую небудзь эміграцкую сям'ю, другія рабілі даведкі аб сваякох і знаёмых, што засталіся ў Саветах, не кранаючы ніякіх другіх пытаньняў. Мне самому давялося

асабіста адведаць пасла Войкава з просьбаю даць беспаваротную візу для пазбаўленага мандату пасла Каліноўскага з жонкаю. Усе беларускія просьбы палагоджваліся бесьпярэчна і хутка. У такі спосаб Саветы расстаўлялі паволі сеткі для лову беларускіх душаў. Урадаўцы пасольства ўвіваліся каля нашых паслоў. Так, нейкі Кабецкі, які пасьля зрабіў няўдалую спробу дзяржаўнага перавароту ў Эстоніі ў Тальліне, круціўся каля Кахановіча. Ад яго Кахановіч атрымаў на беларускія патрэбы 500 дал. Грошы былі здадзены ў касу Клюбу.

Пастанова аб завастрэньні змаганьня на месцах, шмат кім з сяброў не праводзілася ў жыцьцё. Былі выпадкі, калі мая просьба выехаць куды небудзь на акругу адхілялася дзеля нейкай выдуманай прычыны. Пасол Аўсянік катэгарычна адказаў: „Я не паеду і з соймавай трыбуны гаварыць ня буду; усёроўна ў будучыні мяне ня выберуць паслом.” Кахановіч рэдка калі прыходзіў у цьвярозым стане на паседжаньні Сойму. Аднойчы, будучы да няпрытомнасьці п’яны, у буфэце галоўнай станцыі ў Варшаве забраў з-пад носа нейкага спадара катлету, а ў другога шклянку піва. Назаўтра ў „Warszawskiej Porannej Gazecie” з гэтай нагоды зьявіўся артыкул Новічыньскага пад загалоўкам: „Wywłaszczenie kotletu bez odszkodowania”. Спэцыяльнае паседжаньне Клюбу дзе прысутны і Кахановіч. Я паставіў пытаньне рубам. Я сказаў: „Міхаіл Сяліванавіч! Адмоўцеся ад мандату і вызвальце маю акругу ад гэткага дэпутата.” Па твары ў яго пакаціліся сьлёзы. Ён адказаў: „Я хворы”. „Калі вы хворы — вось вам лякарства”, і я выняў з кішэні маленькую бутылачку стрыхніны. Я ўсё-ж налягаў на сваім. Клюб пры-

няў кампрамісовую пастанову. Кахановіч піша заяву і даручае яе мне. Я магу зрабіць з яе ўжытак толькі ў выпадку калі падобны выбрык паўторыцца, і толькі пры аднагалоснай пастанове Клюбу. Чакаць доўга не давялося. Ён выклікаў авантуру з афіцэрам у вагоне. Клюб пастанавіў даць ход ягонай заяве. Кахановіча ўгаварылі ехаць у Данцыг, дзе сэнатар Назарэўскі пры пасярэдніцтве савецкага агэнта, нейкага Курляндзкага, пасадзіў Кахановіча на савецкі параплаў, забраў ягоны дэпутацкі дакумант даўшы яму ўзамен з клюбовай сумы 300 рублёў золатам.

На месца Кахановіча ўвайшоў Юрка Сабалеўскі, што сядзеў у наваградзкай вязьніцы, ды на пастанову Сойму быў вызвалены дзеля выконваньня дэпутацкіх абавязкаў. Пакрыўджаны палякамі Тарашкевіч павярнуў стырно на 180° на лева. Ён зрабіўся прыхільнікам Саветаў. Некаторыя гаварылі, што ён нават быў уступіў у камуністычную партыю. Цьвердзіць гэта я ня маю асноваў.

У міжчасе каля нашых паслоў пачалі ўвівацца савецкія агэнты. Аднойчы я застаў у маім памешканьні нейкага чалавека. Ён сказаў, што прыехаў з Саветаў і хоча гутарыць з беларускімі прадстаўнікамі. Я ўладзіў зборку, запрасіўшы Тарашкевіча, Рак - Міхайлоўскага і Мятлу. У доўгіх гутарках незнаёмы мне чалавек угаварваў мяне адкінуць буржуазныя перажыткі, адкінуць пачуцьцё дробнай сялянскай собскасьці і на гэтай базе арганізаваць у Заходняй Беларусі новую партыю. Мае сябры ня ўмешваліся ў нашую дыскусію. На маё пытаньне, што гэта будзе за партыя, камуністычная?" быў адказ: „Не, гэта будзе мосьцік да камунізму". Я ведаў, што прысутныя мае ка-

легі сымпатызавалі Саветам, і дзеля гэтага сказаў: „Таму, што я ня хочу ісьці на другі бераг (камунізм), дык не пайду і на мосьцік. Цяпер я лічу, што мая далейшая прысутнасьць тут ёсьць лішняя. Маё памешканьне ў вашым распараджэньні, працягвайце! Даю вам слова гонару, што буду аб гэтым маўчаць". Без мяне яны пастанавілі арганізаваць новую партыю — „Беларускую Сялянска-Работніцкую Граму- ду". У такі спосаб нарадзілася і ахрысьцілася Грамада, што пацягнула пасьля за сабою пагібель маіх сяброў, сумленных, шчырых беларусаў — патрыётаў сваё Бацькаўшчыны.

## IV.

## РОСТ І РАЗЬВІЦЬЦЁ БЕЛАРУСКАЙ СЯЛЯНСКА-РАБОТНІЦКАЙ ГРАМАДЫ

### ПАДЗЕЛ ПАРЛЯМАНЦКАГА ПРАДСТАУНІЦТВА.

Яшчэ перад заснаваньнем Грамады, Тарашкевіч у адным са сваіх соймавых выступленьняў, крытыкуючы адносіны палякаў да беларусаў, супрацьпаставіў іх палітыку палітыцы Саветаў. Ён сказаў, што тут, у Польшчы, нічога нам не даюць, нават з таго, што гарантавана канстытуцыяй. Там-жа, на ўсходзе, будуецца „Беларускі дом", разумей — беларуская дзяржава БССР. У тое, што на ўсходзе арганізуецца сапраўды беларуская дзяржава, у якой самы беларусы будуць гаспадарамі, верыў ня толькі адзін Тарашкевіч і ягоныя сябры. У гэта паверылі нават некаторыя сябры Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі на эміграцыі, у Чэхіі. Частка з іх даверліва пераехала ў БССР, дзе ўсе яны пагінулі ў засьценках ГПУ, або ШИЗО (Штрафной Изолятор) у канцлягерох. Іх лёс падзялілі і мясцовыя нацыяналісты, як іх называлі бальшавікі — Нацдэмы. Адны, як старшыня Соўнаркому Беларусі — Чарвякоў, праф. Ігнатоўскі — закладчык Беларускай Акадэміі Навук і Галадзед, скончылі самагубствам, не жадаючы жыўцом аддацца ў рукі катаў ГПУ. Іншыя, як камандуючы войскамі Беларускай Ваеннай Акругі гэнэрал Убарэвіч,

былі расстраляны. Вось у якую пастку папала Грамада і яе кіраўнікі.

Пасьля падзелу Клюбу, Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла і Валошын стварылі фракцыю Сялянска-Работніцкай Грамады. Пазьней да яе прылучыўся і Ю. Сабалеўскі, якога выпусьцілі з турмы. Сабалеўскі хістаўся, куды прыстаць: да нас, ці да Грамады. Я яму сказаў, што калі ён думае шукаць у будучыні ратунку на ўсходзе — дык няхай ідзе ў Грамаду, калі-ж думае застацца ў Польшчы, дык лепш далучыцца да нас, не задумоўваючыся аб тым, што нас чакае. Рэшта паслоў і сэнатараў стварылі Беларускі Нацыянальны Клюб. У ягоны склад увайшлі Сялянскі Саюз з Рагуляю і Ярэмічам, Хрысьціянская Дэмакратыя з кс. А. Станкевічам і беспартыйныя. Сялянскі Саюз пачаў выдаваць свой орган „Сялянская Ніва", а органам Хрысьціянскай Дэмакратыі засталася „Крыніца".

У сваёй дэклярацыі ад імя Клюбу з трыбуны Сойму В. Рагуля заявіў: „Stoimy przy naszym sztandarze narodowym i przy nim stać będziemy".

Нечаканы для шырокіх масаў раскол Клюбу выклікаў на месцах прыгнятаючае ўражаньне. Выбаршчыкі не маглі зразумець таго, што сталася і падчас сустрэчаў пыталіся аб прычынах. Ня ведаю, як выясьнялі паслы грамадоўцы, але мы сябры Клюбу, туманна і няўпэўнена даводзілі неабходнасьць дыфэрэнцыяцыі сілаў. Туманнасьць і няўпэўненасьць нашых тлумачэньняў была насьледкам нашага нежаданьня выяўляць перад выбаршчыкамі, сярод якіх былі і агэнты дэфэнзывы, пракамуністычны настрой Грамады. Гэта мела-б характар да-

носу, і магло-б быць выкарыстана Грамадою ў палеміцы супроць нас. Клюб быў вельмі асьцярожны ў крытыцы Грамады, імкнучыся захоўваць з ёю добрыя суадносіны, і на гэтым шмат траціў у вачох выбаршчыкаў. З пасламі грамадоўцамі былі нядрэнныя, калі не сказаць добрыя суадносіны. З Тарашкевічам мы часта пасяброўску гутарылі. Валошын давяраў мне ўсе партыйныя тайны, а з Сабалеўскім мы сябравалі. Інакш было на месцах, а асабліва ў прэсе. Нажаль, наш выбаршчык тады яшчэ не навучыўся крытычна подыходзіць да друкаванага слова. Ён верыў, што ўсё, што надрукавана ў газэце — 100% праўда. Гэта стараліся выкарыстаць грамадоўскія газэты, што выходзілі адна за другою пад рознымі назовамі. Адказным рэдактарам, „зіцрэдактарам", рэдактарам для адседкі прысудаў суду быў в. п. М. Шыла, які памёр на эміграцыі. Уважаю, што фактычным рэдактарам, ад якога выходзіла кожнае газэтнае грамадоўскае слова, быў А. Луцкевіч. Гэта быў чалавек з вялікай хваравітай амбіцыяй, добры крытык, глыбокі знаўца беларускай літаратуры і слабы палітык. Кожнага, хто не пагаджаўся з ягонымі поглядамі, ён уважаў за асабістага ворага і пісаў аб ім усякія паклёпы, ня лічачыся з этыкаю сапраўднага журналіста. Яму добра было ведама старое правіла палемікі; калі хочаш перамагчы праціўніка, дык пачынай з лаянкі і пісаньня розных выдумак асабістага характару. Падобная тактыка выводзіла праціўніка з духовай раўнавагі і ён дапускаўся нятакту, якім і карыстаўся праціўнік. А. Луцкевіч выбраў мэтаю для свае бамбардыроўкі Рагулю і Ярэміча, якія адважыліся выламацца з-пад ягонага кіравецтва. У адносінах да дру-

гіх паслоў і сэнатараў Бел. Нац. Клюбу ён ужываў тактыку замоўчваньня. Чаго толькі ня сыпалася на нашыя галовы? Правакатары, польская дэфэнзыва, прадажнікі, зраднікі. Не хапала назваць яшчэ забойцамі і зладзеямі. Вось арсэнал палітычных аргумантаў галоўнага рэдактара грамадоўскіх газэтаў. Спачатку мы кіраваліся радаю крылоўскага работніка з байкі „Работнікі і сабакі". Работнік уважаў, што сабакі пабрэшуць ды адыйдуць, толькі іх ня трэба дражніць. Аднак наш сабака ад нас не адставаў. Кожны нумар газэты быў поўны лаянкі пад нашым адрасам. Ярэміч быў разлаваўся не на жарты і быў гатовы ўжыць фізычнага ўзьдзеяньня. З цяжкасьцю мне ўдалося яго адгаварыць ад гэтага. „Сялянская Ніва" баранілася як магла, не карыстаючыся нэтычнымі спосабамі змаганьня. Урэшце не хапіла цярплівасьці і ў мяне. Сустрэўшы ў соймавых кулюарах пасла Рак-Міхайлоўскага, я сказаў яму: „Калі вы не пакончыце з няпрыстойнымі нападкамі, дык у „Сялянскай Ніве" зьявіцца твой партрэт з польскімі афіцэрскімі шаўронамі сябры Беларускай Вайсковай Рады ў Лодзі. Я польскіх афіцэрскіх шаўронаў не насіў". Рада падтрымоўвала Пілсудзкага ў вайне з бальшавікамі і была на ўтрыманьні польскага ўраду. Ён пачаў прасіць мяне не рабіць гэтага. Ён сказаў: „Ужо колькі разоў казалі Луцкевічу пакінуць лаянку, а ён усё сваё". Другі раз было пасьля абеду ў Тарашкевіча, з двума сябрамі рабочай партыі ангельскага парляманту. На гэты абед Тарашкевіч запрасіў і мяне. Пасьля абеду мы выйшлі прайсьціся. Я захапіў грамадоўскую газэту з чарговай хлусьнёю і лаянкай. Гэта я паказаў Рак-Міхайлоўскаму і Сабалеўскаму. Яны абудва абуры-

ліся і сказалі, што яшчэ ўчора яны прасілі галоўнага рэдактара выкінуць гэтае месца. Ён не паслухаў.

Нясупыннае і несправядлівае цкаваньне вывела мяне з духовай раўнавагі. Я зарэагаваў на яго ў „Сялянскай Ніве" даволі вострым артыкулам „Раскрытыя карты". Артыкул быў перад друкам апрабаваны бальшынёю сяброў Клюбу. У артыкуле я паказаў усе зыгзагі мінулай палітыкі Луцкевіча, пачынаючы ад прэм'ероўства ўва Ўрадзе БНР у Менску, да ўгадовай Беларускай Рады ў Лодзі. Ад крытыкі апошняга ягонага павароту, пераходу ў пракамуністычны лягер (Грамаду) я, дзеля зразумелых прычынаў, устрымаўся. Назваў яго беларускім Сьмярдзюковым. Знаючы Луцкевіча, я прадбачаў новы ягоны зыгзаг — пераход у палянафільскі лягер. „Еў ты з усякага карыта, і вернешся да польскага карыта." Гэта былі канцовыя словы майго артыкулу.

Я разумеў тады і прызнаю цяпер, што вялікі палітык ня можа быць па асьлінаму ўпарта прасталінейны. Ягоная палітыка павінна быць гнуткая і элястычная. Ён павінен умела манэўраваць не здаючы сваіх пазыцыяў. Манэўраваньне не павінна мець характару адмовы ад свайго ідэалу. І для яго павінны быць вартасьці, што не падлягаюць разьмене. Такою вартасьцю для нас ёсьць нашая нацыянальная сьведамасьць, любоў да Бацькаўшчыны і ў канчатковым выніку незалежнасьць і сувэрэннасьць усяе Беларусі як Незалежнай Рэспублікі. Гэтай простай і элемэнтарнай праўды ня мог ня ведаць А. Луцкевіч. Аднак, пасьля ён эвалюцыянаваў ад Грамады да новай польскай угоды, якая, сказаў-бы, нічым не адрозьнівалася ад угоды Паўлюкевіча і Валэйшы.

Ён нават на палову адрокся ад свае нацыянальнасьці. Будучы арыштаваны ў справе Грамады, на допытах, на пытаньне аб ягонай нацыянальнасьці, адказаў. „białorusin - polak”. Для ідэалёга і лідара Грамады — гэта непрабачальны грэх. Пасьля, у 1939 ці 40 годзе бальшавікі яго арыштавалі, вывезьлі ў Менск, дзе ён і загінуў ад савецкай кулі. А за што? Ды-й ён сам ня ведаў за што ён гіне.

Пры выбарах у Сойм, Луцкевіч не выстаўляў свае кандыдатуры. Як лідар беларускага руху, ён павінен быў увайсьці ў Сойм. Дмытро Левыцкый, тагачасовы галава ўкраінцаў, ні Раман Дмовскі галава, і ідэалёг польскай перадавой дэмакратыі, ня ўхіліліся ад кіравецтва сваімі нацыянальнымі прадстаўніцтвамі, першы ў польскім Сойме, другі ў расейскай Дзяржаўнай Думе.

Некаторыя думаюць, што ён быў у душы фэдэралістам, прыхільнікам фэдэрацыі ўсяе Беларусі з Польшчай. У такім выпадку было-б лепш праводзіць сваю ідэалёгію дарогаю кантактаў з польскімі парлямантарыстамі. Яна лягчэй прайшла-б у нас, дзе спачатку насельніцтва было гатова пагадзіцца з аўтаноміяй. Нарэшце, калі ён быў фэдэралістам, дык чаму-ж не адыйшоў часова ў цень, а заняў адно з першых месцаў у радох Грамады з яе ўсходняю ар'ентацыяй? Дзе ключ да разгадкі хістаньняў ад прэм'ероўства БНР да ўгадовай Вайсковай Рады, ад Рады — да незалежніцкіх настрояў Беларускага Пасольскага Клюбу, адтуль — да пракамуністычнай Грамады, ды ад Грамады да новай польскай угоды? Няўжо разгадка ляжыць у нашай матар'яльнай беднасьці?

## ПОЛЬСКАЯ ДЭФЭНЗЫВА І ГРАМАДА

Амаль ад першых дзён Сойму некаторыя нашыя паслы сталіся аб'ектам увагі польскай палітычнай разьведкі. Ейныя агэнты часта прыходзілі ў наш Пасольскі Клюб з прапановамі працы для беларусаў. Асаблівай дакучлівасьцю адзначаўся нейкі Кузьма. Ён прапанаваў адчыніць беларускую школу ў Уселюбскай воласьці. Яны ўціскаліся ў грамадоўскія гурткі, усё вынюхвалі, на зборках выступалі з вострымі клічамі супроць польскай дзяржаўнасьці, падрыхтоўваючы гэтым для адміністрацыі грунт пад будучы разгром Грамады. Такі Кузьма лётаў па гуртках Наваградчыны. Камуністы мястэчка Ярэмічы нейкім спосабам разьведалі хто такі Кузьма, запрасілі яго ў Ярэмічы, ды жалезным шворнам на гары аднае хаты яго забілі. Ягоны труп укінулі ў Нёман, дзе яго прыпадкова знайшла паліцыя. У выніку — два Царукі і Жалезьняковіч былі прысуджаны да бястэрміновай турмы.

Разьведка пралезла нават у Пасольскі Клюб. Трэба меркаваць, што цераз пасла Ваевудзкага і нейкага Сьвіневіча. Ваевудзкі — стары агэнт вайсковай разьведкі зперад часу польска-савецкай вайны. Нейкім няведамым спосабам ён заслужыў давер Тарашкевіча і Луцкевіча. Як далёка былі запушчаны мацкі польскай разьведкі ў беларускае жыцьцё, відаць з наступнага факту. Аднойчы ў памешканьні Луцкевіча адбывалася канфэрэнцыя. Кс. А. Станкевіч, Аўсянік, Кахановіч і сэнатары былі адсутныя. Аб чым вяліся гутаркі, я сяньня ня памятаю. Дастаткова таго, што яны мелі сакрэтны характар. Пасьля я заўважыў, што ад некаторага часу кс. Адам не забірае слова на паседжаньнях Клюбу.

У кулюарах Сойму я і пытаю ў яго аб прычыне ягонага маўчаньня. Ён усхвалёвана адказаў: „Будзеш гаварыць праўду і нічога ня ўтоіш?" „Буду." „Дык вось, аднаго разу ў памешканьні Луцкевіча гаварылася тое і тое. Праўда?" „Праўда", адказваю. „Дык як я буду гаварыць, калі ў Клюбе ёсьць дэфэнзыва?" Мяне гэта ашаламіла і я папрасіў яго расказаць, як ён гэта даведаўся. Выясьняецца, што кс. Адам меў сваю разьведку ў другім аддзеле Міністэрства Нутраных Справаў, нейкага прыяцеля беларусаў, які і папярэдзіў яго асьцерагацца нават і ў Клюбе, перадаючы пры гэтым зьмест нашых гутарак у памешканьні Луцкевіча. Прыпускаю, што Тарашкевіч або Луцкевіч прагаварыліся Ваевудзкаму, або Сьвіневічу ды ад аднага з іх гэта стала ведама і для Мін. Нутр. Справаў.

## КАМУНІСТЫ І ГРАМАДА.

Аднойчы ў Сойме Рак-Міхайлоўскі запытаў у мяне, ці я знаю Ханевіча, што паходзіць з мае вёскі, які застаўся ў Саветах. Я адказаў, што там засталося некалькі Ханевічаў. Нейкі Ханевіч прыехаў з Менску для нелегальнай працы і хоча бачыцца са мною. Рак-Міхайлоўскі даў мне адрас дзе я мог спаткаць гэтага Ханевіча.

На глухой вуліцы Антокалю ў Вільні, у нейкім доме каля вайсковага шпіталю, мяне ўпусьцілі ў даволі вялікі пакой. Там сядзеў малады мужчына, якога я адразу пазнаў. Гэта быў Міхал Гурын, сваяк нашага настаўніка з Любчы. Пасьля заканчэньня Наваградзкага Гарадзкога Вучылішча, Гурын паступіў у пскоўскую сярэднюю сельска-гаспадарчую школу, адкуль

быў выкінуты за рэвалюцыйную дзейнасьць. Я быў страціў ягоны сьлед. І вось, пасьля некалькі год я спаткаў яго ў Вільні. Пасьля гутарак аб мінулым і бацькаўшчыне, ён запрапанаваў мне працаваць разам з ім для справы камунізму. Я адмовіўся матывуючы тым, што я прыхільнік дробнай уласнасьці і станоўка адкідаю камуністычныя кашары цела і духа. Я хутчэй згаджуся быць скрайным індывідуалістам чым камуністам. Аднак яго запэўніў, што буду адносна яго карэктны і не прычыню яму ніякай няпрыемнасьці. Ён папрасіў не выяўляць ягонага сапраўднага прозьвішча. Цераз некаторы час, падчас майго пабыту ў Вільні, мяне і Ярэміча запрасілі ў памешканьне дырэктара Віленскай Гімназіі Р. Астроўскага. Прыйшоўшы туды, апрача паслоў мы ўбачылі там Гурына і нейкага старэйшага спадара. Гаварылі аб беларускіх справах і патрэбах. З гутарак старога, зьвярнуўшы ўвагу на ягоную мову, я лёгка зразумеў, што перада мною паляк, які добра ўмее гаварыць парасейску. Гэтага было дастаткова, каб я набраў у рот вады. Толькі пасьля гутарак, улавіўшы зручны мамэнт, я спытаў у Гурына, чаму ён прывалок сюды паляка? Ён прабаваў мяне пераканаць, што гэта стары сацыяліст, які працаваў калісьці разам з Пілсудзкім. Ярэміч сказаў выразна, што гэта польскі шпік. Нашая здагадка пасьля спраўдзілася.

Пасьля гэтай канфэрэнцыі, фінансаваньне нашых школаў узяў на сябе Гурын. Клюб быў Грамадою адапхнёны ад гімназіяў і перастаў іх субсыдаваць. Ці вялікія былі ўспамогі Гурына мне ня ведама, таму, што ўсё ішло цяпер цераз паслоў Грамады і Р. Астроўскага. Толькі адзін раз Рак-Міхайлоўскі перадаў цераз мяне

для Наваградзкай Гімназіі 500 зл. Гурын пляnаваў субсыдаваць нават беларускія нелегальныя пачатковыя школы. Супроць гэтага выступіў ЦК Польскай Камуністычнай Партыі, у які ўваходзіў і Гурын. Пачаліся спрэчкі ўнутры камітэту, у выніку якіх Масква за пасярэдніцтвам Менску адклікала Гурына. Ён пастанавіў ня ехаць, гаворачы: „Я ведаю, чым гэта пахне! Зачыняць, не дадуць курыць, накормяць салёнымі селядцамі ды не дадуць вады". Канфлікт закончыўся выхадам Гурына з ЦК. ПКП. Ён тады яшчэ меў у сваім распараджэньні каля 10.000 даляраў. Паразумеўшыся з Грамадою і Астроўскім, ён вырашыў заснаваць сваю камуністычную партыю пад назовам „Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі" (КПЗБ). Ён зарганізаваў тайную друкарню, у якой друкаваў свой орган „Чырвоны Сьцяг". Польскім камуністам гэта прыпала не да смаку. Яны выкрылі яе і ўварваўшыся аднойчы ў друкарню, спалілі ўсе дзераўляныя часткі, разьбілі чыгунныя і зьнішчылі рэшту. Цераз некаторы час Гурын сам быў арыштаваны і кінуты ў беластоцкую вязьніцу. Там ён духова заламаўся і, відавочна за нейкія ня зусім чыстыя абяцаньні, быў выпушчаны на свабоду. Пасьля гэтага за пасярэдніцтвам Рак-Міхайлоўскага, я два разы бачыўся з Гурынам, у Варшаве і Горадні. Нашая гутарка была прыблізна такая:

— У які спосаб ты выйшаў з турмы?

— Мне дапамагла ППС.

— За якія абяцаньні з твайго боку?

— Яны хочуць, каб я сяньня выступіў на мітынгу. Што рабіць, выступаць, ці не?

— Я ня раджу.

— А што рабіць?

— Адмоўся ад камунізму і перайдзі на бок Белар. Пасольскага Клюбу. Працуй з намі. Мы цябе нелегальна перакінем у Нямеччыну. Там ты ўвойдзеш у кантакт з немцамі і станеш на чале нашага Інфармацыйнага Бюро. Сродкі пакуль што дасьць са сваіх запасаў Клюб, а пасьля пастараемся знайсьці іншую якую небудзь крыніцу. Ты — зацкаваны воўк і цябе ўсёроўна заб'юць камуністы і скінуць на дэфэнзыву, або дэфэнзыва, і зваліць на камуністаў. —

Маю прапанову ён ня прыняў. Як я прадбачваў, гэтак і сталася. У Горадні, пасьля гутаркі са мною ў гатэлі „Гандлёвы", ён выйшаў ад мяне каля 11 г. ўвечары. Я не пасьпеў распрануцца, калі пачуў стук у дзьверы і голас Гурына: ‚Адчыні". Ён увайшоў бледны і сказаў: „я ранены. На вуліцы Пілсудзкага нейкі тып 8 разоў выстраліў у мяне". Я паклаў яго на сваім ложку, агледзеў рану і выклікаў паліцыйнага лекара. Быў напісаны паліцыйны пратакол. Мяне дапыталі ў якасьці сьведкі, а Гурына забралі ў шпіталь. Судовы сьледчы стараўся ўмяшаць у гэтаю справу паслоў Тарашкевіча і Валошына, якія былі ў гэты дзень у Горадні, накіроўваючы ў гэтым напрамку мне пытаньні. Я сказаў, што не дапушчаю думкі аб іх удзеле ў гэтай справе, хоць у душы я і меркаваў, што бяз іх ведама (прынамся Валошына) гэта не абыйшлося.

Цераз некаторы час, Рак-Міхайлоўскі і Валошын сказалі мне, што Гурын напэўна стаў зраднікам і служыць „przodownikiem" сьледчай паліцыі ў Вільні. Мяне гэта анічуць ня зьдзівіла.

Аднойчы, будучы ў Вільні, я зайшоў у кафэ Штраля пры вуліцы Міцкевіча і папрасіў

шклянку піва. Бачу, уваходзіць Гурын. Заўважыўшы мяне ён неяк зьбянтэжыўся. Я запрасіў яго да століка і заказаў яшчэ адзін куфаль піва. Ён сеў. Я спытаў: „Ці праўда, Міша, што ты стаў на нядобрую дарогу — служыць у дэфэнзыве?" На маё пытаньне я не атрымаў адказу. Мне ўсё стала ясна. Мы разыйшліся і пасьля гэтага я яго больш не спатыкаў. Хутка пасьля таго я даведаўся, што Гурын быў застрэлены ў Вільні нейкім маладым чалавекам з-пад Трад, Усьціновічам. Забойцу засудзілі на 10 год цяжкай турмы. Пасьля я яго бачыў у Лукіскай турме ў ланцугох. Так скончыў закладчык КПЗБ — Гурын.

Пасьля ягонага арышту прыпынілася і ягоная дапамога. Аднак сродкі былі. Адкуль? — думаю, што ад Вульянава, першага дарадчыка Палпрэдства ў Варшаве, беларуса, родам з Магілёўшчыны. Вульянаў, між іншым, выстараўся дапамогу Саветаў на адкрыцьцё Грамадою ў Вільні Зямельнага Банку, у вышыні 15.000 дал., у тры раты па 5000 дал. кожная. Першую рату атрымаў я, антыкамуніст, старшыня Сялянскага Саюзу і старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу, але бяз ведама сяброў Клюбу. Чаму і як гэта сталася? Вось гэтак. Аднаго дня, у Сойме, Тарашкевіч папрасіў мяне зайсьці да яго ў габінэт. Там быў Р. Астроўскі. Яны абудва зьвярнуліся да мяне з просьбаю пайсьці ў Савецкае Пасольства і атрымаць для Беларускага Банку 5000 дал. „За пасламі Грамады бесьперапынна сочыць дэфэнзыва; іх могуць накрыць як кажуць на гарачым учынку, а тады бывайце даляры. Табе, які не належыш да Грамады, зрабіць гэта лягчэй" — казалі яны.

„У сваёй прэсе вы называеце мяне правакатарам, зраднікам і другімі эпітэтамі, а цяпер хочаце, каб я, рызыкуючы 12 г. цяжкай турмы, зрабіў вам такую ахвярную прыслугу? Адно з другім нясумяшчальна!”

„Братко, мы не вінаваты! Гэта ўсё робіць Луцкевіч”.

Пасьля доўгіх намоваў, я згадзіўся. Пайшоў, атрымаў, нават бяз ніякай расьпіскі, прынёс і даручыў усё Тарашкевічу і Астроўскаму. Чаму я гэта зрабіў? Няхай мяне судзяць суродзічы. Я лічу, што ўсякі дар добры, калі ён ня ідзе ў асабістую кішэню тае ці іншае асобы, а ідзе на агульна-беларускую справу. Тым большае права мы мелі гэтак зрабіць, калі дзяржаўныя сродкі былі для нас зачынены нават на такую патрэбу як падтрымка гімназіяў і купля зямлі сялянам. Падаткі-ж мы плацілі аднолькава з грамадзянамі польскай нацыянальнасьці. Аб гэтым атрыманьні ня ведаў нават польскі суд, што судзіў паслоў Грамады. Атрыманьне другой раты выявілася на ўспомненым судзе. Паводля слоў пракурора, Тарашкевіч атрымаў ад Саветаў 5000 дал. цераз Транзытны Банк у Рызе. Аб атрыманьні трэцяй раты мне нічога ня ведама.

Пасьля атрыманьня першай раты, у Грамадзе паўстала пытаньне, як замаскаваць паходжаньне грошай у банкавых кнігах. Я парадзіў Рак-Міхайлоўскаму і Валошыну расьпісаць гэтую суму, як уклады паасобных, але давераных асобаў, якія эвэнтуальна не прысабечылі-б сваіх уяўленых укладаў. Гэткімі асобамі ня могуць быць паслы, бо іх могуць арыштаваць, блякуючы адначасова і іх уклады. Гэтак яны і зрабілі. На чые прозьвішы

была расьпісана гэтая сума, мне ня ведама, ды-й я гэтым ня цікавіўся. Толькі пасьля я выпадкова даведаўся ад сэнатара Багдановіча, што на імя брата Мятлы запісана 600 дал; а на імя Р. Астроўскага і ягонай жонкі — каля 1160 дал.

Пазьней, пасьля ліквідацыі Грамады, грамадоўцы, што засталіся на волі, даручылі кіраўніцтва банкам сэнатару Багдановічу. Ён і стаўся Дырэктрам Банку. Аднойчы ў Варшаве ён сказаў мне, што брат Мятлы і Астроўскі з жонкаю дамагаюцца выдаць ім іх „уклады". Фармальна, яны мелі на гэта права. Я парадзіў яму ўзьдзеяць на іх грамадзкае пачуцьцё, а калі не паможа, дык выдаць. Другога выхаду ня было. Як было пасьля мне ня ведама. Сам факт патрабаваньня выдачы „ўкладаў" без зазначэньня, на што яны будуць бескантрольна расходаваны, кінуў на „ўкладчыкаў" няпрыемны цень і выклікаў прыгнятаючае ўражаньне сярод сяброў Пасольскага Клюбу.

### РАЗГРОМ ГРАМАДЫ.

Грунт для буйнага росту Грамады быў старанна прыгатаваны. Яго прыгатаваў ня хто іншы, як я, спачатку перадвыбарчаю агітацыяй, пазьней пасольскаю. Не дарма Рак-Міхайлоўскі мне казаў: „Ты-ж духовы бацька Грамады. Чаму ты пакінуў сваё дзіця?" Як рунь на добрай глебе пасьля веснавога дажджу шумна падымаецца ўгару, гэтак шумна тварыліся мясцовыя гурткі Грамады. Ад канца чэрвеня 1924 да яе разгрому перад новым 1926 г. лік сяброў узрос да 121000 чалавек. Увесь палітычна сьведамы элемэнт уліўся ў гурткі і пацягнуў

за сабою меньш сьведамую большасьць. Разам з доказамі нацыянальнага характару, кіраўнікі гурткоў гаварылі маласьведамым: „На весну адбудзецца падзел абшарніцкіх маемасьцяў і ты, калі ня ўвойдзеш у Грамаду, ня будзеш дапушчаны да падзелу. Лік сяброў гурткоў рос ня днямі а гадзінамі. Уся Заходная Беларусь была ахоплена густой сеткаю гурткоў. Адначасова з колькасьцю, расла і актыўнасьць грамадоўцаў. Амаль у кожнай вёсцы быў гурток. Уладжваліся частыя зборкі сяброў. На зборках абгаворваліся пытаньні бягучай нутраной палітыкі. Як малады конь, першы раз запрэжаны, рве з месца, так бралі гурткі. Там часта можна было пачуць клічы супярэчныя з існуючымі законамі. Пры слабой нутраной партыйнай дысцыпліне, гурткі самацёкам рэвалюцыянізаваліся ўсё больш і больш. На гэтую дарогу штурхала іх польская дэфэнзыва. Ейныя агэнты не бяз ведама адміністрацыі, або па яе распараджэньні, уступалі ў лік сяброў партыі. Яны сваімі правакацыйнымі выступленьнямі пхалі Грамаду да ліквідацыі. Партыйны цэнтар ня быў у стане стрымліваць экспансыўнасьць гурткоў і фактычна, пад канец 1925 г. яны былі ўжо бяз цэнтральнага кіравецтва. Звычайныя сябры партыі спадзяваліся, на выпадак забурэньняў, на дапамогу з усходу. Цэнтар гэтай надзеі ня меў. Ён добра ведаў, што дзеля Заходняй Беларусі Саветы не адважацца на канфлікт з Польшчаю. Значыць, у выпадку якіх небудзь сур'ёзных закалотаў мы застанёмся адзінокія, пакінутыя на ласку лёсу. Усякі выбух актыўнага супраціву будзе затушаны беларускай крывёю. Гэта магло выклікаць у народзе, без адпаведнага палітычнага гарту, адваротную рэакцыю, шкодную для нашага па-

літычнага руху. Такі быў мой пункт гледжаньня на створанае палажэньне. Яго я і разьвіваў паслом Грамады і асабліва Тарашкевічу.

За колькі дзён перад арыштам громадоўцаў, Тарашкевіч запрасіў мяне пайсьці з ім на вячэру. Мы зайшлі ў спакойны рэстаран пры вуліцы Манюшкі, „Pod Wiechą". Вячэраючы, мы гутарылі аб вытвараным палажэньні. Я намаляваў яму падрабязна становішча на месцах і сказаў: „Што-ж, калега, на весну давядзецца заклікаць народ да паўстаньня". Ён, безнадзейна разьвёўшы рукамі, адказаў: „Лейцы, братка, выпалі з рук". Пры гэтым ён пацьвердзіў, што няма ніякай надзеі на дапамогу Саветаў. У сапраўднасьці лейцы ня выпалі з рук, а іх выхапіў з рук Тарашкевіча Ваевудзкі і К°. Вось гэты правакатар і згуляў вялікую ролю ў зьявішчы буйнага росту Грамады і пазьней ейнага разгрому. Увайшоўшы ў нейкі спосаб у давер Тарашкевіча, Луцкевіча і яшчэ некаторых дзеячоў Грамады, ён трымаў руку на пульсе росту і разьвіцьця Грамады, і ўсякімі магчымымі спосабамі прапіхаў у Грамаду сваіх агентаў з мэтаю падмінаваньня яе з нутра. Як пабачым далей гэта яму ўдалося: Грамада была распушчана, а выдатнейшыя ейныя працаўнікі апынуліся за турэмнымі кратамі. Апрача Грамады, Ваевудзкі за пасярэдніцтвам свайго супрацоўніка ў Вільні Сьвіневіча, сачыў за беларускімі студэнтамі ў Чэскай Празе. Гэта выявілася на Маршалкоўскім Судзе Ярэміча і Ваевудзкага.

Грамадоўскі рух пралез і ў беларускія гімназіі. Дырэктар Віленскай Гімназіі Р. Астроўскі, тады сам грамадовец, ня толькі талераваў, а я сказаў-бы фаварызаваў у часох Гурына гэты рух. З уласьцівай яму ўсьмешкаю, у інтымным

коле ён называў сваіх выхаванцаў камсамольцамі. Дырэктар Наваградзкай Гімназіі глядзеў на гэты рух у сваёй гімназіі паблажліва, праз пальцы. Перайшоўшы пасьля на польска-беларускую ўгоду, Астроўскі сваімі собскімі рукамі выкараняў тое, што раньней падтрымоўваў. У выніку наступілі арышты некаторых вучняў і выключэньне іх з гімназіі.

Польскі ўрад з непакоем глядзеў на беларускія „Крэсы" і нарэшце адважыўся на вострыя меры. У часе калядных парляманцкіх вакацыяў 1925 г., віленская пракуратура, ня гледзячы на дэпутацкую нятыкальнасьць арыштоўвае паслоў Грамады — Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлу і Валошына, а з імі Р. Астроўскага і А. Луцкевіча. Усіх іх абвінавацілі ў дзяржаўнай здрадзе. Абвінавачаньне пагражала 12 гадамі цяжкай турмы. Урад аб'явіў Грамаду распушчанай і, значыць, нелегальнай.

Арышт бяз згоды Сойму пракуратура тлумачыла як злаўленьне на гарачых сьлядох праступку, што і давала ёй фармальна права арышту. Толькі пасьля калядных вакацыяў яна ўнесла ў Сойм просьбу аб выдачы арыштаваных для судовай расправы. У Сойме ў абарону арыштаваных паслоў выступілі нацыянальныя меньшасьці. Ад Бел. Пасоль. Клюбу выступіў я, як старшыня клюбу. Памятаю гэты вялікі дзень у Сойме. Усе паслы на месцах, галерэя запоўнена публікаю, дыпляматычная лёжа поўная. У сваёй прамове я дапускаў вострыя звароты пад адрасам ураду, польскай улады і кават маршалка Пілсудзкага, спадзяючыся справакаваць маршалка Сойму на ўжыцьцё ім скрайняй меры — пазбаўленьня мяне слова. Зраўнаважаны і цярплівы Ратай абмежаваўся патройным прыклікаsuccessивньнем мяне да парадку з

запісам у пратакол, што цягнула кару грашовым штрафам у вышыні 50 зл.

Сойм выдаў паслоў для судовай расправы, а суд прысудзіў, калі ня мыляюся, на 8 гадоў цяжкай турмы кожнага. Луцкевіч і Астроўскі былі апраўданы. Абудва яны купілі свабоду цаною разьбіцьця бога Грамады і пакланеньня богу ўгоды. Сабалеўскага судовыя ўлады пакуль не чапалі. Ён скарыстаў з гэтага, ды пры дапамозе сэнатара Назарэўскага і нямецкіх паслоў Сойму, што жылі ў Катовіцах, быў перакінуты ў Нямеччыну. Адтуль ён пераехаў на тэрыторыю вольнага гораду Данцыга, дзе і жыў у курортным гарадку Цопотах. Я рэгулярна вазіў яму ягоныя дыеты і прабаваў шчасьця ў ігры ў рулетку, часамі з даходам, часамі з пройгрышам. На аснове нейкіх меркаваньняў Сабалеўскі вярнуўся ў Варшаву, быў суджаны і судом апраўданы.

Так закончыла сваё легальнае існаваньне Грамада.

## САПРАЎДНАЕ АБЛІЧЧА ВАЕВУДЗКАГА.

З папярэдняга мы бачылі, якую ролю згуляў пасол Ваевудзкі ў разгроме палітычнага жыцьця Заходняй Беларусі. Не дарма-ж кс. А. Станкевіч называў яго „злым гэніем беларусаў”. Застаецца аканчальна адсланіць маральнае абліччa гэтага асабня.

Гэта быў чалавек надзвычай энэргічны, бязьлітасны, прагны на пашану і на ўладу. Ён мог быць другім Дзяржынскім. У часе польска-савецкай вайны ён быў афіцэрам польскай арміі ў Менску і кіраваў контр-разьведкаю стоячы на чале дэфэнзывы. Ужо тады ён зыйшоўся з

беларусамі ў Менску і, паводля слоў Тарашкевіча, аддаваў ім нязначныя ўслугі, прадстаўляючы з сябе нашага сымпатыка. Якую працу ён выконваў ад часу падпісаньня міру з Савецкім Саюзам да выбараў у Сойм 1922, мне ня ведама.

На тэрыторыі Сойму Ваевудзкі трымаўся вельмі задзёрыста, накіроўваючы пад адрасам правых, цэнтру і ўраду часта абразьлівыя выкрыкі. Урад маўчаў, грамадзкая апінія не ар'ентавалася ў сапраўднасьці справы, а Ваевудзкі ўсё больш нахабнеў і расьпераразваўся. Нарэшце ўпала апошняя кропля, якая перапоўніла кубак цярпеньня ўраду Бартэля. З соймавай трыбуны ня памятаю ў якой справе, выступаў Міністар Юстыцыі Мэйштовіч. Ваевудзкі і крыкнуў пад адрасам ураду: „Kataryniarze!" (Кацярынаўцы). Гэтым ён вытыкаў Мэйштовічу ягоную афіцыяльную прысутнасьць на адкрыцьці памятніка Кацярыне II ў Вільні. З урадавай лавы падымаецца прэм'ер Бартэль і просіць слова. Коратка і ясна ён заяўляе, што Ваевудзкі ня мае права на такія выступленьні: ён урадавец другога аддзелу (разьведкі) Міністэрства Нутраных Справаў. Гэтая заява выклікала вялікае хваляваньне сярод усіх дэпутатаў. Афіцыяльна пацьвердзіліся падазраньні кс. А. Станкевіча. Апрача таго, у беларускіх колах гаварылі і аб тым, што ён сябра Выканаўчага Камітэту Камінтэрну. Далейшыя падзеі пацьвердзілі і гэта.

Назаўтра ў органе Народнай Дэмакратыі „Gazeta Warszawska Poranna", зьявіўся фэльетон Новічыньскага пад загалоўкам: „Новы Азэф у Польшчы". Ваевудзкі на гэта ў прэсе не рэагаваў. Балін абурыўся. Аднак Ваевудзкаму ўдалося нейкім чынам супакоіць сва-

іх беларусаў. Дэманстратыўна ён адаслаў прэзыдэнту рэспублікі ўсе ордэны і адзнакі, якія ён раньней атрымаў.

Пасьля роспуску Сойму Ваевудзкі некаторы час шноўдаўся па Польшчы, а пасьля без перашкодаў пераехаў на тэрыторыю вольнага гораду Данцыга. Адтуль ён з жонкаю папаў у Маскву. Былі чуткі, што з Масквы ён быў адкамандыраваны на нейкую нячыстую работу ў Букарэшт, адтуль пасьля правалу арганізацыі, ён быў пераведзены на такую самую працу ў Будапэшт. Адтуль, пасьля няўдачы, быў выкліканы ў Маскву, дзе і быў зьліквідаваны. Так загінуў самы спрытны польскі правакатар у Заходняй Беларусі, на сумленьні якога ляжыць шмат цярпеньняў беларусаў, у тым ліку і гібель грамадоўскіх паслоў у ШІЗО Салавецкага лягеру і Тарашкевіча, што загінуў ня ведама дзе і пры якіх абставінах.

V.

# БЕЛАРУСКА - ПОЛЬСКАЯ ЎГОДА.

## ПАСЬЛЯ РАЗГРОМУ ГРАМАДЫ.

Пасьля ліквідацыі Грамады пачалася новая ўгода. Спробы з польскага боку пачаліся з першых дзён існаваньня Бел. Пасоль. Клюбу. Былі створаны, як гаварылі, палітычныя „шопкі" Паўлюкевіча і Валэйшы. Паўлюкевіч, які называў сябе доктарам, атрымаў аднекуль субсыдыю на выдавецтва газэты „Беларускае Слова". Газэтка была поўна бесьперапынных нападаў спачатку на Бел. Пасоль. Клюб, а пасьля стварэньня Грамады, асабліва злосных атакаў на яе. Валэйша, чалавек з крымінальным мінулым, быў умудрыўся нейкім чынам прадаць нейкаму прастаку дзяржаўны дом на Зарэччы ў Вільні. За гэтую афэру ён атрымаў 2 г. турмы, а грошыкі няўдалага купца плакалі. Такому дзялку адміністрацыя дала дазвол на адчыненьне беларускага клюбу, дзе адбывалася газардовая гульня ў карты і п'янства. Мае віленскія сябры запэўнівалі, што ён — агент дэфэнзывы. Вось гэткія беларусы і тварылі беларускі ўгадовы лягер. Салідныя беларусы, нават палянафілы, як інж. Дубейкоўскі не пайшлі на такую работу. Іншых пакуль ня было. Патрэбны былі, аднак, паўнавартасныя людзі з незапэцканаю апініяй, якія мелі-б вагу ў беларускім грамадзтве.

Пасьля ліквідацыі Грамады віленская адміністрацыя і затрымала свой пагляд на Луцке-

вічу і Астроўскім. Праўдападобна яшчэ ў турме была зроблена ўгадовая ўмова, і абудва яны былі апраўданы судом і вызвалены. Апынуўшыся на свабодзе, яны залажылі новую партыю „Цэнтрасаюз", з газэтаю „Беларускі Фронт". Да іх употай далучыўся М. Чатырка, настаўнік Беларускай Гімназіі ў Навагрaдку, грамадоўскі бажок Навагрaдчыны. Пачаліся спробы гаварыць з беларускім народам цераз галовы паслоў і сэнатараў, як тады гэта звалі ў урадавых і соймавых колах. Беларускі Пасольскі Клюб быў як і раньней няпрымірымы.

Луцкевіч за пасярэдніцтвам газэты, Астроўскі ў гімназіі собскімі рукамі выкарчоўвалі тое, што раньней старанна сеялі — грамадоўскі дух. У выніку гэтага, цераз некаторы час у гімназіі пачаліся сярод вучняў арышты і звальненьні з гімназіі. Пачаліся нараканьні бацькоў вучняў, на якія, аднак, кіравецтва гімназіі не зьвяртала ўвагі. Будучыня паказала, што дух не пагас а толькі затаіўся ў падпольлі, што пры зручным мамэнце ён вырвецца і сакрушальна ўдарыць ня толькі па ўгодзе, але і па Нацыянальным Пасольскім Клюбе.

Луцкевіч і Астроўскі відавочна спадзяваліся, што выбраны імі шлях прывядзе да некаторых уступкаў з польскага боку на карысьць беларусаў, прынамся ў школьніцтве. Яны забыліся, што маюць дачыненьня з езуітамі, якія песьцяць у глыбіні душы думкі аб поўнай ліквідацыі нашага школьніцтва, толькі не гвалтоўным спосабам, а паступова, выкарыстоўваючы нашую матар'яльную бездапаможнасьць.

Трэцяя ўгода — Янкі Станкевіча, як бяз'ідэйная і чыста шкурніцкая, не заслугоўвае, каб аб ёй гаварыць. Як-жа выясніць „сальто мортале" Астроўскага і Луцкевіча ад Грамады да

ўгоды? У ім іграў значную ролю элемэнт асабістай карысьці.

Пасьля разгрому Грамады зачыніліся і крыніцы матар'яльнай падтрымкі для гімназіяў. Астроўскі застаўся верны сабе: „На беларускую справу буду браць грошы ня толькі ад бальшавікоў, але і ад чорта". Пытаньне, якім коштам здабываліся гэтыя грошы. Як пасьля выявілася, надта вялікім коштам, бо коштам ліквідацыі беларускага школьніцтва. Чорт, зразумела, грошай ня даў, але ад палякаў нешта капала. Толькі гэтыя каплі дзяліліся Вільняю нераўнамерна паміж гімназіямі. Так, аднойчы, дырэктар Навaградзкай Гімназіі мне скардзіўся адносна ігнараваньня Астроўскім і Луцкевічам інтарэсаў гімназіі. Паводля ягоных словаў, яны атрымалі значную суму (непраўдападобна — 90.000 зл.) і з гэтай сумы ягонай гімназіі нічога не далі. Куды пайшлі гэтыя грошы ведама толькі тым, што іх атрымалі. Думаю, што гэты факт ведамы, былому настаўніку гімназіі А. Орсе.

Гэтыя сродкі ня былі бюджэтным асыгнаваньнем, а выдаваліся ваяводаю з ягоных дыспазыцыйных сумаў. Эндэцка-пястаўская соймавая большасьць ня лічыла патрэбным падтрымоўваньне беларусаў нават у галіне школьніцтва.

## МАЙСКІ ПЕРАВАРОТ 1926 Г.

Пасьля выбару прэзыдэнта Вайцехоўскага, маршал Пілсудзкі адыйшоў ад дзяржаўнай працы, склаўшы з сябе назоў Галавы Дзяржавы. Цераз некаторы час пасьля гэтага ён аддаліўся ў зацішак адпачынковага прыгараду Варшавы — Сулеювэк. Адтуль ён не пераста-

ваў сачыць за разьвіцьцём дзяржаўных падзеяў у Сойме і вонкі. Яму чамусьці не падабалася „Narodowa Demokracja" і ейныя палітыкі. Сулеювэк зрабіўся цэнтрам, каля якога згуртавалася незадаволенае афіцэрства. Стварылася група так званых палкоўнікаў, якая пасьля сьмерці маршала і кіравала дзяржаваю ды давяла да сумнага канца — разгрому Польшчы Гітлерам. Маршала падтрымоўвала ня толькі афіцэрства, але ў вялікай большасьці і салдаты. Асабліва быў вялікі ягоны аўтарытэт у палкох, што былі раскватараваны на ўсходніх „Крэсах". З чаго пачаўся канфлікт паміж маршалам і ўрадам — ня ведаю. Толькі ў выніку, на загад Пілсудзкага, верныя яму палкі з Пазнаншчыны і Віленшчыны былі скіраваны на Варшаву. Камандаваньне пераняў Пілсудзкі. Было мала войска на баку прэзыдэнта і ўраду. Адбыліся нязначныя сутычкі на вуліцах Варшавы. Урад з прэзыдэнтам уцяклі з Варшавы і затрымаліся ў палацы Вілльянув. Адтуль яны паслалі сваю заяву Пілсудзкаму аб злажэньні сваіх паўнамоцтваў. Соймавай рэакцыі ня было ніякай, бо Сойм меў вакацыі.

Неадкладна скліканы Сойм, можна сказаць, моўчкі прыняў да ведама дакананы факт. Праф. Львоўскай Палітэхнікі Бартэль сфармаваў новы ўрад. Засталося ўзначаліць дзяржаву — выбраць прэзыдэнта. З мэтаю стварэньня адпаведнай большасьці, Бартэль пачаў канфэрэнцыі з лідарамі соймавых партыяў. Ад беларусаў на гэткую канфэрэнцыю былі запрошаны Рагуля і Ярэміч. Бартэль прасіў лідараў, каб іх клюбы падтрымалі кандыдатуру Пілсудзкага. Між іншага ён сказаў, што і без нацыянальных меньшасьцяў маршалу забясьпечана большасьць, але яму хацелася-б, каб і

яны галасавалі за маршала. Ён прасіў падаць яму мэмарыял з вылічэньнем нашых патрабаваньняў. Ён абяцаў разгледзець яго пункт за пунктам і сказаць: гэта можа зрабіць, гэтага ня можа, аб тым падумае. Мы падалі яму лісту вельмі сьціплых нашых патрабаваньняў. Аднак, абяцанага адказу мы не дачакаліся. Мы адказалі, што, нажаль, мінулая палітыка маршала пярэчыла ўсім ягоным папярэднім абяцаньням, што прынцыповай зьмены ў польска-беларускіх суадносінах мы не чакаем і таму, не авансуючыся, будзем галасаваць супроць ягонай кандыдатуры. Праф. Бартэль расьпісваўся ў сваіх сымпатыях да славянскіх меньшасьцяў, але далей гэтага не пайшоў. Ніякіх канкрэтных прапановаў з ягонага боку не паступіла. Пілсудзкі згадзіўся, каб ягоная кандыдатура на прэзыдэнта была выстаўлена. Сойм большасьцю выбраў яго на становішча галавы дзяржавы. Пасьля выбараў ён адмовіўся заняць гэтае становішча і выставіў кандыдатуру свайго старога сябры праф. Масьціцкага. Сойм ізноў такою самаю большасьцю выбраў Масьціцкага. Паўстае пытаньне, чаму Пілсудзкі адмовіўся ад становішча прэзыдэнта? Ён не хацеў, каб апазыцыйнымі выступленьнямі ў Сойме быў падарваны ягоны аўтарытэт. Ён выбраў армію, адхіліў прэзыдэнтуру. Чаму-ж тады ён выстаўляў кандыдатуру? Ён ня быў прыхільнікам дыктатуры. Ён быў верны прынцыпам парлямантарызму, але ня любіў Сойму ў тым складзе, у якім ён быў. Ён толькі лічыў патрэбным, каб Сойм сваім выбарам яго на становішча прэзыдэнта залегалізаваў ягоны бунт супраць ураду Вітаса і прэзыдэнта Вайцехоўскага. Выбар быў вотумам даверу і, значыць, легалізацыяй папярэдніх дзеяньняў маршалка.

## ДАЛЕЙШЫЯ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ СУАДНОСІНЫ.

Беларускі Пасольскі Клюб, не зьмяняючы свае папярэдняе тактыкі, заставаўся ў апазыцыі да ўраду Бартэля. У адным са сваіх соймавых выступленьняў прэм'ер сказаў, што ўрад будзе гаварыць з беларускім народам цераз галовы ягоных афіцыйных прадстаўнікоў. Гэтая гутарка пачалася за пасярэдніцтвам Луцкевіча і Астроўскага ў Вільні, ды праз М. Чатырку ў Навагрaдку. Толькі гэты апошні, будучы лідарам грамадоўцаў Наваградчыны, затойваў гэта часова перад сваімі аднапартыйцамі. Дзеля зьмягчэньня вастрыні суадносінаў, ваяводаю ў Вільню быў прызначаны Рачкевіч, а ў Наваградак — польскі лібэрал Бэчковіч, які замяніў эндэка Янушайціса. Бэчковіч, а з ім і наваградзкі павятовы староста з жонкаю пачалі апекавацца беларускаю гімназіяй зьвяртаючы ўвагу на ейныя другарадныя патрэбы, як арганізацыя хору Валынчыкам.

Паглядзім, якія былі польскія гаспадарчыя мерапрыемствы на нашай тэрыторыі ў гэты пэрыяд. Спажывецкія каапэратывы былі ў польскіх руках. Існаваў Каапэратыўны Банк у Наваградку. Удзельнікамі былі палякі. На чале банку стаяў мясцовы ксёндз, чалавек высокасумленны, але даверлівы. Ён быў акружаны мясцовымі акуламі, якія і атрымоўвалі крэдыты залатою манэтаю пад ваксалі, жыраваныя іхнімі служанкамі і парабкамі, што нічога ня мелі. Што-ж з іх возьмеш, з гэтых жырантаў? Золата плыло ў Мір на закуп сьвіньняў, якіх перапродвалі ў Наваградку з добрым даходам на польскія злотыя. Ніхто не сьпяшаўся зьвяртаць пазыкі і банк дакаціўся да поўнага краху

пасьля сьмерці ксяндза. Сэймік даў крэдыт на 10.000 зл. Калі і гэтыя грошы былі зрасходаваны, дырэктар уцёк. Прыехаў новы, які зьвярнуўся па 50.000 зл. субсыдыі. У Сэйміку была ў той час беларуская большасьць, якая на маю прапанову і пастанавіла абсьледаваць стан банку. Запрошаны з Вільні бугальтар беларус, Коўш, устанавіў, што банк у сапраўднасьці ўжо банкрот. Яго, магчыма, здолее выратаваць сума 250.000 зл. На паседжаньні Сэйміку я запрапанаваў: калі банк гіне, дык хай прападуць сэймікавыя 10.000 зл., чым маюць прападаць 50.000, і банк пайшоў пад судовую апеку. Амэрыканскі крэдыт разграбілі на дапамогу нейкаму жаночаму ордэну ў Наваградку, частка пайшла на дапамогу польскім асаднікам і ўрадаўцам ды на пабудову для іх дамкоў у Наваельні. Рэшткі пусьцілі на закуп цэглы на пабудову цагельні для вырабу цэглы на кашары, што мелі будавацца ў Наваградку. Падчас чарговай рэвізіі, камісія ў складзе: В. Рагулі, Аляксюка і Проньკі ўстанавіла, што ўся цэгла, як дрэнна выпаленая, раскісла пад голым небам і ператварылася ў глінянае месца. Мясцовыя жыды прасілі, каб Сэймік аддаў ім у арэнду пляц, матар'ял і права, прапануючы за гэта 10.000 зл. штогод. Я гэтае пытаньне паставіў на Сэйміку, але ён яго адхіліў, спадзяючыся сам зарабіць пры будове кашараў. Кашары былі пасьля пабудаваны толькі з прывазное цэглы, а ня сэймікавай.

Пры Сэйміку была і жывёлагадоўчая гаспадарка. Каровы з гэтае гаспадаркі нічым ня розьніліся ад сярэдніх сялянскіх кароў ані па ўкормленасьці, ані па малочнасьці. Там была і сьвіная фарма з белымі гатунковымі ангельскімі сьвіньнямі. Калі мы заглянулі ў сьвінар-

нік, дык убачылі, што там подсьцілу ня было і сьледу, а ў гнойнай жыжцы варушылася нешта падобнае да трытонаў, ці вадзяных пацукоў. Добры гаспадар ня трымаў-бы ні мінуты такога кіраўніка, які дапусьціў маёмасьць да гэткага стану. Усё вышэйшае было апісана ў камісыйным пратаколе. Сваю справаздачу аб стане гаспадаркі я скончыў словамі: „мы бачылі паказовую гаспадарку, але толькі паказовую з адмоўнага боку, як ня трэба яе весьці.” З вышсказанага чытач можа бачыць, якія былі вынікі гутаркі ўраду з беларускім народам цераз галовы паслоў.

Бэчковіч уважаў за неабходнае падняць матар'яльны дабрабыт мясцовага насельніцтва шляхам камасацыі сялянскіх гаспадарак і палепшаньня галоўнага экспартнага тавару — ільнянога валакна. Атрымалася як у мядзьведзя, што пастанавіў гнуць дугі. Былі зарганізаваны каапэратыўныя фабрычкі ў Празароках (Дзісьненшчына), Гароцьках (Валожыншчына), Любчы (Наваградчына) і ў Безданах (Сьвянцяншчына). У Вільні пасялілася цэнтраля са штатам працаўнікоў і дырэктарам. Фабрычкі былі каапэратыўныя. Дзеля абачлівасьці адказнасьць была роўна паю, які быў 50 зл. Урад даваў крэдыты на закуп пляцу, на будову новых будынкаў. У якасьці абаротнага капіталу Любча атрымала: на закуп лёну (выплата пайшчыкам у форме залічкі) — 80.000 зл., на пляц пад будоўлю і машыны — 75.000. Машыны для апрацоўкі лёну былі швэдзкія, маркі „Helsingen”, вельмі мала выдайныя. За два гады было апрацавана ў Любчы 96 тонаў валакна, трох гатункаў. Апрацоўка каштавала вельмі дорага. Апрацаванае валакно паслалі на продаж у Англію, ня маючы на гэта ніякага

кантракту. Вільня выслала гэтае валакно позна ўвосень і яно зазімавала ў Лібаве, праляжаўшы там 6 месяцаў. Вясною выслалі яго ў Гандаву а адтуль у Лёндан і Бэльфаст. З Бэльфасту перавезьлі яго назад у Лёндан, дзе і прадалі за тое, што далі. У Лёндане мы атрымалі меньш палавіны таго, што давалі нам на месцы прыватныя купцы. Ім мы ня мелі права прадаць, бо тавар быў задаткаваны „Bankiem Rolnym". Грошы атрымаў банк, а мы павінны былі задаволіцца атрыманым раньней задаткам. Да няўмелага кіравецтва далучыўся яшчэ сусьветны гаспадарчы крызіс 1930-31 гадоў. На канфэрэнцыі ў Вільні дырэктар банку Мацулевіч запрапанаваў каб пагасіць доўг павялічыўшы паявую адказнасьць у 10 разоў. Я сказаў, каб дырэктар запрапанаваў гэта пайшчыкам сам. Мы ня рызыкуем гэта зрабіць. Так і закончылася польская фабрыкацыя ільнянога валакна і гандаль ім на Заходняй Беларусі.

## VI.

## ВЫБАРЫ Ў ДРУГІ СОЙМ.

### ПЕРАМОГА „ЗМАГАНЬНЯ".

Пры выбарах у другі Сойм перадвыбарчая кампанія была для нас дужа затруднена. Мітынгі, калі на іх выступалі беларусы з лягеру Беларускага Пасольскага Клюбу ці Грамады, разганяліся паліцыяй. Выбаршчыкаў, што падпісваліся на лісьце кандыдатаў у паслы і сэнатары, застрашваньнем і нагаворамі паліцыя старалася змусіць зьняць свае подпісы, і то ў такой колькасьці, каб іх на лісьце засталося меньш за 50, каб такім чынам зрабіць лісту неправамоцнай. Паліцыя адбірала выбарчыя картачкі ад меньш талковых, пхаючы ім у рукі картачкі Нр. 1, або і зусім ня пускала ў салю галасаваньня. Беларусы, нават няпісьменныя жанчыны, прызапасіліся ад урадавых агітатараў картачкамі Нр. 1 ды, схаваўшы свае, паказвалі іх службоваму паліцыянту, які тады ветліва пускаў іх у салю галасаваньня.

На выбарах канкуравалі: Нр. 1 —Польская ліста — Беспартыйны Блёк Супрацоўніцтва з Урадам; Нр. 18 — Украінска-Беларуска-Нямецкі Блёк; Нр. 39 — „Змаганьне" (ліста былое Грамады) і Нр. 41 — угадовая ліста М. Чатыркі. У Віленшчыне Нр. 18 і Нр 39 ды дзьве ўгадовыя — Астроўскага і Янкі Станкевіча. Ліста Нр. 18 фінансавалася немцамі, Нр. 39 — камуністамі, Нр. 1 — урадам, а ўгадовыя — мясцовымі ваяводамі з іх дыспазыцыйных сумаў.

Аб лісьце Янкі Станкевіча не даводзіцца гаварыць шмат. Ягоная праграма зводзілася да

атрыманьня пасольскага мандату і зьвязаных з гэтым матар'яльных карысьцяў. Прайшоўшы ў Сойм дзякуючы падтрымцы Кіртыкліса, начальніка дэфэнзывы, Янка Станкевіч застаўся дзікім і не ўвайшоў ні ў адну беларускую групоўку; ды-й яго ніводная і не прыняла-б. Ён ні разу ня выступіў з соймавай трыбуны ў абарону беларусаў. З беларускімі паслам ён ня меў ніякага кантакту ні ў Сойме, ні вонкі яго.

Ліста Нр. 41 — Астроўскага і ягонай жонкі ў Вільні і Чатыркі ў Наваградку была ўгадовая. Астроўскі і Чатырка відавочна лічылі, што ад палякаў можна вытаргаваць сякія-такія крошкі для народу, не забываючыся і аб сабе. Яны, або забыліся старое — палітыку Тарашкевіча і Беларускага Пасольскага Клюбу з ейнымі вынікамі, або ня лічылі патрэбным яе прыпамінаць. Надзея апіралася на вельмі малых зьменах у поглядах урадавых колаў адносна пытаньня славянскіх меньшасьцяў: зьмягчыць адміністрацыйны націск і пайсьці на спатканьне па эканамічнай лініі. Пачаліся гутаркі аб камасацыі, аб узьняцьці сельскай гаспадаркі на ўсходніх „Крэсах" шляхам арганізацыі кааператываў для апрацоўкі лёну і збыту яго за граніцай. Вышэй я ўжо паказаў, як гэтыя спробы праводзіліся і чым яны скончыліся. Беларускі Пасольскі Клюб ні трошкі ня верыў у добрую волю палякаў. Ня думаю, што Астроўскі і Чатырка верылі ў яе.

Цікавая палітычная эквілібрыстыка Чатыркі. Фактычна перад выбарамі ў другі Сойм, ён узначаліў Грамаду ў Наваградзкай акрузе. Грамадоўцы выказалі яму 100% даверу. Мой уплыў зыйшоў да мінімум. Што Чатырка ўпотай выношваў у сабе зраду Грамадзе і пераход на ўгоду, аб гэтым ведаў толькі я і любчанская

інтэлігенцыя. Усякія навeты на ўгоду Чатыркі грамадоўцы ўважалі за ману і паклёп. На зьезьдзе ў Гарадэчні Чатырка атрымаў поўны давер. За Беларускі Пасольскі Клюб і Сялянскі Саюз галасавалі толькі дэлегаты Любчанскай воласьці. Там стала ясна, што Беларуска-Ўкраінскі Блёк на выбарах пацерпіць паражэньне. Пераможа Грамада. Чатырка гэта разумеў таксама, і вырашыў дзеяць спосабам нечаканасьці. Вядучы закулісныя перамовы з Бэчковічам, ён стараўся дакладна хаваць да апошняй мінуты свае сапраўдныя намеры. Бэчковіч гаварыў: мандат Чатыркі мураваны. Грамадоўцы гаварылі: перамога Чатыркі і ягоных прыхільнікаў цалкам забясьпечана. Так ён і заставаўся сядзець на двух крэслах, пакуль неабходнасьць ня змусіла яго выбраць адно з іх. Прыйшоў час скласьці лісту кандыдатаў. І тут, хочаш ня хочаш, Чатырка змушаны быў зьняць грамадоўскую маску і паказаць сваё сапраўднае аблічча — аблічча ўгоды. На прапанову грамадоўцаў узначаліць лісту „Змаганьня" ён адказаў адмоўна і падаў сваю ўласную лісту. Можна ўявіць якое было абурэньне грамадоўцаў супроць яго. Заставалася ня больш 10 дзён для перагрупаваньня грамадоўскага фронту. Грамадоўцы пасьпелі за гэты час скласьці новую лісту на чале з Дварчанінам і да канца зьнішчыць аўтарытэт Чатыркі. Гэта ім цалком удалося. Яны атрымалі ў акрузе 4 мандаты. Чатырка праваліўся з трэскам. Праваліўся і Беларуска - Ўкраінскі Блёк. Характэрна, што роднае мястэчка Чатыркі, Любча, дзе ён меў сваякоў і знаёмых, аддало за яго толькі 2 галасы! Як пасьля жартавалі мясцовыя дасьціпнікі, гэта былі галасы цесьця і цёшчы. Нават сёстры і швагры за яго не галасавалі.

## ПАДТРЫМКА „ЗМАГАНЬНЕМ" БЕЛАРУСКА-УКРАІНСКА-НЯМЕЦКАГА БЛЁКУ У ВЫБАРАХ У СЭНАТ.

Пасьля выбараў у Сойм. усе актыўныя працаўнікі „Змаганьня" ўліліся поўнасьцю ў лік працаўнікоў нашай лісты Нр. 18 з мэтаю падтрымаць яе і дабіць Чатырку. „Змаганьне" ня мела свае сэнатарскае лісты і таму змаганцы падтрымалі лісту Рагулі, вырашаючы ягоны выбар на сэнатара.

Характэрна, што грамадоўцы не вымагалі як найбольш грошай, а арганізавана абмяркоўвалі, каму куды накіравацца і колькі даць на дарогу грошай.

Гэта паказвае, што вонкі нас засталіся самыя ідэйныя працаўнікі. Імі і былі былыя грамадоўцы.

Я, як прыцягнуты да судовай адказнасьці за мае выступленьні вонкі Сойму, заставаўся спачатку на волі пад заклад 500 зл. Пасьля суду гэты заклад быў павышаны да 10.000 зл. Зразумела я гэткай сумы ўнесьці ня мог і быў зачынены ў вязьніцу ў Вільні, на Стэфанскай вуліцы. Я там прасядзеў увесь час выбараў. Мяне прысудзілі да 2 гадоў цяжкай турмы са стратаю палітычных правоў на 10 год. У судзе я не стараўся дабіцца апраўданьня таму, што я ведаў, што „для дабра Rzeczypospolitej" мяне трэба было пазбавіць правоў, а па-другое, я быў упэўнены, што мае выбаршчыкі пастараюцца мяне выбавіць выбарам у Сойм або ў Сэнат. Сьведкі абвінавачаньня гаварылі ўсялякія выдумкі, што нібы я заклікаў адарваць Заходнюю Беларусь ад Польшчы і прылучыць яе да Савецкага Саюзу, не плаціць падаткаў, не даваць жаўнераў. Сьведкі абароны выявілі-

ся застрашанымі людцамі. Дырэктар Беларускай Гімназіі ў Наваградку, Пётра Скрабец, мой сьведка, казаў, што прамова Рагулі была нагэтулькі вострая, што ён не дастаяў да канца і пайшоў.

Абвінавачаньне пракурора было такое слабое, што ён у сапраўднасьці ня мог знайсьці ў маіх словах праступства. У канцы свае прамовы ён зьвярнуўся да суду: „Mamy przed sobą ekwilibrystę i żonglera słowa, który w legalne formy wkłada nielegalne myśli". Так на заяву аднаго з слухачоў, што вялікія падаткі, падсудны адказаў: „ці вы хочаце, каб я вам сказаў не плаціць падаткі? Гэтага я сказаць не магу." У гэтых апошніх трох словах пракурор знайшоў нелегальныя думкі ў легальнай форме. Бесстаронны сьведка мог тлумачыць гэтыя словы падвойна: не магу, бо гэта будзе супроць закону і бескарысна, або, лічу падобны заклік бязглузьдзіцай і недарэчнасьцю. З гэтага відаць, што форма была легальная, але адкуль пракурор мог ведаць мае думкі? Пракурор апіраўся на расейскім Крымінальным Кадэксе, 129 стацьці. Расейскае-ж права казала, што судзяць за ўчынкі і словы, а не за думкі. Адным словам, мне было ясна, што прысуд гатовы і ніякія доказы не памогуць. У сваім апошнім слове я сказаў: „Мне ня страшны ваш прысуд; мне страшны суд надамною майго народу, што адбудзецца 4 і 11 сакавіка (выбары ў Сойм і Сэнат). Суд адбыўся 27 лютага 1928. Мяне прысудзілі на 2 гады цяжкай турмы з пазбаўленьнем палітычных правоў на 10 год. Такім чынам быў выведзены з шэрагаў адзін з самых спрытных беларускіх дэмагогаў.

Як было ўспомнена вышэй, пры выбарах у Сойм я пацярпеў паражэньне, а пры выбарах у

Сэнат дзякуючы энэргічнай падтрымцы былых грамадоўцаў, я атрымаў сэнатарскі мандат. Вось з гэтага моманту і пачалося тайнае змаганьне вакол мае асобы між дэпутатам Ярэмічам і старшынёю Віленскага Апэляцыйнага Суду, Бохвічам. Першы ў парляманце пускаў у рух усе пружыны дзеля майго вызваленьня для выконваньня сэнатарскіх абавязкаў, другі-ж сьпяшаўся хутчэй закончыць працэс, каб вынесьці прысуд у акружным судзе. Трэба сказаць, што Бохвіч меў на мяне зуб з асабістых прычынаў. У свой час сын і зяць Бохвіча задушылі ў лесе аднаго селяніна, і я, як пасол, умяшаўся ў гэтую справу. Таму ён і стараўся скончыць як мага хутчэй з маёю справаю, вызначаючы слуханьне на 11, а пасьля на 8 чэрвеня 1928. Ня спаў і Ярэміч. Ён хутка і ўдала „абрабіў" усіх лідараў польскіх партыяў. Усе абяцалі падтрымаць. Тэрмінова была створана сэнацкая камісія дэпутацкай нятыкальнасьці. У гэты самы дзень на парадак дня была пастаўлена мая справа, і камісія аднагалосна пастанавіла ўстрымаць судовы працэс. Гэта было 7 чэрвеня. У той самы дзень справа была перададзена маршалку Сэнату з прапановаю неадкладна ўставіць яе ў павестку нарадаў Сэнату. Згодна з парляманцкім статутам,кожнае пытаньне, унесенае ў парлямант, можа па сутнасьці быць разгледжана ў дзень унясеньня пры ўмове, што супроць гэтага ня будзе ніводнага голасу. Сэнат аднагалосна пастанавіў разгледзець справу на тым самым паседжаньні і вырашыў маю судовую справу ўстрымаць, а мяне вызваліць дзеля выконваньня сэнатарскіх абавязкаў. Так Ярэміч на 12 гадзін выперадзіў Бохвіча. Раніцаю 8 чэрвеня я быў прыгатаваўся ісьці ў суд, калі ў камеру ўвайшоў старшы

сяржант і папрасіў мяне ісьці з рэчамі ў канцылярыю. Там начальнік турмы паведаміў мяне аб маім вызваленьні. Трэба ведаць, што яшчэ ў папярэднім Сойме мая справа была на павестцы дня соймавай камісіі якая, аднак, не знайшла дастаткова дадзеных дзеля выданьня мяне суду і запатрабавала дадатковых высьненьняў, якіх пракуратура не магла даць. Было відаць усім, што справа раздзьмуханая.

У турме я праседзеў 3 месяцы. Мяне пасадзілі ў камеру Нр. 16, дзе сядзелі 22 асобы — ўсе беларусы, пераважна з Наваградчыны. Сярод іх быў і забойца правакатара Кузьмы. Харчаваньне было слабое. Зьняволеныя вялі паўгалоднае існаваньне. На 22 яны атрымоўвалі толькі 2 мопраўскія пачкі. Я таксама атрымоўваў ад Ярэміча адну пачку ў тыдзень, якую і аддаваў у агульны кацёл. Мае аднакамернікі былі вельмі незадаволены камуністамі, якія атрымоўвалі па 1 пачцы на асобу ў тыдзень. У камеры я пачаў выкладаць для сяброў у няшчасьці арытмэтыку, гэаграфію і гэамэтрыю. Гэта ня выпала з-пад увагі адміністрацыі, і мяне перавялі да камуністаў, у камеру Нр. 14. Там іх было 9. Кожны з іх атрымоўваў 1 мопраўскую пачку на тыдзень, і то багатую, беларусы-ж — адну, дзьве на 22. Там было недаяданьне, а тут абжорства. З беларусамі яны харчамі не дзяліліся.

## БЕЛАРУСЫ У ДРУГІМ СОЙМЕ.

У другі Сойм беларусы ўвайшлі дужа аслабленыя як колькасна, так і якасна. Яны былі падзелены на дзьве няпрымірымыя групы: „Змаганьне”, на чале з камуністам Дварчані-

нам і Гаўрылікам, і Беларускі Нацыянальны Клюб, на чале з паслом Ярэмічам. Беларускі Нацыянальны Клюб, як і раньней, заставаўся ў апазыцыі да ўраду, але ня так вострай, як у папярэднім Сойме.

Ярэміч адкінуў тактыку вострай апазыцыі і перайшоў да тактыкі гутарак з палякамі, паводля правіла: з паршывага сабакі хоць шэрсьці касмык. Стараньні Ярэміча перавесьці наваградзкую і віленскую беларускія гімназіі на дзяржаўны бюджэт не завяршыліся посьпехам. Яму толькі ўдалося працягнуць цераз Сойм асыгнаваньне 250.000 зл. на заканчэньне будовы гімназіяльнага будынку ў Наваградку. З гэтага, як убачым далей, нічога добрага ня выйшла. Беларусы ўласнымі сіламі, у парадку працоўнай павіннасьці, выкапалі роў пад фундамант, ды яго заклалі. Ваявода Бэчковіч з павятовым старостаю Грынеўскім, асабліва жонка апошняга, пачалі прысьвячаць вялікую ўвагу гімназіі. Справа дайшла да таго, што прэзыдэнт Масьціцкі асабіста прыехаў на закладзіны будынку, паклаў свой уласнаручны подпіс на пэргаманце, які ў адмысловай банцы быў замураваны ў фундаманце. Гэты факт выклікаў у некаторых беларусаў надзею на паварот палітыкі Варшавы ў бок пашырэньня правоў і палепшаньня палажэньня беларусаў. Скэптыкі гаварылі: „Ня вер ты ў гонар іграка, ня вер ты ў дружбу паляка”. Яны ведалі, што ўсякая ўступка беларусам пярэчыць прынцыпу палянізацыі, ад якога ніякі польскі ўрад ня можа адмовіцца. Будучыня пацьвердзіла погляды скэптыкаў. Будаўляны Камітэт, складзены з беларусаў, энэргічна прыступіў да працы, купляў будаўляныя матар’ялы, а бацькі вучняў бясплатна дастаўлялі іх на месца будовы. На

выданую ў дыспазыцыю камітэту частку крэдыту з прызначаных 250.000 зл. быў пабудаваны будынак, які трэба было яшчэ закончыць з нутра. Частка матр'ялу была ўзята камітэтам на павер, але ў граніцах асыгнаваньня. Праца кіпела. Надзея наваградзкіх польскіх колаў, што беларусы нічога ня зробяць, расплылася.

Тады і быў зроблены націск на Варшаву, адкуль і падзьмуў новы вецер. Бэчковіча замяніў Костэк--Бернацкі, архітэкт канцлягеру ў Картускай Бярозе. Выплата рэшты асыгнаваньня ўвышыні 75.000 зл.была ўстрымана.Крэдытары пагражалі камітэту пратэстам ваксалёў. Прадстаўнікіпольскай улады запрапанавалі тады езуіцкі выхад: перадаць будову магістрату гораду. Камітэт пагадзіўся на гэта, пастанавіўшы бальшынёю галасоў усіх супроць аднаго, перадаць будову магістрату. Гэтым адным голасам быў мой голас. У сваёй прамове скіраванай да камітэту, Рагуля даводзіў, што няма чаго баяцца продажу будынку з публічнага торгу. Палякі ня пойдуць на такую кампрамітацыю, а пастараюцца знайсьці лепшы выхад. Урэшце, калі нават і дайшло-б да продажу, дык крэдытарам жыдам прыпадуць цэгла і зялеза, магістрату — падораны пляц, а беларусам — банка з подпісам прэзыдэнта на пэргаманце. Гэта быў-бы гістарычны сорам.

Магістрат атрымаў нявыданую рэшту асыгнаваньня і закончыў будову, але не для беларусаў, а для польскай школы. Такім чынам выявілася, што беларуская асьвета ня толькі нічога не скарыстала з асыгнаванай сумы, але беларусы, дастаўляючы матар'ялы і выконваючы земляныя работы, працавалі на польскую школу, установу для палянізацыі. Гэткі быў фінал гучных закладзінаў фундаманту бела-

рускай школы прэзыдэнтам Масьціцкім. Палякі яшчэ раз даказалі беларусам, што ня можа быць ніякіх надзеяў на перамену палітыкі мірным шляхам. Толькі збройная сутычка Польшчы з Нямеччынаю, або з Савецкім Саюзом здолее перамяніць палажэньне. У выніку разгрому Грамады і націску польскай палітыкі вера беларускіх масаў у свае сілы пахіснулася. Незалежніцкі дух захоўваўся толькі ў інтэлігенцыі. Каналі беларускія гімназіі ў Вільні і Наваградку. З іх спачатку зрабілі беларускія філіі пры польскіх гімназіях, у Вільні беларускую філію гімназіі імя Славацкага і ў Наваградку такую-ж філію гімназіі імя Міцкевіча. Нават гэта не задаволіла палякаў. Беларускія філіі былі зьліквідаваны, а замест іх зрабілі ў Вільні раўналеглыя клясы гімназіі Славацкага, а ў Наваградку раўналеглыя клясы гімназіі Міцкевіча. Пэдагогі — беларусы былі пераведзены ў польскія школы. Так дырэктар Беларускай Гімназіі ў Наваградку — Цеханоўскі, быў накіраваны настаўнікам польскай пачатковай школы ў Ашмяну, а дырэктар віленскай — Р. Астроўскі — настаўнікам польскай гімназіі ў Лодзь. Настаўнікі польскіх гімназіяў зрабіліся настаўнікамі раўналеглых клясаў; было ўведзена навучаньне цэлага шэрагу прадметаў у польскай мове. Ня кіем, дык палкаю, але ўсё-ж такі польскі ўрад дамогся ліквідацыі беларускага школьніцтва ў Заходняй Беларусі.

Я, улічваючы сваё паражэньне пры выбарах і прасавецкія настроі масаў, апусьціў рукі, перастаў езьдзіць па акрузе ды зьвярнуў увагу на валасныя ды павятовыя самаўрады . У наваградзкім павятовым Сэйміку мы, беларусы, мелі абсалютную баль-

шыню. Ня гледзячы на гэта, пастаўленай мною ад імя рэвізыйнай камісіі прапановы не ўдзяленьня абсалютораюм „Wydziałowi Powiatowemu" мае беларусы перапалохаліся, бо гэта спрычыняла дымісію старосты, і галасавалі супраць яе, не разумеючы, што гэтым выказваецца недавер сваёй уласнай камісіі. Падобныя паводзіны маіх землякоў мяне абурылі, і я з прыкрасьцю і крыўдай кінуў старосьце заяву аб злажэньні з сябе абавязкаў старшыні камісіі, ды пакінуў паседжаньне. На мой дакор за зраду, мае сябры адказалі: „мы не маглі зрабіць інакш — нашыя ваксалі былі-б апратэставаны павятоваю касаю". Тут яшчэ раз пацьвердзілася мая тэза: народ, які ня мае матар'яльнай базы, ня можа весьці пасьпяхова палітычнае змаганьне. Нічым іншым, як боязьню пратэсту ваксалёў, можна выясьніць і ганебную здачу ў польскія рукі незакончанага будынку беларускай гімназіі.

* *

Пасьля роспуску другога Сойму закончылася і нашае прадстаўніцтва ў польскім парляманце. У трэці Сойм беларусы не ўвайшлі, бо новы выбарчы закон пазбаўляў нас магчымасьці выставіць кандыдатаў на паслоў таму, што кандыдатаў выстаўлялі эканамічныя і грамадзкія арганізацыі, якіх беларусы ня мелі. Адзіным беларусам у трэцім Сойме быў пасол Ярэміч, але ён прайшоў у Львове, як украінскі кандыдат.

Канец.

Лета 1954 г.
Лювэн, Бэльгія.

## ВЫБРАНЫЯ ПРАМОВЫ

*(ПЕРАКЛАД З ПОЛЬСКАЕ МОВЫ)*

## *ПРАМОВА Ў ЧАСЕ ДЫСКУСІІ ПРАЕКТУ ЗАКОНУ АБ ПАРЦЭЛЯЦЫІ І АСАДНІЦТВЕ,*

*сказаная 25-га гэрвеня 1925 г.*

Высокі Сойме! Усе палітычныя партыі прыйлі да выснаўку, што гаспадарчае палажэньне краіны вымагае радыкальные зьмены зямельнай гаспадаркі ў Польшчы, гэтага таксама вымагаюць і палітычныя абставіны. Усе прызнаюць гэта, а прынамся гавораць аб гэтым, адны шчыра, другія можа няшчыра, што надыйходзіць рашучы мамэнт, што зямлю трэба даць сялянству. Я скажу: так, трэба даць і то неадкладна, бо калі не, дык сялянства само яе возьме. Б'е дванаццатая гадзіна. Ня можна карміць сялянства толькі абяцанкамі-цацанкамі. Польскі селянін добра ведае, што ягоны сваяк за ўсходняю мяжою атрымаў зямлю. Ніякі мур паміж Польшчаю і ўсходнім суседам не перашкодзіць сялянству ў Польшчы ўжыць тыя самыя мэтады, способы, сродкі, якіх ужывае расейскі, беларускі і ўкраінскі селянін, калі дзяржава ня выйдзе яму на спатканьне і не расьсячэ гэтага гардыйскага вузла названага зямельнаю праблемаю. Толькі да гэтага пытаньня трэба падыйсьці з адчыненаю душою, трэба адкінуць усякія жаданьні адабраньня зямлі ад сялянства, трэба стаць на становішчы, якое выключае асабістыя інтарэсы і мець наўвеце мэты агульнага грамадзкага да-

бра і справядлівасьці, трэба прызнаць бяссумніўнае гістарычнае і маральнае права сялянства на карыстаньне зямлёю. Трэба выразна сказаць: зямля таму, хто на ёй працуе. Зямля ня можа быць нечым даступным толькі жменьцы выбраных асобаў. Яна павінна стацца даступнаю для тых, хто на ёй працуе і ў колькасьці якую здолее абрабіць уласнымі сіламі. У абгаворваным пытаньні за падставу трэба ўзяць колькасьць працоўных рук. Калі зямлі за мала, дык ня можна дзяліць так, каб адзін заняў цэлую лаўку а другі ня меў нават на чым сесьці. Ня можна ставіцца да сялянства так як дагэтуль да яго ставілася кляса вялікіх земляўласьнікаў. Ня можна выдаваць законаў аб зямельнай рэформе только на тое, каб пры іх дапамозе вадзіць сялянства за нос, кажучы, што гэтыя законы немагчыма выканаць, што яны пісаныя на калене і г. д. Неаднаразова я чуў у Камісіі Зямельных Рэформаў такія выказваньні аб законе з 15-га ліпеня 1920 г., аб законе аб ліквідацыі сэрвітутаў і іншых. А гаворыцца гэта толькі таму, што спадары абшарнікі ня хочуць выпусціць са сваіх вуснаў смачны кавалак заграблены ад сялянства. Памятайце, паны абшарнікі, калі будзеце выдаваць толькі законы, а не праводзіць іх у жыцьцё, абасноўваючы тым, што былі яны пісаны на калене, то прыйдзе час і ён ужо не далёка, калі раззлошчаны народ за гэткае „каленнае" заканадаўства, напіша вам законы не на каленях, але на іншым месцы, выкіне вас ня толькі з маёнткаў, але і за межы дзяржавы. Прыкладаў далёка шукаць ня трэба. Прашу глянуць на ўсход. Калі-б там у Дзяржаўнай Думе ня было курскіх ды іншых „жуброў" тыпу Сьвятаполк-Мірскіх, Маркавых ды іншых, то ня

было-б і рэвалюцii і ня мелі-б мы расейскай эміграцыі. Кожны закон можа быць выкальны пры добрым жаданьні. А аддаць зямлю таму, хто на ёй працуе — гэта нічога надзвычайнага. Як паветра і вада ў рэчцы ня могуць быць аб'ектамі гандлю, так зямля не павінна належаць жменьцы выбраных. Сойм павінен адсунуць рукі тых, што не працуюць на зямлі, а аддаць яе ў мазалістыя рукі, з любасьцю аддыныя сваёй працы бяз розьніцы паміж палякамі, беларусамі, украінцамі, немцамі і ліцьвінамі. (Голас: І расейцы таксама?). А што-ж вы думаеце, што расеец ня мае права атрымаць зямлю, калі ён грамадзянін? Усе яны нясуць аднолькавыя абавязкі і павінны мець аднолькавыя правы. Не афіцэрам, урадаўцам і іхнім услужнікам трэба аддаць зямлю, бо гэтыя паны ня любяць самы калупацца ў ёй, але сялянству. Толькі ў такім выпадку зямельная рэформа будзе мэтазгодная, дасьць працу таму, хто яе ня мае.

Пераходжу да другога асноўнага пытаньня: ці зямля павінна быць узята з аплатай, ці без аплаты — быць раздана дарма?

Спрабую быць аб'ектыўны і гляну на справу з гістарычнага і натуральнага пункту гледжаньня. Згаджуся, ня можна забраць у чалавека ягоную вопратку і не заплаціць яму за яе, ня можна таму што ён заплаціў за гэтую вопратку працаю або грашыма — вынікам працы. Але, калі чалавек заграбіў гэтую адзежу ад іншага, або здабыў ашуканствам, то ў такім выпадку ня толькі можна, але нават і трэба забраць дарма. Каралі раздавалі гэтыя маёнткі, або князі самы іх сабе прысабечвалі бяз ніякае аплаты. Дамагацца аплаты ўласьнікі гэт-

кіх маёнткаў ня могуць, калі-б дзяржава іх забрала, бо ня маюць яны за сабою ані гістарычнага ані маральнага права. Усе маёнткі здатныя да апрацоўкі, месьцяць у сабе працу не князёў, графоў і шляхты, але працу сялянства на працягу шмат год жорсткае паншчыны. Такім чынам зямля гэтая ня ёсьць творам абшарнікаў і іх продкаў, а прадуктам цяжкай сялянскай працы і таму павінна быць зьвернута яму. Усе гэтыя землі прасякнуты потам, сьлязьмі і крывёю сялянскіх пакаленьняў, што гнуліся пад бізуном шляхты. Да вынікаў працы дзядоў і прадзедаў маюць пяршынство і права іх унукі і праўнукі. Паны шляхта павінны быць яшчэ ўдзячны сялянству, за тое, што яно дагэтуль не зрабіла тое, што зрабіць павінна і ня выгнала іх з хвальваркаў і маёнткаў. Прыйшоў час, калі сялянства павінна сказаць: спадары, калі ня хочаце зыйсьці з дарогі, будзеце адсунуты сілком. Могуць у мяне спытаць: а як будзе з купленымі маёнткамі, за іх заплацілі грошы? Станоўка кажу, што і гэткія маёнткі павінны быць узяты бяз выкупу, а гэта таму, што былі яны куплены за сродкі атрыманыя, ці то з эксплаатацыі работніцкай працы ў фабрыках ці маёнтках, або з яшчэ больш ганебных крыніцаў, як спэкуляцыя, а часам проста з абкраданьня дзяржавы і хабарніцтва. (Пасол Дубановіч: Горлы ім яшчэ падрэзаць, нашто выганяць?). Нашто, няхай жывуць і працуюць. Калі селянін можа працаваць на зямлі, чаму граф ня можа працаваць? Няхай паспрабуе, які цяжкі гэта кавалак хлеба. Не дарма расейская прыказка кажа: „трудом праведным не наживеш палат каменных".Прыказка гэтая супадае з поглядамі ня толькі беларускага і ўк-

раінскага народаў, але і польскага. Дык на якіх умовах сялянства павінна атрымаць зямлю, з выкупам ці бяз выкупу? Зразумела, што ніякага выкупу не павінна быць, само слова выкуп азначае, што сялянства павінна некаму плаціць грошы за зямлю. Гэта азначае, што народ павінен плаціць грабежніку за заграбленую ад сябе зямлю, бо на вялікія маёнткі народ глядзіць, як на рэч сілком ад яго забраную. Ніводная партыя, што лічыць сябе абаронцай працоўных не павінна згадзіцца з прынцыпам выкупу зямлі. Ніколі ня згодзімся мы — прадстаўнікі беларускага сялянства з гэтым прынцыпам. Ведаем, што бальшыня з ППС будзе пратэставаць супраць гэтага. Забіраньне зямлі без адплаты не зьяўляецца нечым немагчымым і з дзяржаўнага пункту гледжаньня ня ёсьць нечым анархістычным. Што гэта так, мы бачылі прыклады ў Эстоніі, дзе заканадаўчая ўстанова гэта прыняла, а адміністрацыйныя ўлады праводзяць адпаведныя законы ў жыцьцё. Калі была гутарка аб забраньні зямлі выключна ад беларусаў, украінцаў і расейцаў, тады (я кажу аб ведамых законах з 17-га сьнежня 1920 г.) не гаварылася ані аб выкупе, ані аб мінімум валоданьня. Былі забраны і большыя маёнткі, як гр. Хрэбтовіча, Буценёва ды іншых і меньшыя хвальварачкі купленыя сапраўды за крывава зарабленыя грошы. Яшчэ больш, закон быў злаўжыты і было забрана тое, што нават ня можна было забіраць, напр. мліны. Злаўжываньні пайшлі так далёка, што закон пашырылі на абшары, якія не падлягалі яму. Каб ня быць пустаслоўны, дам наступны прыклад: на аснове гэтага закону быў забраны на карысьць дзяржавы млін Старыя Каробчыцы ў Сакольскім павеце і гэты млін, як

уласнасьць дзяржавы загадам прэзыдэнта быў прызначаны на продаж.

Калі спадары ў свой час прызналі, што можна забраць без адплаты маёнткі ад беларусаў, украінцаў і расейцаў, будзьце пасьлядоўныя і зрабеце гэта самае са сваімі маёнткамі.

Абгаворваны праект закону ані як цэласьць, ані ў частках не адказвае вышэйуспомненым варункам, але якраз пярэчыць ім. Ён зьяўляецца новаю спробаю абшарнікаў улезьці ў кішэні працоўных, гэта замаскаваная эксплятацыя працы мазалістых сялянскіх рук.

Праект закону мае ня толькі гаспадарчае значэньне, ён мае палітычны характар. Ён моцна прасякнуты шавінізмам. Скажу выразна, ён мае на мэце аграбленьне беларускай, украінскай, расейскай, нямецкай і літоўскай меньшасьцяў на карысьць польскіх салдатаў, урадаўцаў і нават селяніна, які паводля гэтага закону будзе перанесены з паветаў перанаселеных на „Ўсходнія Крэсы". Гэты закон, гэта новая спроба экспансіі на ўсход, аб якой вы, спадары, увесь час марыце. Яна заліе нашыя землі чужым і шкодным элемэнтам, які запоўніць і без таго густыя шэрагі шпігуноў і правакатараў, абдараваўшы ўжо цяпер шмат каго з беларусаў дзялянкамі каля павятовых гарадоў. Праўда, гэтыя дзялянкі вельмі малыя — каля 3-ох аршынаў удаўжкі ды ўсяго 1 аршын ушыркі. Але што-ж, відаць беларусы ў Польшчы ня маюць права на большыя дзялянкі.

Гэты закон мае на мэце змаганьне з нацыянальнымі меньшасьцямі, іх эканамічнае здушэньне. Відаць гэта ня толькі з параграфаў, якія гавораць аб тых, каму зямля мае быць прыдзелена, але і з параграфаў, што акрэсьліваюць аб'екты прызначаныя да падзелу. Для

земляўласьнікаў непалякаў уведзены адмысловы параграф Нр. 3, на аснове якога ад іх забіраецца ўсё: і ворную зямлю, і сенажаці, і лясы, і гаспадарскія ўладжаньні, і будынкі. Я не зьяўляюся абаронцаю вялікае зямельнае ўласнасьці, аднак мушу сказаць, што ня можна іначай ставіцца да польскага абшарніка, а іначай да земляўласьнікаў — беларусаў, украінцаў, расейцаў, немцаў і іншых. Зусім не сумляваюся, што як правыя так і левыя партыі будуць згодна галасаваць за такія параграфы, як пар. Нр. 3. У падобных выпадках ніхто з спадароў паслоў ня ўспомніць аб Вэрсальскім Трактаце на які, калі вам гэта карысна, вы так ахвоча любіце спасылацца і які (трактат) парушаецца пунктам 3-цім гэтага закону. Дык што-ж, няхай спадары земляўласьнікі няпольскай нацыянальнасьці, асабліва расейцы, што адзначаюцца вынятковай ляяльнасьцю, адчуюць удзячнасьць за мінулае. А ўдзячнасьць гэтую атрымаць ёсьць за што. Гэта-ж ня хто іншы як расейская шляхта пасьля 1863 году не з нацыяналістычных меркаваньняў, а з клясавых, перашкодзіла аднаму чалавеку правесьці падзел маёнткаў на нашай тэрыторыі між сялянамі. (Голас: Каму?).

Гэты самы палітычны характар мае і пар.2. Паводля гэтага параграфу маёнткі г. зв. мёртвае рукі, г. зн. манастырскія, касьцельныя ды іншыя, што зьяўляюцца ўласнасьцю каталіцкага касьцёлу, могуць быць падзелены згодна з даўмоўленасьцю з Апостальскаю Сталіцаю. Што датычыць маёнткаў іншых веравызнаньняў, дык тут аб даўмоўленасьці няма гутаркі, а гаворыцца толькі аб выслуханьні апініі іхных праўных прадстаўніцтваў. Ведама, што ў адносінах да праваслаўнай царквы будзе

ўжыты прынцып безагляднасьці, бо мітрапаліт Дзяніс выдасьць такую апінію, якую яму падыктуе сп. Пекарскі.

Назоў кожнага закону звычайна мае ў сабе кароткі, але вельмі выразны ягоны зьмест. Назоў гэты кажа: „Закон аб парцэляцыі і асадніцтве". Такім чынам гэта не закон аб зямельнай рэформе, — кардынальнай зьмене парадку землекарыстаньня, а закон, што творыць гаспадаркі для ўрадаўцаў, заслужаных, былых салдатаў польскага войска і г. зв. Сярэдняе Літвы, для ўдоваў і сіротаў, што засталіся па забітых у польскім войску і войску Сярэдняе Літвы, для ўрадаўцаў і нават для сыноў абшарнікаў, нават калі іхнім бацькам пакінулі па 180 ці 300 гэктараў. Такім чынам паводля гэтага закону зямлю могуць атрымаць ўсе апрача сялянства. Селянін і ягоныя інтарэсы ўспомнены ў гэтым законе толькі пабочна. Праўдападобна селянін атрымае зямлю толькі тады, калі нешта застанецца пасьля надзелу абшарніцкіх сыноў. Іначай кажучы нічога або амаль нічога. Так будзе выглядаць гэта ў карэннай Польшчы. На беларускіх і ўкраінскіх землях беларускаму і ўкраінскаму селяніну будзе дадзена права захапляцца парцэляцыяй, прыездам на „асады" новых паноў якія маюцца распачаць прышчэпліваць яму заходнюю культуру. Што гэта будзе так, бачу з таго, як камісія як агню баялася прыняць папраўку аб тым, што зямля павінна быць падзелена паміж мясцовага насельніцтва.

Разумная дзяржаўная палітыка цяпер, калі ўведзен у жыцьцё закон з 17 сьнежня 1920 г. павінна, адкінуць усякую думку аб высыланьні на г. зв. „Усходнія Крэсы" новых шэрагаў каляністаў; падобная калянізацыя раўназнач-

на жабрачай торбе. На беларускіх і ўкраінскіх землях ворнае зямлі засталося вельмі мала. Калі правесьці падзел згодна з гэтым законам, не пасылаючы да нас каляністаў, то і тады на карысьць беларускага сялянства прыпадзе меньш чымся ў Кангрэсоўцы, Пазнаншчыне ці на Памор'і на карысьць польскага селяніна. Каб ня быць пустаслоўны падаю шэраг статыстычных дадзеных з табліцаў, якія я атрымаў з Міністэрства Зямельных Рэформаў.

Калі кожнаму ўласьніку пакінуць па 180 гэктараў дадаўшы 10% агульнага абшару для павялічэньня прамысловых маёнткаў, то тады запас ворнае зямлі для падзелу будзе выглядаць гэтак: Кангрэсоўка — 635844,12 гэктараў, Віленская Адміністрацыйная Акруга — 54527,68 гэкт., ваяводзтвы: Наваградзкае, Палескае і Валынскае 504296,76 гэкт., землі былое нямецкае акупацыі — 568793,47 гэкт., Сьлёнзкае ваяводзтва — 40775,77 гэкт.

Калі ўзяць пад увагу, што гэтыя дадзеныя былі сабраны ў 1921 годзе і ў гэты запас увайшлі землі потым адданыя пад вайсковае і цывільнае асадніцтва ў колькасьці ня меньшай за 240000 гэкт. ворнае зямлі, то запас зямлі на „Ўсходніх Крэсах" зьменьшыцца на гэтую колькасьць. Атрымаем запас зямлі: для „Ўсходніх Крэсаў" 318842,44 гэкт., а для ўсяе Польшчы 2016656,16 гэкт., што складае адносіны 2 да 13 або каля 16%. Вясковага насельніцтва — паводля падліку Ўладыслава Грабскага ў ягонай працы: „Społeczne gospodarstwo agrarne w Polsce" ў Польшчы маем 19396182 асобы, з гэтага на „Крэсах" 3676000, што складае 19% агульнае колькасьці. Гаспадаркаў ніжэй за 5 гэкт., г. зн. такіх, якія неабходна павялічыць ёсьць у цэлай Польшчы 2109587, а на

„Ўсходніх Крэсах" з паветамі: Троцкім, Ашмянскім і Сьвянцянскім каля 310126, што роўна каля 15% агульнай колькасьці дробных гаспадаркаў. Каб дробныя госпадаркі ўва ўсёй Польшчы падняць да 5 гэкт. патрэбен запас зямлі у колькасьці 6040932,4 гэкт., а для „Ўсходніх Крэсаў" 623519,04 гэкт. Такім чынам запасам 2016656 гэкт. можна ўва ўсёй Польшчы заспакоіць толькі 36% зямельнага голаду. На „Ўсходніх Крэсах" запасам 318842,44 гэкт. можна заспакоіць каля 50% г. зн. меней, чымся ў Варшаўскім ваяводзтве, на якое прыпадае 51%, і ў якім якасьць зямлі а таксама і яе прыбыткавасьць шмат вышэйшая.

Калі прыняць для „Крэсаў" норму ня 5 гэкт., але 10, бяручы пад увагу, што нашыя землі пяшчыстыя да камяністыя, а значыць больш чымся ў 2 разы горшыя за землі ў іншых частках Польшчы, то і тады ў нас можна заспакоіць меньш чымся 25% усяе патрэбы, г. зн. меньш чымся ў іншых частках Польшчы. Гэтае цьверджаньне мае абаснаваньне ў дыскутаваным праекце закону, бо самы аўтары яго прапануюць самазабесьпячальныя гаспадаркі для „Ўсходніх Крэсаў" па 45 гэкт., а для іншых частак Польшчы па 25 гэкт.

Вышэй аналізаваныя статыстычныя дадзеныя гавораць выразна аб тым, што аб падтрымоўваньні новага польскага асадніцтва на беларускіх землях ня можа быць і гутаркі. Свабоднае зямлі для калянізацыі на Заходняй Беларусі няма, запас яе там складае каля 16% усяго запасу ўва ўсёй Польшчы. Гэты процант не перавышае працэнтнай колькасьці несельніцтва „Крэсаў" у адносінах да ўсяга насельніцтва Польскае Рэспублікі. Тое самае

ўбачым, калі параўнаем колькасьць дробных гаспадаркаў на „Ўсходніх Крэсах” з колькасьцю іх ува ўсёй Польшчы.

Ня бачым таксама, каб на кожную асобу вясковага насельніцтва на „Ўсходніх Крэсах” прыпадала зямлі (бяручы агулам ворную зямлю, сенажаці і пашу) больш чымся ў іншых частках Польскае Рэспублікі. Паводля „Rocznika Statystycznego Polskiego” у 1921/22 г. у Кагрэсоўцы на 7758000 вясковага насельніцтва прыпадала ворнае зямлі, сенажацяў і пашы 9278702 гэкт. г. зн. больш чымся 1 гэкт. на асобу; у былой прускай частцы на 2 мільёны вясковага насельніцтва прыпадае 3128031 гэкт., або больш як 1,5 гэкт.; на ўсходніх землях на 3676000 гэткага насельніцтва парыпадае 5984138 гэкт., таксама каля паўтара гэктара на асобу. Бяручы пад увагу, што нашая зямля ў некалькі разоў горшая за зямлю ў іншых частках Польшчы, прыйдзем да выснаўку, што аб польскім асадніцтве на нашай тэрыторыі ня можа быць гутаркі, калі мы ня хочам брутальна парушаць інтарэсы мясцовага насельніцтва. З паданых вышэй лічбаў бачым, што магчымасьць заспакаеньня зямельнага голаду на „Крэсах” зусім такая самая, як і ў іншых частках Польшчы, і пад гэтым оглядам „Крэсы” ня маюць ніякае перавагі.

Пасьля ўсяго вышэйсказанага, пытаюся ў спадароў, дзе там на „Ўсходніх Крэсах” гэтыя вялізныя запасы зямлі, аб якіх усе польскія партыі так любяць гаварыць? Дзе тая зямля для новае калянізацыі? Яе там няма, увесь гэты закон мае на мэце не зямельную рэформу, але палянізацыю беларускіх і ўкраінскіх земляў. Ён мае на мэце другую парцэляцыю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

Праўда, робіцца спроба прыкрыць гэты каляніізацыйны цынізм фігавым лістком, якім зьяўляецца папраўка каб гэты закон назваць: — „Закон аб выкананьні зямельнай рэформы”. Гэты фігавы лісток, зразумела, вырас на фігавым дрэве, якім у адносінах да беларускага насельніцтва зьяўляецца партыя „Вызваленьне”. Стараецца наляпіць яго на гэты закон адзін з першых і найбольш старанных абаронцаў асадніцтва на „Крэсах”, пасол Панятоўскі.

Правыя і цэнтравыя групоўкі Сойму, прынамся адчынена ідуць на нас, усімі сіламі агітуючы за пляны калянізацыі; так званы левы бок — ППС і „Вызваленьне”, зьяўляючыся, скажу шчыра, шмат большымі абаронцамі асадніцтва, шмат большымі прыхільнікамі адбіраньня зямлі ад нашага сялянства, чымся нават правыя, вядзе, праўда выкручваючыся, як вуж на вілах, па сутнасьці горшую чымся фігавую палітыку ў адносінах да беларускага і ўкраінскага народаў — палітыку зрады і ашуканства.

Калі ў часе выбараў трэба было здабыць голас беларускага селяніна то такія спадары з „Вызваленьня” як Ст. Гэльман, Галко, Адамовіч, Пятроўскі і іншыя на ўсё горла крычалі на местачковых рынках на беларускіх землях: „Прагонім асаднікаў, зямлю аддамо мясцоваму насельніцтву” і г. д.

Іхнія найміты атуманеныя вызваленцамі — дробныя агітатары шапталі на вуха: „Вызваленьне гэта бальшавікі, галасуйце за „Вызваленьне”, мы прагонім асаднікаў і зямлю аддамо вам за дарма”.

Некаторая частка беларускага насельніцтва часткова паверыла ў гэтае баламуцтва, якое

ў сапраўднасьці было сьведамым палітычным ашуканствам і галасавала за кандыдатаў „Вызваленьня". (Голас: Брава „Вызваленьне"!)

Сяньня, амаль пасьля трох год працы Сойму выявілася, што „Вызваленьне" кідала беларускаму народу словы, а асаднікам дзеяньні. „Мы, бальшавікі, выкінем асаднікаў, зямля за дарма", — гэта для беларускага народу. Дзялянкі зямлі і дзесяткі мільёнаў злотых — гэта для польскіх асаднікаў. І адны, і другія павінны быць задаволеныя.

Гэтая палітыка праводзілася партыяю „Вызваленьне" ў часе ўсіх галасаваньняў на паседжаньнях Камісіі Зямельных Рэформаў, дзе часта за папраўкі, якія падаў пасол Макаўка з Украінскага Клюбу або я, галасавалі толькі мы ўдваіх. Прадстаўнікі польскіх партыяў у гэтым ліку, зразумела, і „радыкалы" з „Вызваленьня", і сацыял-калянізатары з Польскай Партыі Сацыялістычнай, галасавалі супроць нашых папраўкаў, затое папраўкі „Вызваленьня", накіраваныя на адбіраньне зямлі ад беларускага народу, былі прыманыя згодна ўсімі польскімі партыямі.

Як на тыповую пад гэтым оглядам зьвярну ўвагу на папраўку паслоў „Вызваленьня": Панятоўскага, Маліноўскага і Санойцы да пар. 44. Папраўка кажа: „Пры кожнай парцэляцыі маёнтку або яго часткі найменьш 25% новаствораных гаспадаркаў будзе прызначана для вайсковых інвалідаў і заслужаных салдатаў польскай арміі і былых войскаў Сярэдняе Літвы, а таксама польскіх дабраахвотніцкіх аддзелаў". (Кернік: І вы арымаеце, бо і ўкраінцы служылі ў войску.) Такім чынам „Вызваленьне" хоча ня меньш як 25% і, зразумела, ня больш як 100% новых гаспадаркаў аддаць но-

вым асаднікам ня толькі калі будзе дзяліць увесь маёнтак але нават калі-б дзялілася частка яго. Пасьля прыняцьця гэтае папраўкі сам аўтар яе пасол Панятоўскі засаромеўся свайго адчыненага налёту на беларусаў і ўкраінцаў і хацеў скрэсьліць слова „найменш". Што можа атрымацца з гэтага „найменш"? А вось што. Уявем сабе што дзеляць 120 гэкт. На аснове гэтае папраўкі дзьве вялікія гаспадаркі будуць аддадзены асаднікам, а 30 гэкт. застанецца. Але і гэтыя 30 гэкт. будуць аддадзены розным заслужаным, прыслужнікам, можа нават сацыялістам (Вясёласьць), зразумела польскім сацыялістам, не беларускім, а што застанецца мясцовым малазямельным? Нічога. Гэта будзе пры „найменш", а калі не „найменш", то і ўсе 120 гэкт. атрымаюць асаднікі. Гэта зямельная палітыка „Вызваленьня" на г. зв. „Крэсах Усходніх" (Голас: Дрэнныя сябры).

Гэткую самую палітыку вядзе і Польская Партыя Сацыялістычная, хоць у часе выбараў, жанглюючы словам „таварышы" пры спатканьнях з беларускімі сялянамі, яны абяцалі беларусам зямлю. Ня думаю каб не таварышы, але скажу, паны: Уэмбло, Дзеньгелеўскі, Валіцкі і іншыя — гавару аб іх таму, што яны атрымалі беларускія мандаты — казалі перад выбарамі, што іх партыя будзе даваць грошы на падтрымку польскіх асаднікаў і прадстаўнікі іх партыі ў Камісіі Зямельных Рэформаў будуць галасаваць за высыланьне на беларускія і ўкраінскія землі польскіх вайсковых і цывільных асаднікаў. Праўда, у часе выбараў яны гаварылі выбаршчыкам адно, а цяпер робяць дзяржаўную нацыянальна-шавіністычную і каланізацыйную палітыку. Тады ім патрэбны былі беларускія галасы, а цяпер

ім патрэбна імпэрыялістычная Польшча! Цяпер можна ад ашуканага беларускага выбаршчыка з-пад носа ўхапіць кавалак зямлі і аддаць яго каляністу-паляку.

Закон гэты мае характар мілітарыстычна-палянізацыйны. Калі-б ён меў на мэце перабудову парадку землекарыстаньня, ня было-б патрэбы гаварыць аб надзельваньні зямлёю былых салдатаў. Калі гэты салдат па прафэсіі земляроб і малазямельны, то ён і так атрымае надзел або павялічэньне свае гаспадаркі; а калі ён ня мае нічога супольнага з земляробствам, то няма патрэбы даваць яму зямлю. Калі ён інвалід, дзяржава павінна забясьпечыць яго адпаведнай грашовай пэнсіяй.

Праз вайсковую калянізацыю спадары хочаце стварыць на „Ўсходніх Крэсах" зялезны вал, аб якім у свой час гаварыў з гэтае трыбуны гэнэрал Сікорскі. (Голас: Кітайскі мур). Відавочна спадары плянуеце, што паселеныя на нашых землях салдаты-каляністы будуць фундамантам пад гэты вал. Моцна памыляецеся, калі так думаеце. Сьмела магу сказаць і гісторыя гэта пацьвердзіць: палітыка вайсковае калянізацыі зьяўляецца дынамітам для ўсходніх межаў Польшчы, і чым болей іх там пасадзіце, тым хутчэйшы і мацнейшы будзе ўзрыў, пасьля якога з цяперашняй усходняй мяжы і сьледу не застанецца. (Галасы: Ого!) Сваёю зямельнаю палітыкаю вы творыце новых дысыдэнтаў, а, спадзяюся, спадары ведаеце, што гэта дысыдэнты і якую ролю яны згулялі ў лёсе Польшчы. (Голас: Што гэта мае супольнага з зямельнаю рэформаю?). Гэткую самую ролю можа згуляць выклíканае вашаю зямельнаю палітыкаю абядненьне беларускага і ўкраінскага сялянства, бо тыя самыя прычы-

ны выклікаюць тыя самыя вынікі. Спадары мусіце памятаць, што гісторыя ня ведае помсты, але ведае кансэквэнцыі.

На заканчэньне скажу, што чым болей асаднікаў вы пасадзіце на нашых землях, тым хутчэй і больш рашуча яны будуць выкінуты адтуль. Наш народ ніколі ня згодзіцца, каб ад яго забралі тое, што яму праўна належыцца. Гэта нашая зямля. Нашых бацькоў і дзядоў там катавалі. Паны палякі там танцавалі мазурку, а нас катавалі і забівалі. (Гоман. Голас: Хто? Маскалі вас катавалі!).

Вы сееце вецер, пажняце буру і нават ня буру а навальніцу і чым больш старанна і гусьцей будзеце сеяць, тым хутчэй атрымаеце ўмалот. Перажыў наш народ паншчыну польскага абшарніка, перажыве і новы гатунак паншчыны — паншчыну польскага салдатаасадніка.

Каб зьмяніць гэты праект закону ў напрамку, які адказвае інтарэсам беларускага народу мы будзем падаваць папраўкі, аднак добра ведаем наперад, што ніякія нашыя папраўкі ня будуць прыняты і таму будзем галасаваць супроць гэтага закону.

Мы не наіўныя, не спадзяёмся на нікога, толькі на свой народ; не чакаем, што нехта прыйдзе, нехта зробіць, і нехта дасьць; стаім пры сваім нацыянальным сьцягу, імкнёмся да незалежнасьці Беларусі і глыбока верым, што гэта асягнем.

## *ЗАЯВА Ў ЧАСЕ АПОШНЯГА ЧЫТАНЬНЯ ПРАЕКТУ ЗАКОНУ АБ ПАРЦЭЛЯЦЫІ І АСАДНІЦТВЕ.*

*зробленая 17-га ліпеня 1925 г.*

Высокі Сойме! Ад імя Беларускага Клюбу заяўляю наступнае:

Закон аб парцэляцыі і асадніцтве, які толькі апошнімі днямі атрымаў назоў закону аб зямельнай рэформе, ня мае на мэце палепшаньне эканамічнага і сацыяльнага палажэньня працоўных безьзямельных і малазямельных сялянскіх масаў. Ён ёсьць перадусім законам палітычным, які мае на мэце адчыненае заграбленьне беларускай зямлі і адданьне яе ў рукі прыбылых з Польшчы, каб гэтым аканчальна зруйнаваць беларускае сялянства пад оглядам эканамічным і культурным, а адначасна паняволіць яго пад оглядам сацыяльным.

Доказам гэтага зьяўляюцца §§ 44, 50, 51, 52 і іншыя, што выразна падтрымоўваюць асадніцтва на беларускіх землях, а таксама сам парадак і спосабы праводжаньня парцэляцыі і асадніцтва, паданыя ў законе, якія даюць ураду, ці дакладней, Міністру Зямельных Рэформаў шмат паўнамоцтваў да дзеяньня паводля ўласнага погляду. Да ўрадаў, што ўносяць гэткія прапановы законаў, зразумела, даверу мець ня можам. Усе намаганьні беларускіх і ўкраінскіх паслоў у Зямельнай Камісіі

ў часе дыскусіі праекту закону аб парцэляцыі і асадніцтве ў выглядзе папраўкаў, што мелі за заданьне скрэсьліць ці злагодзіць параграфы, якія заграблівалі ў ганебны спосаб зямлю беларускага народу, зводзіліся на нішто, бо ўсе польскія партыі як правыя, так і левыя аграмаднаю сваёю бальшынёю зусім сьведама гэтых папраўкаў пад увагу ня бралі.

Калі, аднак, праект закону ўвайшоў на пленум Сойму і калі гэтыя польскія партыі з выразным цынізмам апрабавалі ня толькі самыя параграфы закону скіраваныя супраць нас, але і розныя папраўкі, калі безаглядна былі адкінуты папраўкі беларускіх паслоў, і калі гэтыя паслы з абодвух клюбаў супроць гэтага запратэставалі, хапаючыся за апошнюю зброю — вострую абструкцыю, не баючыся суб'ектыўнага тарнаваньня Прэзыдыюмам Сойму соймавага рэгуляміну, ня ўступаючы перад фізычнаю сілаю некаторых польскіх паслоў з правага боку, што фізычна зьневажалі беларускіх паслоў, якія выказвалі перад сваім народам і ўсім сьветам сваё справядлівае абурэньне, — тады прадстаўнікі Прэзыдыюму Сойму, ураду а таксама цэнтравых і левых польскіх клюбаў, зьвярнуліся да беларускіх паслоў з прапановаю навязаньня перамоваў дзеля паразуменьня ў справе закону і, як яны казалі, з мэтаю прыняцьця пад увагу зямельных дамаганьняў беларускіх паслоў.

Выявілася, што гэтыя прадстаўнікі давалі нам розныя слоўныя абяцаньні адносна зьмены, быццам на нашую карысьць, некаторых параграфаў закону, якія ня былі істотныя, аднак зусім не выракаліся далейшага асадніцтва прыбылых на нашых землях. Таму перамовы былі перарваны.

Дзеля таго як прадстаўнікі звыш 2-ох мільённага беларускага народу ў Польшчы заяўляем, што з ніякім асадніцтвам не пагодзімся ніколі; будучы бясьсільныя ў змаганьні за сьвятыя правы свайго народу ў Сойме, мы перанясём гэтае змаганьне вонкі Сойму, вядучы яго аж да перамогі. Беларускі народ, пастаўлены польскаю асадніцкаю палітыкаю перад дылемаю „быць ці ня быць", напэўна нас падтрымае ў гэтым змаганьні. Беларускі народ свае зямлі, якую ён заўсёды абрабляў уласным мазалём, паліваў крыёю і потам, не аддасьць нікому незалежна ад таго хто-б яе ні прысабечваў і ўласнымі рукамі сам яе возьме бяз ніякіх выкупаў ці адплатаў.

З гэтае высокае трыбуны магу сьцьвердзіць, што ў 1925 г. ня пойдзем у сьлед нашае шляхты з 1569 г. Не ўпадзём перад вамі на калені і ня будзем прасіць вас так, як пала на калені перад каралём Зыгмунтам Аўгустам нашая шляхта, просячы не аддаваць беларускіх земляў Польшчы. Мы ня шляхта, мы дзеці працы, дзеці батрацкія, дзеці беларускага сялянства, што памірае з голаду ў выніку польскае палітыкі. Ведаем, што ня трэба прасіць, але трэба браць і наш народ забярэ сваю зямлю, а мы, ягоныя прадстаўнікі гатовы скласьці сваё жыцьцё на ахвярным аўтары ў абароне правоў беларускага сялянства на зямлю сваіх продкаў.

Да праекту закону мы склалі шэраг папраўкаў і робім апошнія стараньні, каб як небудзь палепшыць гэты закон. Калі нашыя папраўкі ня будуць прыняты, будзем змушаны ізноў рэагаваць такім спосабам, які будзем лічыць за найбольш адпаведны ў даным моманце. Калі нашыя папраўкі ня будуць прынятыя, бу-

дзем галасаваць, зразумела, супроць праекту закону. Свае пячаці на тое, каб зацiснуць пятлю на шыi беларускага народу не паставiм нiколi, не баючыся нiчога.

---

### *ПРАМОВА Ў СПРАВЕ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЯ ЎМОВЫ АБ УЗАЕМНЫХ ГАРАНТЫЯХ З ФРАНЦЫЯЙ І АБ АРБІТРАЖЫ З НЯМЕЧЧЫНАЙ.*

*сказаная 2-га сакавiка 1926 г.*

Высокi Сойме! Ад iмя Беларускага Клюбу мушу ўзяць голас у дыскусii над пастановаю ў справе ратыфiкацыi ўмоваў зробленых у Лёкарно. Прынцып мiрнага вырашаньня мiжнародных спрэчкаў, бяссумнiву, павiнен быць прывiтаны прыхiльна ўсiмi народамi, аднак шлях па якому дзяржавы iдуць да гэтае мэты, павiнен быць падданы крытыцы. Пачынаючы ад Вэрсальскага Трактату, якi быў вынiкам збройнае перавагi аднаго боку, пераходзячы да Жэнэўскага Пратаколу, што апiраўся на трох асновах: арбiтражы, бясьпецы i раззбраеньнi i канчаючы на г. зв. Умовах Лёкарнскiх, урады часткi эўрапэйскiх дзяржаваў прабуюць ствараць штучны супакой у Эўропе, абмiнаючы зусiм справу паняволеных народаў. А справа паняволеных народаў зьяўляецца адным з дзяржаўных дзейнiкаў, якiя могуць вырашыць у будучым збройным змаганьнi. Вэрсальскi Трактат, як i Рыскi, як i Жэнэўскi Пратакол, а таксама i апошнiя ўмовы ў Лёкарно зусiм ня

прымаюць пад увагу прынцып самавызначэньня народаў, пакідаючы паняволеныя народы на ласку або няласку чужых ім урадаў. Прынцып самавызначэньня народаў адкінуты а замест яго ўстаноўлена перавага зброі, перавага дзікае фізычнае сілы, якую звычайна ўжываюць сучасныя ўрады з імпэрыялістычнымі нахіламі. І гэтыя ўрады хочуць шляхам міжнародных умоваў яшчэ замацаваць існуючае становішча, маючы наўвеце яшчэ большы гнёт паняволеных народаў і аканчальнае зьнішчэньне іх.

Польшча пад гэтым оглядам займае першае месца ў Эўропе, таму што яна загарнула ў свае межы тэрыторыі, заселеныя суцэльнымі гушчамі няпольскіх народаў. Як ніводная ў Эўропе дзяржава Польшча мае 40% нацыянальных меньшасьцяў, якія фактычна пазбаўлены грамадзянскіх правоў, сталіся нявольнікамі, з якіх зьдзекуюцца польскія ўрадаўцы шмат горш, чымся гэта рабілі амэрыканцы з нэграмі. Найгорш адчуваюць гэтую польскую няволю г. зв. „Усходнія Крэсы". 2,5 мільённы беларускі народ у Польшчы ўжо 7 год цярпіць самаволю, злаўжываньні, насільніцтва з боку польскае паліцыі, яе агэнтаў і іншых польскіх уладаў. Кожнага беларуса трактуюць як камуніста і пад клічам змаганьня з камунізмам паліцыя арыштоўвае дзесяткі тысячаў беларусаў, паддае іх нялюдзкім экспэрымэнтам а гэта: дзікаму катаваньню, паеньню нафтаю, дзеяньню электрычным токам і г. д. Польскія ўлады на беларускіх землях прабуюць стварыць нутраное Лёкарно, Лёкарно сьмерці, нутраны супакой, супакой магілы. Пасьля ўсяго таго, што адбываецца на нашых землях, беларус у словах сп. міністра Скжыньскага аб праве і спра-

вядліvasьці, аб тым, што не павінна быць ані пераможцаў, ані пераможаных, можа бачыць толькі цынізм дыплямата, пасунуты па-за ўсякія магчымыя межы, цынізм, які пацьвярджае праўдзівасьць цьверджаньня ведамага расейскага дзеяча Мілюкова, аб тым што палітыка гэта ашуканства. (Голас: Ашуканства?). Скажу вам парасейску: „политика это мошенничество".

Сп. міністар Скжыньскі павінен быў-бы ведаць праўду, што вонкавы супакой можа быць асягнуты праз нутраны супакой. Калі ня будзе нутранога супакою, ня можа быць надзеі і на вонкавы супакой. Сп. міністар Скжыньскі ўжо раз здолеў дэманстрацыйна гаварыць у Жэнэве аб уяўленай ім талеранцыі Польшчы адносна нацыянальных меньшасьцяў аб ня-божчыках г. зв. моўных законах, аб школьніцтве для меньшасьцяў, аб украінскім унівэрсытэце і гэткім чынам баламуціць сваіх эўрапэйскіх калегаў. А тымчасам што мы маем у Польшчы? Адказ вельмі кароткі, але балючы. Маем турмы, нялюдзкае катаваньне насельніцтва ў часе сьледзтваў, маем гнёт нацыянальны, рэлігійны і сацыяльны. Безаглядное нішчэньне беларускага школьніцтва і беларускай культуры пайшло так далёка, што польскія ўлады зьнішчаюць у зародку ўсякія спробы адчыніць прыватную беларускую пачатковую школу, арыштоўваючы настаўнікаў і штрафуючы сялянаў у якіх у хатах адбывалася навука ў роднай мове.

Гэты самы польскі шавінізм злучаны з бясправем выяўляецца і ў іншых галінах урадавай палітыкі. Справа ліквідацыі сэрвітутаў, вайсковае асадніцтва і калянізацыя „Крэсаў" польскім элемэнтам, гэта тыя яскравыя факты,

што сьведчаць аб безаглядным гнёце і экспляатацыі беларусаў Польшчаю.

А таму, пакуль не надыйдзе нутраное Лёкарно ня можа быць і гутаркі аб Лёкарне, што забясьпечыла-б нутраны супакой. Таму дамагаемся, каб да беларускага народу было ў поўні тарнавана права на самавызначэньне народаў, каб да беларускага народу ставіліся згодна з прынцыпам — свабодныя з свабоднымі і роўныя з роўнымі. Дамагаемся незалежнай Беларусі з урадам не работніцка-сялянскім, але сялянска-работніцкім. Ад імя майго Клюбу заяўляю, што будзем галасаваць супроць ратыфікацыі ўмоваў.

---

## *ЗАЯВА*
## *Ў СПРАВЕ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЯ КАНСУЛЯРНАЕ ЎМОВЫ ПАМІЖ ПОЛЬШЧАЮ І СССР,*

*зробленая 3-га лютага 1926 г.*

Высокі Сойме! Маю гонар скласьці наступную дэклярацыю: Ад імя Беларускага Клюбу, як праўнага прадстаўніка беларускага народу заходня-беларускіх земляў у справе зацьверджаньня Соймам кансулярнай умовы паміж Польшчай і Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік падпісанае прадстаўнікамі ўрадаў маскоўскага і варшаўскага 18-га ліпеня 1924 г. у Маскве, якая апынулася на соймавым форум для зацьверджаньня — заяўляю наступнае:

З огляду на незалежніцкія імкненьні беларускага народу, а таксама і таму, што ў адно-

сінах да беларускіх земляў ня было тарнавана права народаў на самавызначэньне, мы, праўныя прадстаўнікі гэтых земляў і беларускага народу ў Польшчы, які пакутуе пад неймаверным культурным, эканамічным і грамадзкім ціскам, правам давераных нам нашымі выбаршчыкамі мандатаў, выяўляючы іх волю і жаданьне незалежнасьці, самакіраваньня і самавырашаньня аб сваім лёсе, неаднаразова з гэтае трыбуны выказваліся супроць падзелу беларускіх земляў Рыскім Трактатам, як супярэчнаму прынцыпу самавызначэньня народаў.

Кансулярная ўмова, што стаіць сяньня на парадку дзённым Сойму зьяўляецца вынікам Рыскага Трактату і на ім апіраецца.

Яна ёсьць вынікам палітыкі маскоўскага і польскага ўрадаў, палітыкі, што перакрэсьлівае незалежніцкія імкненьні беларускага народу.

З якой мэтай гэта было-б ні роблена, так з аднаго як і з другога боку — Масквы ці Варшавы, якімі-б меркаваньнямі гэты учынак ні быў абасноўваны, незапярэчным фактам зьяўляецца, што гэтая канвэнцыя ёсьць новым актам, які прабуе перакрэсьліць імкненьні беларускага народу да незалежнасьці і аб'яднаньня ўсіх беларускіх этнаграфічных земляў у адно цэлае.

Няма сілы, якая-б здолела заглушыць жаданьне беларускага народу да аб'яднаньня і ўласнага свабоднага жыцьця і ягонае насьцярожаньне ў гэтым напрамку прысьпіць.

Таму, заяўляем, што будзем галасаваць супроць зацьверджаньня ўмовы, складаючы прапанову аб адхіленьні гэтае пастановы ў цэласьці.

## СЬПІС ПРАМОВАУ ПАСЛА ВАСІЛЯ РАГУЛІ СКАЗАНЫХ АД ІМЯ БЕЛАРУСКАГА ПАСОЛЬСКАГА КЛЮБУ У ПОЛЬСКІМ СОЙМЕ ПЕРШАГА СКЛІКАНЬНЯ (1922 - 1927 гадоў).

*(паводля пратаколаў соймовых паседжаньняў).*

1. У справе ўстрыманьня выкананьня загаду Адміністрацыйнага Дэлегата Ураду на Віленскія Землі аб пераняцьці на ўласнасьць дзяржавы будынкаў пры Вастрабрамскай вул. № 9 у Вільні. (Паседжаньне № 60, 31-га ліпеня 1923 г., балонкі 42 і 43).
2. У справе злаўжываньняў салдатаў 26-га палку ўланаў і паліцыі ў мястэчку Гарадзея, Нясьвіскага павету. (Пас. № 82, 27-га лістапада 1923 г., бал. 55, 56 і 57).
3. У часе дыскусіі праекту закону „Аб паўнамоцтвах для Прэзыдэнта Рэспублікі ў галіне стабілізацыі фінансаў". (Пас. № 91, 4-га студзеня 1924 г., бал. 60, 61 і 62).
4. У часе дыскусіі праекту бюджэту на 2-гую чвэрць 1924 г. (Пас. № 116, 7-га красавіка 1924 г., бал. 19, 20, 21 і 22).
5. У часе дыскусіі праекту закону „Аб забясьпечаньні і выкарыстаньні францускай пазыкі". (Пас. № 119, 11-га красавіка 1924 г., бал. 5, 6 і 7).
6. У часе дыскусіі праекту бюджэту Міністэрства Зямельных Рэформаў на 1924 г. (Пас. № 145, 8-га ліпеня 1924 г., бал. 19, 20, 21, 22 і 23).

7. У часе дыскусіі праекту закону „Аб замацаваньні палепшаньня дзяржаўных фінансаў, і палепшаньні грамадзкае гаспадаркі". (Пас. № 150, 15-га ліпеня 1924 г., бал. 69, 70 і 71).

8. У справе загранічнай палітыкі ўраду. (Пас. № 157, 29-га і 30-га кастрычніка 1924 г., бал. 8).

9. У справе праекту бюджэту на 1925 г. (Пас. № 158, 4-га лістапада 1924 г., бал. 46, 47, 48, 49, 50, 51, 52 і 53).

10. У справе праекту закону „Аб парцэляцыі і асадніцтве". (Пас. № 221, 25-га чэрвеня 1925 г., бал. 45, 46, 47, 48, 49, 50, 51, 52, 53 і 54).

11. У часе апошняга чытаньня праекту закону „Аб парцэляцыі і асадніцтве". (Пас. № 237, 17-га ліпеня 1925 г., бал. 14 і 15).

12. У справе праекту „Закону аб способах зьменьшаньня фінансавага крызісу". (Пас. № 252, 11-га лістапада 1925 г., бал. 20, 21 і 22).

13. У справе зацьверджаньня кансулярнае ўмовы паміж Польшчаю і СССР. (Пас. № 268, 3-га лютага 1926 г., бал. 16 і 17).

14. У справе зацьверджаньня ўмовы аб узаемных гарантыях з Францыяй і аб арбітражы з Нямеччынай. (Пас. № 274, 2-га сакавіка 1926 г., бал. 81 і 82).

15. У справе праекту закону „Аб папаўненьні бюджэту ад 1-га мая да 30-га чэрвеня 1926 г. і аб праекце бюджэту на час ад 1-га ліпеня да 30-га верасьня 1926 г." (Пас. № 288, 25-га чэрвеня 1926 г., бал. 70, 71, 72, 73, 74, 75 і 76).

16. У справе праекту закону „Аб упаўнаважаньні Прэзыдэнта да выдаваньня распараджэньняў з сілаю закону". (Пас. № 296, 21-га ліпеня 1926 г., бал. 3, 4, 5, 6, 7, 8 і 9).

17. У справе праекту бюджэту Міністэрства Рэлігійных Вераваньняў і Публічнае Асьветы на 1927/28 год. (Пас. № 315, 29-га студзеня 1927 г., бал. 19, 20, 21, 22 і 23).

18. У справе прапановы пракуратуры „Аб выданьні суду пяцёх паслоў".*) (Пас. № 317, 5-га лютага 1927 г., бал. 49, 50, 51, 52, 53, 54, 55, 56, 57 і 58).

---

*) Паслы „Грамады": Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Валошын і Галавач. Вынік галасаваньня: Тарашкевіч, — за выданьне суду — 163 галасы, супроць — 89 галасоў, няважных — 10 галасоў; Рак-Міхайлоўскі, — за выданьне суду — 165, супроць — 83, няважных — 11 гал.; Мятла, — за выданьне суду — 166, супроць — 83, няважных — 4 гал.; Валошын, — за выданьне суду — 165, супроць — 85, няважных — 9 гал.; Галавач, — за выданьне суду — 165, супроць — 84, няважных — 10 гал.

## ЗЬМЕСТ.



